

# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

27 ЛІСТАПАДА 1998 Г. № 48/3976 КОШТ 4 000 РУБ.



## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Усяго толькі два тыдні засталося да канца падпісной кампаніі на наш штотыднёвік на першае паўгоддзе 1999 года. Часу зусім нямнога, але ён яшчэ ёсць, каб сказаць сваё слова ў падтрымку беларушчыны і аб тым, што мы ёсць, былі і будзем, а для гэтага ўсяго трэба схадзіць у любое паштовае аддзяленне і аформіць падпіску на нацыянальную перыёдыку, каб заўтра не гаварыць, што беларускія выданні ніхто не чытае, і што мы гінем. Калі не можаце падпісацца на "ЛіМ" адразу на паўгоддзе, падпішыцеся на квартал, а то і на месяц. Паспрыяйце сваім словам аформіць падпіску на наш штотыднёвік блізкім да Вашага месца жыхарства бібліятэкам, школам, грамадскім установам. Кошт "ЛіМа" на адзін месяц* ***— 50 тысяч рублёў,*** *на квартал* ***— 150 тысяч*** *і на паўгоддзе* ***— 300 тысяч.***

**Наш індэкс — 63856.**



# Напачатку было слова

Першая спроба фестывалю беларускай драматургіі адбылася ў 1986 годзе. На жаль, яна не стала пачаткам традыцыі. Праз 13 гадоў шэсць вядучых тэатральных калектываў Беларусі зноў сустрэліся, каб паказаць нацыянальныя ўзоры свайго рэпертуару. Фестываль займеў прытулак — на бабруйскай сцэне, імя — В.Дуніна-Марцінкевіча, які 190 гадоў таму нарадзіўся ў тых мясцінах. Асноўны клопат па арганізацыі свята і размяшчэнні гасцей лёг на Бабруйскі гарвыканкам (старшыня У.Рамаlisted) і Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі (дырэктар Я.Бойка). У ліку заснавальнікаў, дзе першым значыцца Міністэрства культуры, выступіў і прэзідыум рады новага творчага саюза — літаратурна-мастацкай крытыкі (старшыня Р.Смольскі).

Адзіны калектыў, які збіраўся прыехаць і не змог, — гэта Люблінскі драматычны тэатр імя Юліуша Астэрвы са спектаклем паводле С.Кавалёва "Стомлены д'ябал". Яго аператыўна замянілі пастаноўкай коласаўцаў "Марлен... Марлен..." (рэж. М.Пінігін). П'еса напісана Д.Мінчонкам для народнай артысткі Беларусі Святланы Акружной, а прызам адзначана выканаўца ролі Служанкі Галіна Букаціна (яна ж — Гала ў "Таму што люблю...").



З сучасных аўтараў на фестывалі былі прадстаўлены толькі Алена Папова і Аляксей Дудараў. З сямі спектакляў тры з'яўляюцца перакладнымі, а чацвёрты — па матывах "Апошняй пастаралі" А.Адамовіча — увогуле абышоўся амаль без тэксту. Што яму, як ні дзіўна, не зашкодзіла.

Невялікая дыскусія наконт права рэжысёра разбураць тэкст узнікла падчас навукова-практычнай канферэнцыі. Пастаноўшчык М.Дзінаў досыць рэзка абараняў свае творчыя прынцыпы, хаця мог і не рабіць гэтага: спектакль усё сказаў за яго.

Нейкія дзіўныя токі звязалі залу са сцэнай, калі акцёры — Ігар Сігаў, Людміла Сідаркевіч і Міхась Камінскі — увасаблялі любоўны трохкутнік часоў Апакаліпсісу. Іх поўная самааддача разам з музыкай А.Залётнева і касцюмамі І.Сапіты, а таксама цікавае пластычнае вырашэнне спектакля здабылі яму заслужаныя апладысменты і першы прыз.

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі шмат што меў прапанаваць фестывалю. За апошнія гады ў ім пабачылі свет п'есы больш чым дзесяці сучасных аўтараў.

Па намінацыі рэжысуры быў адзначаны Віталь Баркоўскі — чалавек, чыя творчая біяграфія складвалася няпроста. Да "пестуноў лёсу" ён, ва ўсякім разе, не належаў. Ці не таму так удалася яму аднайменная пастаноўка па А.Паповай на сцэне Рускага тэатра? Праўда, другі яго спектакль, ужо з коласаўскімі акцёрамі — "Таму што люблю..." — крыху расчараваў гледачоў. Там былі самапаўторы, зацягнутасць, нематываваныя змены характараў.

А.Папова атрымала спецыяльны прыз Саюза літаратурна-мастацкай крытыкі за ўклад у беларускую драматургію, А.Дудараў — дыплом за распрацоўку гістарычнай тэматыкі. Уладзімір Шэлестаў (Рускі тэатр) адзначаны як лепшы выканаўца мужчынскай ролі.

Пасля кожнага спектакля (два з іх прайшлі ў ДК "Шыннік") на сцэну выходзілі фундатары з кветкамі і падарункамі — так віталі гасцей вядучыя прадпрыемствы Бабруйска. "Наш горад — сёмы па велічыні ў рэспубліцы, — сказаў намеснік старшыні гарвыканкама М.Кавалевіч, — і нам прыемна, што ён становіцца прыкметным культурным цэнтрам. Вы бачыце, якое ў нас прыгожае тэатральнае памяшканне. Мяркуючы па поўнай зале, бабруйчане любяць тэатр і будуць у яго хадзіць".

*(Працяг на стар. 3)*



## КОЛА ДЗЁН

***Пра што сёння гавораць людзі? Пра маразы і цэны. І гэта натуральна — жывыя ж людзі...Але нягледзячы ні на маразы, ні на цэны, у нашай краіне амаль штотыднёва праходзяць шыкоўныя фестывалі — тэатральныя, музычныя, кінафестывалі... Словам, наша краіна жыве актыўным культурным жыццём. І нічога дрэннага ў гэтым няма, але... І гэтае "але" ў кожнага сваё. І мы ўжо прывыкаем да гэтых шумных фестываляў і, відаць, калі яны на нейкі час прыціхнуць, то многія з нас могуць перапалохацца: "Што здарылася?" Да ўсяго, мы пачынаем ужо спакойна ўспрымаць і размовы аб інтэграцыі і Саюзе Беларусі і Расіі, бо бачым тое, што бачым, а не тое, што чытаем у нашых газетах і чуем па радыё і тэлебачанні... І хочацца пачуць голас зверху: "Людзі, якія б ні былі высокія маразы і цэны, але мы жывём у сваёй незалежнай дзяржаве, і якія яшчэ нас наперадзе чакаюць выпрабаванні — невядома, але гэтыя маразы і гэтыя цэны нашы, як і гэта краіна — наша краіна і яна будзе, нягледзячы ні на што, заўсёды нашай. Мы розныя, але давайце адкінем свае амбіцыі і будзем разам будаваць свой незалежны Дом — Рэспубліку Беларусь!.." І мы паверым гэтаму голасу...***

### ДАТА ТЫДНЯ

24 лістапада два гады назад адбыўся рэферэндум. Для адных ён стаў яшчэ адным днём перамогі, для другіх — "чорнай датай" у гісторыі нашай краіны.

### ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ

У адной з "прамых ліній" з вуснаў міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Васіля Стражава прагучала прызнанне: "Сёння ў пачатковай школе кожны трэці школьнік вывучае замежную мову. Падобнага няма ні ў краінах СНД, ні ва Усходняй Еўропе. Неўзабаве, спадзяюся, мы ўвогуле паставім еўрапейскі рэкорд, калі кожны другі "пачатковец" будзе займацца замежнымі мовамі". Гэта ўсё добра, але ж ці трэба тэрмінова такія рэкорды ў краіне, у якой яе нацыянальная мова на грані жыцця і смерці? І ці не варта зрабіць так, каб як мага хутчэй кожны школьнік ведаў у першую чаргу мову сваіх продкаў? Думаецца, нас бы за гэта не толькі б паважалі нашы суседзі славяне, але і ўвесь свет, і нас бы ставілі ўсім народам у прыклад як нацыю, якая, нягледзячы на ўсе эканамічныя цяжкасці, здолела пры сваім першым прэзідэнце не толькі падняць прэстыж роднага слова, але і цалкам адрадзіць нацыянальную мову, без якой не было б у свеце ні самых беларусаў, ні краіны Беларусь.

### ТРАГЕДЫЯ ТЫДНЯ

У Санкт-Пецярбурзе ў сваім доме па набярэжнай канала Грыбаедава невядомымі была забіта дэпутат Дзяржаўнай Думы РФ, лідэр партыі "Демократическая Россия" Галіна Старавойтава, якая не раз падкрэслівала свае асаблівыя адносіны да Беларусі. Па словах Галіны Васільеўны, яна — этнічная беларуска, у Беларусі жывуць яе сваякі, яе продкі родам з Гомельскай вобласці, а сама яна большую частку дзяцінства правяла ў Маладзечне. Са смерцю Галіны Старавойтавай у Расіі стала яшчэ на аднаго палітыка менш, які бачыў у Беларусі Беларусь, а не "Северо-Западный край Российской империи".

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

У друку з'явіліся дадзеныя Міністэрства статыстыкі Беларусі, паводле якіх сярэдні заробак сярэдняга беларуса ў кастрычніку гэтага года склаў 6 мільёнаў 102 тысячы рублёў або 30 долараў па рыначным курсе. Для параўнання: у Польшчы сярэдні заробак складае 350 долараў, у Чэхіі — 320, у Літве — 250 долараў. Лічбы гавораць самі за сябе...

### ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову "Аб сацыяльнай падтрымцы работнікаў бюджэтнай сферы", у якой прадугледжана падвышэнне з 1 лістапада акладаў бюджэтнікаў на 25 працэнтаў, а таксама даплаты ў памеры да 600 тысяч рублёў. І людзям крыху весялей... Але ці надоўга?..

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Мясцовыя ўлады Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці ўвялі эканамічны падатак на транспарт са смаленскімі нумарамі. Гэта рашэнне стала адказам на падобнае дзеянне ў адносінах да Беларусі з боку адміністрацыі Смаленскай вобласці Расійскай Федэрацыі. Цяпер толькі за кошт падатку з аўтатранспарту бюджэт Лёзненскага раёна штодзённа папаўняецца на 40 мільёнаў рублёў. Не ўвесь жа час суседзям бясплатна ездзіць па нашай зямлі...

### ВІЗІТ ТЫДНЯ

Нашу сталіцу наведаў выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі. Сваім візітам Барыс Абрамавіч быў расчараваны, бо запланаваная сустрэча з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам не адбылася. Б.Беразоўскі аптымістычна глядзіць на план рэфармавання Садружнасці, хоць расійскія камуністы і перашкаджаюць ажыццявіць яго задуму. Гаворачы аб далейшым лёсе самой Расійскай Федэрацыі, выканаўчы сакратар СНД выказаў думку, што яна можа развaліцца на нацыянальныя дзяржавы. І пра гэта гаворыцца не адным Беразоўскім...

### ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

У рэспубліканскіх выданнях з'явілася інфармацыя: "Мяркуючы па статыстычных дадзеных, аб'ём валавога ўнутранага прадукта ў студзені—кастрычніку гэтага года склаў 490 трыльёнаў 920 мільярдаў рублёў, у параўнаўчых цэнах ён вырас на 8,5 працэнта ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. За той жа час прамысловасцю рэспублікі выпушчана прадукцыі на суму больш за 511 мільярдаў рублёў, рост склаў 9,9 працэнта". Сапраўды, калі меркаваць па статыстычных дадзеных, то мы з кожным годам багацеем і багацеем...

### РЭКОРД ТЫДНЯ

Курс долара на "чорным" рынку наяўнай валюты ў Мінску дасягнуў рэкорднага паказчыка — 205 тысяч рублёў пры пакупцы і 210 тысяч пры продажы. Колькі яшчэ ў нас наперадзе такога тыпу рэкордаў — аднаму Богу вядома...

### ЗВАРОТ ТЫДНЯ

Члены аргкамітэта Кангрэса дэмакратычных сіл звярнуліся да старшыні БТ Рыгора Кісяля з прапановай да 50-гадовага юбілею Дэкларацыі правоў чалавека, які будзе адзначацца 10 снежня, заснаваць на тэлебачанні і радыё штодзённую праграму "Гадзіна дэмакратыі", у якой апазіцыя будзе мець магчымасць данесці свае погляды да народа. Цікава, а што было б, калі б Рыгор Кісель дазволіў апазіцыі мець магчымасць выступаць у прамым эфіры? Няўжо б канец свету настаў?

ФЕСТЫВАЛІ

# Папулярнасць расце

Праграма выступлення Канцэртнага камернага аркестра народных інструментаў у Вялікай зале Белдзяржфілармоніі пачалася і закончылася творамі яго мастацкага кіраўніка, народнага артыста СССР Яўгена Глебава, — "Уверцюрай" і "Гумарэскай". Прыцягвала мяккае, каларытнае гучанне. За пультам быў галоўны дырыжор аркестра Віктар Валатковіч.

На адным подыху быў выкананы новы твор "Фрэска памяці Віктара Дуброўскага" Генадзя Ермачэнкава — прэм'ера адбылася ў гэты вечар. Музыка, такая хвалюючая, захапляючая міжволі выклікала ў памяці вобраз натхнёнага таленавітага дырыжора ад Бога.

Доўгія, працяглыя апладысменты віталі "Зорны вальс" Рыгора Суруса, напісаны на тэму песні "Зорка Венера". З запалам, весела, часам гарэзліва гралі музыкі Канцэртную фантазію на тэму рускай народнай песні "Барыня" тульскага кампазітара Віктара Фаменкі: слухачы ледзь уседзелі на месцы, ногі "прасіліся" танцаваць. У выкананні сваёй "Вясейскай полькі" кампазітар Мікола Алешка ўдзельнічаў сам: ён, хлопец з вёскі Вясея з-пад Мінска, граў сола на гармоніку.

Фантазія на тэмы Джорджа Гершвіна трубача аркестра Уладзіміра Семенюка прысвячалася 100-годдзю з дня нараджэння Гершвіна. Упрыгожылі праграму полька Ягана Штрауса "Цягнік здавальненняў" і "Венецыянскі карнавал" Нікола Паганіні...

З аркестрам саліравалі лаўрэат міжнародных конкурсаў цымбаліст Міхась Лявончык, дыпламант міжнародных конкурсаў Марына Ільіна (балалайка). А таксама — спевакі. Лаўрэат міжнародных конкурсаў саліст Нацыянальнага тэатра оперы Алег Мельнікаў захапіў слухачоў артыстызмам, музыкальнасцю ў песнях Л. Захлеўнага, І. Лучанка, Г. Ермачэнкава... Расчуліліся публіка, калі было аб'яўлена, што прагучыць "Дом мой — сталіца" Я.Глебава ў выкананні Алега Мельнікава і салісткі аркестра Нэлі Душынскай. Многія памятаюць, як гучаў гэты дуэт у выкананні незабыўнага Анатоля Падгайскага ды Наталлі Гайды: іх галасы перакліkаліся, зліваліся, хацелася слухаць і слухаць. Але на гэты раз такога ўражання не адбылося. Бо для Алега Мельнікава была вельмі няручная тэсітура. Напісана ж для барытона, а не баса. Голас Нэлі Душынскай спадабаўся публіцы, яе выступленне ў той вечар мела поспех. Удала выступіла і дыпламант Міжнароднага конкурсу Алена Сало (мецца-сапрана).

"Наш аркестр зусім малады паводле ўзросту музыкантаў, дый створаны ён быў параўнальна нядаўна, — расказвае Віктар Валатковіч. — Мяккае, пявучае гучанне яму надаюць балалайкі, домры, цымбалы, гармонікі, гітары, баяны, медныя духавыя інструменты. Граем класічную, эстрадную, джазавую музыку. Шукаем новыя тэмбры, рытмы, гукавую палітру выканання. Арыентуемся на папулярную музыку. Аркестр выступае не толькі па Беларусі, але і ў Расіі, яго канцэрты адбываліся ў Польшчы, Германіі, Іспаніі".

Папулярнасць аркестра расце. Гэта і пацвердзіў вялікі поспех канцэрта на фестывалі "Беларуская музычная восень".

**Вера КРОЗ**



*На здымку: дырыжор Віктар Валатковіч.*

*Фота А.ПРУПАСА*

АНОНС

# Правы чалавека

Калі б існавала "кінематаграфічная" карта Беларусі, студыя "Таццяна" (Мінскі саюз кінематаграфістаў) была б адзначана на ёй як самае "неспакойнае" месца. Нягледзячы на фінансавы крызіс, нашы "таццяны" (Т. Логінава, Б. Лобан, Э. Мілова, Г. Нагаева, І. Пісьменная) рыхтуюць два (!) міжнародныя кінафэсты: кінафестываль праваабарончых фільмаў (1—6 снежня) і традыцыйны фестываль жаночага кіно ў Мінску (17—21 мая).

Міжнародны кінафестываль праваабарончых фільмаў студыя "Таццяна" ладзіць сумесна з расійскім праваабарончым фестывалем "Сталкер". Кінафестываль "Сталкер" існуе ўжо чатыры гады. Фільмы з яго калекцыі і склалі асноўную праграму мінскага кінафэсту. "Думаю, не ўсе беларусы ведаюць, што 1998 год — год правоў чалавека", — кажа І. Пісьменная. Хутчэй беларусы ведаюць пра тое, што яны, як "чорныя" скрынкі, запісваюць інфармацыю аб антыжыцці для ўсяго чалавецтва" (выраз С. Алексіевіч — прэзідэнта Міжнароднага фестывалю праваабарончых фільмаў). Аднак расійскі і беларускі кінафэсты не носяць палітычнага характару. Прыемна, што, акрамя расійскіх праваабаронцаў, нашых "таццян" падтрымалі аддзяленне па правах чалавека Прадстаўніцтва ААН у Беларусі, Хельсінкскі камітэт абароны правоў чалавека, Фонд Форда, Пасольства Каралеўства Швецыі.

...У фестывалі бяруць удзел ігравыя і дакументальныя стужкі з Францыі, Англіі, Польшчы, Швецыі, ЗША, Індыі, Грузіі, Літвы, Расіі, Беларусі. Тэмы іх розныя: ад сталінскага генацыду да праблем сексуальных меншасцяў. Асаблівa адзначу карціны "Могілкі мрояў" (рэж. Г. Хайндрава), "Галоп" (рэж. К. Занусі), "Я — Іван, ты — Абрам" (рэж. І. Зоберман), "Зона Любэ" (рэж. Д. Залатухін), "Ліст без слоў" (рэж. Л. Левінс), "Мэлвін Ван Піблз. "Толькі для дарослых" (рэж. М. Даніэльз), "Герой" (рэж. П. Лехто і Беатрыкс А. Вуд). Цікавая панарама беларускага дакументальнага кіно, якую склалі стужкі "Шлях на Курапаты" (рэж. М. Жданоўскі), "Бачыць перамогу" (У. Цяслюк), "Іншы", "Боль" (рэж. С. Лук'янчыкаў), "Сустрэчны іск" (рэж. А. Рудэрман і Ю. Хашчавацкі), "Пяць хвілін да кахання" (рэж. Э. Мілова і І. Пісьменная), "Пакахай мяне чорненькім" (рэж. Г. Адамовіч), "Аазіс" (рэж.Ю. Хашчавацкі), "Моманты радасці" (рэж. В. Басаў), "Лёсы людскія", "Нашы доўгажыхары" (рэж. Г. Бокач). Конкурсная праграма фільмаў будзе дэманстравацца ў кінатэатрах "Змена", "Перамога", а таксама ў Палацы прафсаюзаў (паказ бясплатны).

Наогул фестывальны тыдзень будзе вельмі насычаным. Плануюцца прэм'ерныя паказы фільмаў "Таталітарны раман", расійская актрыса В. Малявіна прадставіць монаспектакль на сваёй кнізе "Пачуй мяне, чысты сэрцам".

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

# У промнях... прызнання

Дзівосны народ — музыканты! Яны знаходзяць аднадумцаў, каб сабрацца і пайграць разам, хаця час для сяброўскіх сустрэч, здавалася б, не самы спрыяльны. Яны ўмеюць наладзіць свята для сябе і абудзіць смак да жыцця ва ўсіх, каму даваліся патрапіць на канцэрт, хаця жыццё навакольнае, здавалася б, не дае падстаў для радасці... Неўтаймоўныя таленавітыя людзі, музыканты заслужанага калектыву — Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале з маэстра М. Фінбергам збіраюцца разам і запрашаюць сваіх сяброў, прыхільнікаў на вялікую творчую вечарыну. Яна адбудзецца 30 лістапада ў канцэртнай зале "Мінск" і прадоўжыць цыкл папулярных канцэртаў-бенефісаў у гонар салістаў аркестра.

Гэтым разам героем вечарыны будзе знаны джазавы піяніст, імправізатар, аранжыроўшчык, аўтар музычных кампазіцый, а таксама энергічны арганізатар творчых праектаў, лаўрэат многіх, у тым ліку й міжнародных, фестываляў — Аркадзь Эскін. Неўзабаве яму споўніцца 60. Лепшая палова гэтых гадоў аддадзена беларускай эстрадзе. Сталейшае пакаленне слухачоў, напрыклад, памятае колішні ансамбль "Тоніка", якім кіраваў А. Эскін і салістам якога быў В. Вуячыч. Маладзейшыя ведаюць Аркадзя Барысавіча як саліста Дзяржаўнага канцэртнага аркестра, як лідэра віртуознага джазавага трыо. І нават — як дырыжора Першага беларускага фестывалю эстрадных аркестраў, што не замінала яму самому бліскуча выступаць падчас фестывалю.



Ах, якое гэта было непаўторнае фартэпіяннае сола! Імправізацыя піяніста, выхапленага промнем пражэктара з паўзмроку сцэны, прымусіла тады сцішыцца нават гаваркую галёрку... А колькі такіх непаўторных імгненняў абяцае нам будучая вечарына!

Праграма разнастайная. Бенефіцыянт будзе граць і з біг-бэндам, і са струннай групай Дзяржаўнага канцэртнага аркестра, і ў складзе трыо. Будучь і выступленні ў ягоны гонар — з удзелам салістаў-інструменталістаў. Новыя раскошныя аранжыроўкі для вялікага аркестра зрабіў Андрэй Шпянёў. Салістка Ірына Дарафеева падрыхтавала да канцэрта палітру джазавага вакалу. Маэстра Міхал Фінберг увесь вечар пашчыруе "на капітанскім мосціку"...

У выкананні Аркадзя Эскіна прагучаць яго, ужо, можна сказаць, хрэстаматыйныя "Іспанскія напевы", і кранальная мелодыя "Гісторыі кахання" Ф. Лея, і традыцыйныя джазавыя тэмы... Калі ж застанецца ён у промні пражэктара сам-насам з публікай, народзіцца сольная імправізацыя. Якая будзе музыка, падказаная творчым натхненнем? Піяніст даведаецца пра гэта толькі тады, калі ажыве-загучыць пад ягонымі пальцамі канцэртны раяль.

**С. ВЕТКА**

## "Званы Сафіі"

Фестываль пад такой назвай завяршыўся ў мінулую нядзелю ў Полацку. Традыцыйнае ўжо свята арганнай музыкі доўжылася сёлета амаль месяц і прысвячалася 500-годдзю надання старажытнаму беларускаму гораду Магдэбургскага права. Досыць разнастайная праграма ўключала ў сябе і прэм'еру сімфоніі Алега Янчанкі, напісанай паводле ўражанняў ад "Слова пра паход Ігараў", і выступленне прафесара з Аўстрыі — арганіста, педагога, тэолага Ёгана Трумэра, і дэбют дуэта спявачкі Наталлі Бярэзінай (Беларуская дзяржаўная філармонія) ды арганісткі Ксеніі Пагарэлай (канцэртная зала "Полацкі Сафійскі сабор")... Дарэчы, выступленні Ксеніі Пагарэлай занялі годнае месца ў фестывальнай праграме, азнаменаваўшы дзесяцігоддзе плённай працы гэтай самаадданай салісткі знанай арганнай залы.

АКЦЫЯ

## СНІД — бяда агульная

Шмат пагроз навісла над чалавецтвам напрыканцы другога тысячагоддзя. І сярод іх — самая страшная з усіх хвароб, пра якія калі-небудзь было вядома, — СНІД. На сучасны момант звыш 30 мільёнаў чалавек ВІЧ-інфіцыраваны, адна трэць з іх — ва ўзросце ад 10 да 24 гадоў. А памерла за час, калі быў выяўлены СНІД, каля 12 мільёнаў. Прыйшла гэтая хвароба цывілізацыі і на Беларусь. Па стане на 1 лістапада 1998 года ў рэспубліцы зарэгістравана 2 257 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, найбольшая колькасць — 1796 — у Гомельскай вобласці. 234 выпадкі выяўлены і ў Мінску. СНІД знаходзіць ахвяр сярод розных сацыяльных слаёў. Ахвярамі яго ўжо сталі не толькі бамжы, тыя, хто знаходзяцца за кратамі альбо выйшлі нядаўна на волю, а і студэнты, бізнесмены. Каля 90 працэнтаў усіх заражэнняў адбываецца праз ін'екцыйны ўвод у арганізм наркотыкаў, а таксама палавым шляхам. І ў нашай краіне ўжо нарадзіліся дзеці, якія атрымалі інфекцыю ад сваіх інфіцыраваных маці.

Гэтыя і іншыя жудасныя факты часта згадваюцца цяпер у самых розных аўдыторыях — з 20 лістапада па 18 снежня ў Мінску праходзіць акцыя "Дзеячы культуры, мастацтва, творчая моладзь супраць СНІД". Аб тым, наколькі вялікая ўвага надаецца гэтай глабальнай праблеме, ад паспяховага вырашэння якой залежыць быць ці не быць чалавецтву, сведчыць тое, што ініцыятарамі правядзення Акцыі выступіў не толькі Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІД, якому, як кажуць, і карты ў рукі, а і Міністэрствы культуры і адукацыі, Дзяржаўны камітэт па справах моладзі Рэспублікі Беларусь.

Пачатак мерапрыемстваў быў пакладзены культурна-забаўляльнай праграмай "Моладзь супраць СНІД", што прайшла ў акадэміі мастацтваў. Сёння ж у парку культуры і адпачынку імя Чалюскінцаў — акцыя "Без наркотыкаў". А асноўным мерапрыемствам стане студэнцкі фестываль "Моладзь супраць СНІД" з удзелам вядучых калектываў мастацкай самадзейнасці вышэйшых навучальных устаноў г. Мінска, правядзенне якога запланавана на 1 снежня ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце.

Супраць пагрозы зішчэння чалавецтва СНІДам выступаюць многія прафесійныя творчыя калектывы. У прыватнасці, да Акцыі падключыліся тэатры оперы і балета, тэатр-студыя кінаакцёра, рускі драматычны, дзяржаўны маладзёжны, тэатр імя Я. Купалы і іншыя, якія пакажуць у гэтыя дні свае лепшыя спектаклі. Чынны ўдзел прымаюць і вышэйшыя навучальныя ўстановы.

**Н. К.**

# Напачатку было слова

(Праця́г. Пачатак на стар.1)

Сваімі ўражаннямі пра фестываль беларускай драматургіі падзяліліся яго ўдзельнікі, знаўцы тэатра.

**Таццяна Арлова:**

— У мяне добрае ўражанне ад фестывалю. Здаецца, нарэшце прарвана блакада, звязаная з не зусім справядлівымі адносінамі нашага тэатра да нацыянальнай драматургіі. Ёсць сур'ёзныя імёны, рэжысёры зацікавіліся беларускімі аўтарамі. На жаль, на свята не былі запрошаны многія з іх, у тым ліку і здольныя аўтары "Вольнай сцэны" І.Сідарук і В.Казачонак. Засталіся ўбаку і лялькі, а ў гэтай галіне тэатральнага мастацтва таксама з'явіліся новыя перспектыўныя творцы.

**Пятро Васючэнка:**

— Галоўная выснова, якую я вынес з фестывалю, — тэатр немагчымы без літаратуры. Напачатку ўсё-ткі было Слова. Тэкст ёсць аснова дзеяння. Але і літаратура ў наш час, якую менш чытаюць, мае магчымасць рэалізавацца праз відовішча, або перфоменс. На нашых вачах адбылося пераўвасабленне аповесці А.Адамовіча — аповесці змрочнай, без катарсісу, без прасвету. (Маю на ўвазе "Апошнюю пастараль"). З дапамогай рэжысёра ў спектаклі з'явіліся і катарсіс, і надзея.

Што тычыцца канкрэтных тэатральных работ, то хацелася б адзначыць густоўнае, далікатнае і смешнае відовішча купалаўцаў ("Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча"), дзе больш акцёрскай, чым рэжысёрскай фантазіі. Прафесійна і роўна спрацаваў В.Мазынскі ў спектаклі "Уладзімір і Рагнеда". Гэта дыхтоўная белетрызацыя гістарычнага сюжэта. Праўда, гістарычныя рэаліі ў творы наўмысна адсунуты, іх месца заняла аўтарская мроя (легенда).

Так, драматург павінен ісці ў тэатр, але і тэатру пажадана працаваць у літаратурным катэксце, у кантэксце беларускага пісьменства, якое мае 1000-гадовую гісторыю. На жаль, узаемадзеянне паміж двума кантэкстамі не заўсёды адбываецца.

**Тамара Гаробчанка:**

— Да чатырох існуючых у Беларусі тэатральных фестываляў далучыўся яшчэ адзін. Могуць спытацца: а навошта столькі? Лічу, што гэты — беларускай драматургіі — самы неабходны. Пяць-шэсць гадоў таму ён быў немагчымы, і толькі зараз з'явілася мажлівасць драматургам і рэжысёрам сустрэцца сам-насам, як кажуць — вочы ў вочы. На жаль, малавата было і тых, і другіх...



Парадавала жанравая разнастайнасць; прадстаўлены ўсе традыцыйныя жанры: псіхалагічная драма, гістарычная п'еса, камедыя. Узаемаразуменню сцэны і залы спрыяў вобраз сучасніка ў п'есах А.Паповай. У спектаклях па Дудараву і Дуніну-Марцінкевічу прагучала актуальная і сёння праблема нацыянальнай самасвядомасці.

Гэты фестываль адрозніваецца ад іншых тым, што не стаў звычайнай "тусоўкай" зорак, якія і разбіраюць галоўныя прызы. Адзначаны людзі, што знаходзяцца як бы ў ценю (і незаслужана).

Галоўны ўрок фестывалю, я лічу, у поўным развянчанні звыклага тэзісу рэжысуры "няма чаго ставіць". Не падабаюцца п'есы — звярніся да прозы, як зрабіў гэта М. Дзінаў. Яму ўдалося знайсці сцэнічны эквівалент аповесці Адамовіча. Пры жаданні такіх твораў можна ў беларускай літаратуры знайсці нямала. Так што выснова аптымістычная: жыве беларуская драматургія, жыве беларускі тэатр.

**Людміла Грамыка:**

— Тры асноўныя ўрокі вынесла я з гэтага фестывалю. Першае: уразіла рашэнне журы, якое не стала раздзімаць старыя аўтарытэты, а прыгледзелася да новага (гэта тычыцца і рэжысуры, і акцёрскіх работ). З такім рашэннем цяжка не пагадзіцца. Яно справядлівае. Другое: у зону ўвагі ўведзены новыя драматургічныя імёны. Я назвала б, прынамсі, С.Кавалёва і С.Кандрашова. Гэта адукаваныя, разумныя людзі з асяроддзя, пазбаўленага тэатральных амбіцый.

Парадаваў поспех Алены Паповай. Думаецца, крытыка гатова да сур'ёзнай гаворкі пра яе творчасць.

Што тычыцца пастановачнага боку — рэжысёрскіх і акцёрскіх увасабленняў, то перад намі паўтарэнне пройдзенага і не ў лепшым варыянце. Адпрацаваныя тэатральныя мадэлі ў нас асвойваюцца як бы занава. Не то адставанне ў развіцці, не то наогул няма руху. Упэўнена: толькі нацыянальная драматургія адкрые тэатру новыя перспектывы.

**Валянціна Іўчанка**(сацыёлаг):

— Вельмі важна. што Першы фестываль беларускай драматургіі адбыўся ў Бабруйску. Такія святы стымулююць культурнае жыццё невялікіх гарадоў. Тым больш, што мясцовы тэатр не мае магчымасці выязджаць з гастролямі, адсутнічаюць кантакты, абмены. Абнадзейвае рашэнне праводзіць фестывальныя агляды раз на тры гады. Тэрмін дастатковы, каб з'явіліся новыя работы, новыя імёны. А галоўнай падзеяй фестывалю мне падалася навукова-практычная канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел госці з Расіі і Украіны. Адбылася зацікаўленая размова, вылучаны болевыя кропкі сучаснага тэатральнага працэсу. Сярод іх — адсутнасць нацыянальнай рэжысёрскай школы, слабы рост творчай змены і іншыя.

**Падрыхтавала**
**Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*На здымках: адкрыццё фестывалю; С.Акружная і Г.Букаціна ў спектаклі "Марлен... Марлен..."; Алена Папова і Віталь Баркоўскі.*

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

АБСЯГІ

*МАГІЛЁЎ...*

## Летапіс Краснаполля

У Мазыры надрукаваны дзве гісторыка-дакументальныя кнігі настаўніка-даследчыка Л.Лабаноўскага "Краснапольскі народны музей", "Краснаполле: тэатр і час". На выхадзе серыя нарысаў "Краснапольская хроніка", "Быў подзвіг на вайне", якая раскажа чытачам аб лёсе краснапольскіх настаўнікаў і іх вучняў у час Вялікай Айчыннай вайны. Гэтыя выданні ўбачылі свет дзякуючы фінансавай падтрымцы Краснапольскага райвыканкама, раённага аддзела культуры і абласнога ўпраўлення народнай адукацыі.

Зараз Л.Лабаноўскі збірае матэрыялы аб мясцовых вайскоўцах-інтэрнацыяналістах. Ён збіраецца выдаць асобную кнігу да 10-годдзя вываду савецкіх войск з Афганістана.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ГОМЕЛЬ...*

## "Беларуская музычная восень"

З 20-га па 30-га лістапада на Гомельшчыне — фестываль "Беларуская музычная восень". У ім бяруць удзел многія знакамітыя артысты не толькі нашай краіны, але і суседніх. Гэта гродзенскі ансамбль "Белыя росы", заслужаны артыст Беларусі, спявак Іван Краснадубскі, прафесар Беларускай акадэміі музыкі, скрыпач Вячаслаў Зяленін, віртуоз ігры на фартэпіяна, народны артыст рэспублікі Ігар Алоўнікаў, трыо бандурыстак з Жытоміра ў складзе заслужаных артыстак Украіны Надзеі Недашкоўскай, Людмілы Несцярчук і Алы Вальчук. Канцэрты праходзяць у Гомелі і амаль ва ўсіх райцэнтрах вобласці.

## Юбілей 20-ці калектываў

У гэтыя дні Палац культуры акцыянернага таварыства "Гомельшкло" (былы шклозавод імя Ламаносава, які ўзвялі ў самым пачатку 30-ых гадоў у гарадскім пасёлку Касцюкоўка пад Гомелем) адзначае юбілей — 65-годдзе з дня адкрыцця.З першых дзён свайго існавання Палац развіваў культуру рабочага класа аднаго са старэйшых прадпрыемстваў рэспублікі. Зараз тут працуе 20 творчых калектываў: 8 дарослых і 12 дзіцячых. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца харэаграфічная, вакальная, фальклорная трупы, народны ансамбль фальклорнай песні "Спадчына", тэатральная студыя і асаблівы гонар Палаца — народны цырк, якім цяпер кіруе рэжысёр Таццяна Абель — дачка заснавальніка цырка Валянціна Абеля і ўнучка Аляксандра Абеля, які закончыў у 1931 годзе Маскоўскі тэатральна-цыркавы тэхнікум, дзе вучыўся з выдатным клоунам Карандашом.

Зараз, у сувязі з юбілеем, даюцца масавыя канцэрты, на якіх прысутнічаюць тысячы жыхароў гарадскога пасёлка.

## Прэм'ера драмтэатра

У абласным драмтэатры лістападаўская прэм'ера — спектакль па камедыі Джузепе Марота і Белузарыа Рандоне "Суцяшальнік удоў". Пастаноўку спектакля на гомельскай сцэне ажыццявіў народны артыст Беларусі, лаўрэат дзяржаўных прэмій СССР і БССР Валерый Раеўскі.

## "Экалагічныя святы дзяцей"

Навукоўцы і студэнты геолага-геаграфічнага факультэта Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф.Скарыны надаюць шмат увагі ў навучальным працэсе экалагічным праблемам. Яны пастаянна ўдзельнічаюць у семінарах, канферэнцыях, практычнай рабоце. У Беларусі праходзяць традыцыйныя конкурсы навукова-папулярных выданняў па экалагічных пытаннях. У чарговым пятым конкурсе кніга "Экалагічныя святы дзяцей" кандыдата біялагічных навук, дацэнта ГДУ Л. Моладавай удастоена дыплома другой ступені.

## І акцёр, і жывапісец

Дзейнічае ў Мазыры драматычны тэатр імя Мележа. Створаны ён на базе былога народнага, які быў вельмі вядомыму колішнім Саюзе. З гэтым неардынарным творчым калектывам многія гады жыцця звязваюць Пятра Сяргеевіча Захарава. На сцэне ён выступаў як акцёр і як мастак па афармленні спектакляў. У прыватнасці, такіх, як "Раскіданае гняздо" Янкі Купалы, "Людзі на балоце" Івана Мележа, "Трыбунал" Андрэя Макаёнка. Калектыў выступаў на сцэне крамлёўскага тэатра ў Маскве, прымаў удзел у фестывалі ў Прыбалтыцы. За афармленне спектакляў Пётр Сяргеевіч удастоены розных дыпломаў. У апошні час ён актыўна займаецца станковым жывапісам. Карціны Захарава адлюстроўваюць надзвычай маляўнічую прыроду палескага краю. Яго персанальныя выставы прайшлі ў Мазыры, Калінкавічах, Гомелі. Цяпер экспазіцыя ягоных работ працуе ў карціннай галерэі "Традыцыя", што ў Светлагорску.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБСК...*

## Стары горад у лістападзе...

У лістападзе ў Віцебску прайшлі два фестывалі аўтарскай песні. Як паведаміла старшыня каардынацыйнага цэнтра руху аўтарскай песні Таццяна Ліхавідава, бардаўская песня падтрымана прадстаўніцтвам ААН у Беларусі. Каля 120 маладых выканаўцаў сталі ўдзельнікамі фестывальных праграм.

"Віцебскі лістапад" праходзіць ужо дванаццаты раз і стаў вельмі папулярным у жыхароў старога горада.

## Успамінаючы Караткевіча

Як паведаміла ўпраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама, 25 і 26 лістапада на Віцебшчыне прайшлі дні літаратуры, прысвечаныя Уладзіміру Караткевічу. У праграме дзён: Караткевічаўскія чытанні ў бібліятэцы, якая носіць яго імя, кінафестываль дакументальных фільмаў пра пісьменніка і мастацкіх — па яго творах, адкрыццё выставы ў літаратурным музеі "Ты ёсць. Ты будзеш", літаратурная вечарына "На граніце любові", урачыстае ўскладанне кветак да помнікаў пісьменніку ў Віцебску і Оршы.

## Прымуць удзел у чэмпіянатах

Віцябляне Наталля і Андрэй Кананенкі прымуць удзел у чэмпіянатах свету і Еўропы па бальных танцах, якія адбудуцца ў канцы лістапада — пачатку снежня ў Германіі. Сужэнцы Кананенкі кіруюць дзіцячымі калектывамі бальных танцаў у Рубе, што пад Віцебскам, і ў абласной філармоніі. Кананенкі — члены Брытанскай асацыяцыі настаўнікаў танцаў.

**Святлана ГУК**



**ЧАСАПІС**

## У "зоркі" — свята



**Іну Афанасьеву ведаюць усе прыхільнікі айчыннай эстрады. Здаецца, не так і даўно тое было, калі зусім яшчэ маладая спявачка, амаль дзяўчо, здабыла лаўры фестывалю польскай песні, што праводзіўся ў Віцебску. А сёння яна — "зорка"...**

**Іну Афанасьеву называюць жыццярадаснай, сонечнай, святочнай — за песні (нават калі змест іх — драматычны), за выканаўчую манеру, за само сцэнічнае аблічча. І мала хто задумваецца, што, апрача паспяхова праведзеных канцэртаў, бываюць у "зорак" іншыя святы.**

**"Ну, не юбілей жа ў нашай "зорачкі"!" — усміхнецца недасведчаны чытач. А дасведчаны — таксама ўсміхнецца: "Вядома ж, які там "юбілей"! Артыстка ў росквіце маладосці. Таму лепш назваць гэта... маленькай святочнай датай". Акурат з нагоды прыгожага асабістага свята "зоркі" і адбылася ў Мінску яе творчая вечарына, паказаць якую абяцала Беларускае тэлебачанне — каб не было крыўдна тым, хто не патрапіў на імпрэзу.**

*Фота А. ПРУПАСА*

## Дзецям — пра святую зямлю

**У Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы беларускай сталіцы адбылося ўрачыстае адкрыццё Тыдня культуры Ізраіля, які праводзіцца ў рамках святкавання 50-годдзя гэтай дзяржавы. Ва ўрачыстых мерапрыемствах прынялі ўдзел Часовы Паверані ў справах Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Рына Джэрасі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь пісьменнік Валянцін Лукша, які неаднаразова бываў на Святой Зямлі і прысвяціў ёй шмат паэтычных радкоў; прадстаўнікі Мінгарвыканкама і Адміністрацыі Маскоўскага раёна, самадзейныя дзіцячыя калектывы. У фае бібліятэкі была разгорнута выстаўка дзіцячай кнігі на дзяржаўных мовах многіх народаў. На працягу тыдня юныя наведвальнікі бібліятэкі зрабілі некалькі завочных падарожжаў па краіне Ізраіль, праслухалі шэраг цікавых гутарак пра зямлю, дзе нарадзілася кніга кніг Біблія, дзе прайшло зямное жыццё Ісуса Хрыста; зямлі, якая з'яўляецца калыскай трох рэлігій.**

**М. МІКАЛАЕЎ**

## Звышрэалізм у сучасных умовах

**У Літве пад дэвізам "Тубыльскія відарысы" здзейснілася новая выставаакцыя эпатажнага беларускага паэта Зміцера Вішнёва. Сёння, на жаль, у Вільні няма беларускай галерэі, таму шаманскае паэтычнае дзейства зафіксавалася на плошчах Рускай галерэі. Тут паэт распавёў прысутным пра магічныя накірункі мастацтва, што распрацоўваюцца на Беларусі — шызарэалізм, транслагізм, паранаідалізм і афрыканізм. Па ягоных словах, усё гэта — звышрэалізм, які ў сучасных умовах самая актуальная з'ява. Сярод дваццаці візуальных вершаў, прадстаўленых у галерэі, вылучаюцца з каляровымі кракадзіламі і рыбінамі, якія зробленыя пры дапамозе друкарскай фарбы. Выстава карыстаецца ўвагай у віленскага гледача, бо візіты беларускіх авангардыстаў пакуль рэдкасць. Дарэчы, экспанаваца сінтэзаваныя вішнёўскія творы будуць да сёмага снежня.**

**НАШ КАР.**

***20 лістапада гэтага года споўнілася 50 гадоў з дня нараджэння зоркі беларускай паэзіі Яўгеніі Янішчыц. Праз некалькі ж дзён адбудзецца яшчэ адзін, але сумны, юбілей — дзесяць гадоў з дня заўчаснай смерці паэтэсы. Практычна ва ўсіх беларускіх выданнях з'явіліся публікацыі, прысвечаныя асобе Яўгеніі Янішчыц, у навучальных установах, клубах, бібліятэках адбыліся паэтычныя вечарыны і выставы памяці "палескай ластаўкі", як называлі і называюць паэтэсу... Але, зразумела, найбольш значныя падзеі па ўшанаванні памяці Яўгеніі Янішчыц прайшлі на яе радзіме, на Палессі...***

# Дарога да палескіх зораў

Ці думала я, калі віншавала з днём нараджэння рэдактара майго першага паэтычнага зборніка, Яўгенію Янішчыц, з саракагоддзем, што праз дзесяць гадоў мне давядзецца пабачыць на свае вочы яе родныя Ясельду, Піну, Прыпяць, Парэчча і Велясніцу, зайсці ў яе хату, у якой ніколі ўжо не прагучыць яе голас, садзіць дрэва ў парку яе памяці, расказваць са сцэны пра сваё кароткае з ёю знаёмства... Якое далёкае яно было ад "мемуарнай прыкідкі"!

Калі ў чалавека ёсць сябры, яны абавязкова прыходзяць да яго на дзень нараджэння. І ў дзень нараджэння Яўгеніі Янішчыц да яе сабраліся госці: тыя, хто ведаў, любіў і працягвае любіць яе. У Пінск прыехала прадстаўнічая дэлегацыя з Мінска, каб прыняць удзел у святкаванні, арганізаваным Саюзам пісьменнікаў Беларусі пры дапамозе Саюза беларускіх жанчын і мясцовых уладаў: першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Вольга Іпатава, пісьменнікі і навукоўцы Анатоль Вярцінскі, Алесь Жук, Дзмітрый Бугаёў, Валянціна Коўтун, Лідзія Савік, Ніна Загорская, Леанід Дранько-Майсюк, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, прафесар БДУ Паўла Украінец, старшыня Саюза жанчын Беларусі Тамара Дудко і яе памочніца Святлана Ціванава, галоўны рэдактар газеты "Чырвоная змена" Алесь Карлюкевіч, намеснік галоўнага рэдактара газеты "Звязда" Уладзімір Андрыевіч, маці паэтэсы Марыя Андрэеўна Янішчыц і сын Андрэй, іншыя асобы.

Аўтобус, які прыйшоў за намі да Дома літаратара ў Мінску дзякуючы Саюзу жанчын, належаў фабрыцы "Камунарка". Жоўты аўтобус польскага паходжання выглядаў досыць звычайна, і мы не падазравалі, што ён ператворыцца ў "зачараваныя дрожкі", кшталту тых, што везлі па начной Варшаве Канстанты Ідэльфонса Галчынскага... Але пра гэта наперадзе... Чамусьці менавіта ў дзень ад'езду ўдарыў моцны мароз, нетыповы для беларускага лістапада, вокны нашага жоўтага дыліжанса зацягнула шчыльным слоем шэрані, а ацяпленне ў салоне, як высветлілася, адсутнічала... Тым не менш праз некалькі гадзін скрозь маленькія вакенцы, прадыханыя за лічаныя хвілі на зімных шыбах, бачылася роўнядзь Палесся, напаўзамеценыя снегам меліярацыйныя каналы, а пасажыры дружна тупалі акалелымі нагамі ў тонкую падлогу аўтобуса. Паветра ў ім не маглі сагрэць нават гжэчныя цытаты Дранько-Майсюка пра "сонечныя ранішнія пацалункі" і "комплекс Апалона".

Прывітанне, Пінск! Горад нядаўна адзначыў сваё дзевяціcотгоддзе. У ім адчуваецца і дагледжанасць, і подых часу. Можна толькі ўявіць, які прыгажун Пінск улетку, калі на вузкіх вулках старога горада і набярэжных Піны і Прыпяці буяюць акацыі і каштаны.

"Мерапрыемства" — кепскае, афіцыёзнае слова... Але і слова "святкаванне" сюды неяк не падыходзіць — бо хаця і святкавалі юбілей паэткі, адначасова — хацелася гэтага ці не — паралельна была і жалоба па яе трагічнай смерці. Таму скажу так: дні памяці Яўгеніі Янішчыц пачаліся з імпрэзы ў пінскім касцёле Карла Барамеуша, дзе зараз размешчана канцэртная зала. Цяжка прыдумаць лепшы інтэр'ер для правядзення паэтычнай вечарыны, чым двухметровай таўшчыні сцены 18 стагоддзя, высокія скляпенні, вузкія вокны і зорнае неба за імі... З якой павагай і любоўю ставіцца палешукі да памяці сваёй землячкі-паэтэсы, засведчыла тое, што ў марозны вечар іх прыйшло на імпрэзу столькі, колькі магла змясціць зала, і нават трохі больш. А як уважліва слухала зала ўспаміны сяброў і сваякоў паэтэсы, з якім суперажываннем! Да сталічных гасцей далучыліся мясцовыя паэты — Мікола Пракаповіч і Анатоль Шушко, а таксама прадстаўнікі мясцовых улад. Знаходзілася што казаць і самім слухачам, многія з каторых ведалі паэтэсу асабіста. Нават пасля ўсіх запланаваных і незапланаваных выступаў ніхто не хацеў разыходзіцца, нягледзячы на позні час.

Людзі жадалі слухаць беларускае слова. Што можа быць лепшым падарункам памяці беларускай паэткі! Сапраўды, паэзія і асоба Яўгеніі Янішчыц з'яднала ў гэты вечар усіх прысутных сваёй светлай энергіяй. Прынамсі, амаль усе выступоўцы гаварылі пра тое, што адчуваюць прысутнасць яе ў зале.

На наступны дзень у Пінску адбылося адкрыццё бібліятэкі імя Яўгеніі Янішчыц. Гэта Цэнтральная раённая бібліятэка, утульная і прыветная. Пасля нядаўняга пажару абанементны фонд удалося аднавіць не цалкам, але цяпер ён ужо дастаткова прадстаўнічы. Быў нейкі знак і ў гэтым — імя паэткі атрымала бібліятэка, сабраная добрай воляй многіх фундатараў, дарыцеляў. Незнішчальная сіла кніжнай мудрасці... Думаецца, што ў бібліятэкі імя Яўгеніі Янішчыц ёсць добры шанц зрабіцца цэнтрам роднага слова на Піншчыне, вакол якога будуць гуртавацца аматары беларускага прыгожага пісьменства, сапраўдным культурным асяродкам.

Далей было знаёмства з радзімай паэтэсы, домам, у якім яна нарадзілася. Вёска вельмі прыгожая, з арабінамі, бярозамі і елкамі ля хацін, з гародчыкамі, якія, напэўна, улетку поўныя кветак. На доме Яўгеніі Янішчыц — мемарыяльная шыльда. Ганак засланы яловымі лапкамі. Але калі ўваходзіш, поўнае ўражанне, што зайшоў у госці, і вось-вось выйдзе прыветная гаспадыня. Пабеленая печ, засланыя ложкі, на сценах — старанныя вышыўкі крыжыкам, зробленыя юнай Жэняй, партрэты яе сваякоў. Ціхая, светлая хата. Тут яскрава ўяўляеш дзяцінства паэтэсы, нібыта бачыш яе, сціплую вясковую дзяўчынку, адмечаную Богам. Можа, і не варта было гэтага рабіць, але я доўга ўглядалася ўглыб цьмянага люстэрка на сярэдняй створцы старой шафы, чамусьці чакаючы без усякай боязі, што вось-вось сустрэнуся з позіркам Яўгеніі Янішчыц, якая, відаць жа, кожны дзень глядзелася ў тое люстэрка. Кажуць жа, што люстэркі захоўваюць аблічы тых людзей, якія часта глядзеліся ў яго... Што ж, можа быць, хто-небудзь з будучых наведнікаў і сустрэнецца там з позіркам з мінулага...

Побач — вёска Парэчча. Туды Яўгенія Янішчыц хадзіла ў школу. У Парэцкай базавай школе адкрыты сіламі энтузіястаў-настаўнікаў — Антаніны Сідарук і іншых — музей паэтэсы. Там сабраны унікальныя рэчы, якія расказваюць пра творчы і жыццёвы шлях паэткі: яе кнігі, першыя публікацыі, лісты, дзёнікі, асабістыя рэчы, нават вясельны вэлюм... На дзвярах класа, дзе вучылася паэтэса, адпаведная шыльдачка, а зайшоўшы ў клас, можна і пасядзець за той партай, за якой яна сядзела. Клас невялікі, на пару дзесяткаў вучняў, але светлы і ўтульны, як усё тут, у побыце паляшуцкай вёскі. Менавіта за гэтай партай, па ўспамінах настаўніцы, Жэня Янішчыц пісала свае вершы проста на ўроках, хаваючы сшытак на каленях. Аднавяскоўцы ганарацца сваёй зямлячкай. Але тут адчуваецца не толькі гонар. Яўгенія, Жэня Янішчыц для іх не проста гістарычная асоба, а блізкі ім чалавек, які яшчэ не так даўно быў сярод іх. Таму нярэдка ўспаміны пра паэтэсу гаварыліся са слязьмі на вачах, са шчырым шкадаваннем па рана адляцеўшай ластаўцы Палесся...

Нам паказалі парк Скірмунта, унікальны ландшафтны помнік рэспубліканскага значэння, закладзены шмат-шмат гадоў таму былымі ўладарамі тутэйшых ваколіцаў лібэральнымі графамі Скірмунтамі. Парк разбіты ў англійскім стылі, у ім дасюль расце мноства раслін, якія ўвогуле не сустракаюцца на Беларусі. Мы мала змаглі пабачыць — толькі маленечкі кавалак парку. Паказалі нам і магілу апошняга Скірмунта на месцы ягонага расстрэлу. Што дэмакратычныя выбілі пана таму, хто мае ў руках стрэльбу! Мусіў пан сам выкапаць сабе магілу... І толькі нядаўна на тым месцы пастаўлены крыж і паднята перавернутая некалі каменная пліта... Там расце барвінок, яго цёмна-зялёныя жорсткія лісты з васковым бляскам не паддаюцца ўздзеянню марозу...

Увечары ў клубе вёскі Велясніца адбылася вечарына "Ластаўка Палесся". Наш халодны жоўты аўтобус сустракаў мясцовы фальклорны ансамбль з караваем. Мароз за дваццаць, а "каравайшчыкі" — у лёгкіх нацыянальных строях, у саламяных капелюшах... І яшчэ спяваюць... Сапраўды, толькі беларусы могуць гэтак самаахвярнічаць дзеля ўрачыстага прыёму гасцей. Перад вечарынай каля клуба быў закладзены парк памяці Яўгеніі Янішчыц. На вечарыне выступілі прадстаўнікі мясцовых уладаў, аднавяскоўцы і сваякі Яўгеніі Янішчыц, прагучалі вершы сталічных і мясцовых паэтаў. Старшыня Пінскага райвыканкама Вячаслаў Сашко запэўніў, што ў музеі Яўгеніі Янішчыц кожны год будуць праводзіцца літаратурныя чытанні.

Сцямнела, мы мусілі хутчэй ад'язджаць. Хаця засталося ўражанне нейкай недагаворанасці — не кожны дзень у палескую вёску прыязджаюць такія госці...

І мусіць такі сама Яўгенія Янішчыц не хацела б, каб госці ад'язджалі. Бо дарогі нашаму зледзянеламу жоўтаму аўтобусу не было. Недзе пад Старобінам спусціла пярэдняе кола. Купка знакамітых творцаў апынулася сярод цёмных палескіх балот, на пустой дарозе. Бліжэйшы населены пункт — Салігорск. Да яго трэба было праехаць яшчэ кіламетраў пяць. Затое неба было такое зорнае, такое ззяючае! Мароз узяўся не на жарты. Прычым, невядома было, дзе цяплей — у аўтобусе ці на вуліцы... Лаўрэат дзяржаўнай прэміі пісьменнік Алесь Жук, як былы танкіст, дапамагаў шафёру мяняць кола... А ў цёмным і да немагчымага выстылым салоне экстрэмальная сітуацыя выяўляла творчыя натуры пасажыраў. Спяваліся беларускія песні, праўда, праз пару гадзін іх змяніла ціхае напяванне неўміручага "Варага". Чыталіся вершы — уласныя і класічныя, імправізавалася... У народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч якраз быў дзень нараджэння. Думаецца, што гэтак свой дзень нараджэння спадарыня Марыя яшчэ ніколі не адзначала.

І вось — можна гэта лічыць супадзеннем — толькі апоўначы нешта наладзілася. На пачатку першай нашы "зачараваныя дрожкі" рушылі ў бок беларускай сталіцы. Пад падазронае шморганне і рыпенне кола можна было толькі задаваць сакраментальным пытаннем, якім пачынаюцца гогалеўскія "Мёртвыя душы": ці даедзе гэтае кола да Палтавы (у дадзеным кантэксце — да Мінска). У тры гадзіны ночы жоўты прамерзлы аўтобус прыбыў у Мінск. І толькі на наступны дзень мы даведаліся — зноў можаце лічыць гэта супадзеннем, — што прадстаўнікі "Чырвонай змены" і "Звязды", прадмет нашай зайздрасці, бо ехалі ў Мінск на машыне, таксама, толькі на іншай дарозе, стаялі з-за тэхнічнай непаладкі, прычым амаль пяць гадзін... Не хацела Палессе адпускаць гасцей...

Але з якой прыемнасцю ўспамінаецца цяпер тая прыгода! Як кладзецца яна на завяршэнне вандроўкі да паэтэсы, колькі сюжэтных версій можа нарадзіць! І позірк у зорнае неба Палесся на пустой дарозе для мяне зліваецца з позіркам у пацьмянелае люстэрка шафы дома паэтэсы... А як пасля дарогі праз сцюдзёную ноч пачынаеш цаніць цяпло ўласнага дома!

Дні памяці Яўгеніі Янішчыц будуць праводзіцца цяпер на яе радзіме штогод. У гэтым ёсць патрэба — і ў зямлякоў паэтэсы, і ва ўсіх прыхільнікаў паэтычнага слова. Праўда, такой дарогі, якая выпала нам, пэўна ж, больш не будзе... Але будзе нешта іншае, рамантычнае і нечаканае, абуджанае міфам пра паэтэсу, міфам, які, як вядома, валодае большай рэальнасцю і сілай, чым рэальнае жыццё.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

ПАМЯЦЬ

НАША ГРАМАДСТВА зараз моцна хворае з пункту погляду сацыялогіі і дэмаграфіі. Пад "мудрым" кіраўніцтвам сённяшніх улад Беларусь пакрысе вымірае. Але і памёршы, чалавек не можа часам знайсці вечнага спачыну, бо кожны дзень нейкі вандал можа пашкодзіць яго магілу, скрасці вянкі і кветкі, разламаць надмагільны помнік. У апошнія часы на Беларусі назіраюцца масавыя акты вандалізму, за ноч разбураюцца дзесяткі надмагілляў у розных беларускіх гарадах, у тым ліку і ў сталіцы. Але ўладам да гэтага мала справы. Наіўныя людзі! Можна падумаць, што яны збіраюцца жыць вечна, і іх не турбуе, як нашчадкі абыдуцца з іх уласнымі магіламі.

У свой час хрысціяне на Беларусі заўжды думалі аб смерці і своечасова рыхтаваліся да яе. Заможныя людзі загадзя клапаціліся пра месца на могілках для сябе і ўсёй сям'і, некаторыя нават наперад рабілі труны па сваім росце і трымалі іх на гарышчах. Бязбожныя бальшавікі знішчылі павагу не толькі да жывых, але і да памерлых.

Аднак звернемся да нашай гісторыі...

# Чалавек жыў, чалавек памёр...

Тысячагадовая гісторыя Беларусі мае паслядоўную эвалюцыю пахавальных традыцый, на фарміраванне якіх уплывалі канфесійныя, нацыянальныя і палітычныя фактары. У канцы X стагоддзя нашы продкі становяцца хрысціянамі паводле візантыйскай (усходняй, потым праваслаўнай) традыцыі. Усходнеславянская традыцыя крэмацыі нябожчыкаў адразу змяняецца на трупапалажэнне. Аднак традыцыя хаваць нябожчыкаў у курганах захоўваецца да канца XII—пачатку XIII стагоддзя. Асобныя плямёны, асабліва дрыгавічы, ужываюць абрад пахавання сваіх нябожчыкаў у драўляных зрубах, якія ў XIII стагоддзі змяніліся на драўляную труну з тоўстых дошак, змацаваных каванымі цвікамі. Прадстаўнікоў княжацкіх дынастый і святароў вышэйшага стану ў гэтыя часы хаваюць ужо не ў курганах, а ў каменных саркафагах, якія часта размяшчаюцца альбо ў сутарэннях храмаў, альбо побач з імі. Звычай хаваць у храмах ці побач з імі найбольш вядомых людзей свайго часу захаваўся як у праваслаўных, так і каталікоў да 1917 года.

Адначасова з хрысціянскімі пахавальнымі традыцыямі на тэрыторыі Беларусі ў X—XII стагоддзях, а ў некаторых частках Заходняй Беларусі аж да XVII стагоддзя існавалі і язычніцкія (паганскія) пахавальныя звычаі. Гэта ўсходнелітоўскія курганы, дзе нябожчык часта хаваўся разам са сваім канём, і каменныя магілы яцвягаў.

У XIII—XV стагоддзях паступова знікаюць паганскія пахавальныя традыцыі, і, акрамя праваслаўя, на Беларусі пашыраецца каталіцызм. Курганныя і бескурганныя някропалі цалкам змяняюцца на невялікія гарадскія і вясковыя могілкі, якія звычайна размешчаны на пагорках у межах ці ў ваколіцах населеных пунктаў. Існуюць і асобныя могілкі пры манастырах і кляштарах.

У XVI—XVIII стагоддзях, акрамя хрысціянскіх (праваслаўных, каталіцкіх, а потым пратэстанцкіх і уніяцкіх) могілак, з'яўляюцца асобныя татарскія і яўрэйскія. Ландшафт гістарычных могілак Беларусі быў цесна звязаны з прыродным наваколлем, шчыльнымі зялёнымі пасадкамі каля магіл, уздоўж прысад і па перыметры прамавугольных агароджаных магілкавых участкаў, неад'емнымі элементамі якіх сталі драўляныя ці каменныя капліцы альбо цэрквы ці касцёлы. Планіровачнае рашэнне было рэгулярным. Магілы групаваліся па сваяцкай прыналежнасці, часам рабіліся і сямейныя склепы. У якасці надмагілляў ставіліся драўляныя крыжы, альбо камяні ці калоды з выявамі крыжа.

На яўрэйскіх і татарскіх могілках з'явіліся надмагільныя пліты з надпісамі на ідыш альбо арабскімі літарамі.

Найбольш багатыя беларускія магнаты і прадстаўнікі шляхты сваіх нябожчыкаў хавалі ў храмавых склепеннях, а надмагіллі ўяўлялі сабою розныя скульптуры з мармуру і вапняку.

Так, сямейнай спачывальніцай роду Радзівілаў стаў Нясвіжскі фарны касцёл, а Сапегаў — касцёл францысканскага кляштара ў Гальшанах. Уніяцкія архіепіскапы хаваліся ў сутарэннях Полацкай Сафіі.

Да тых часоў адносяцца і брацкія магілы, звязаныя са шматлікімі эпідэміямі і вялікімі войнамі. Першыя вядомыя на Беларусі могілкі звязваюцца з Паўночнай вайной пачатку XVIII стагоддзя.

Хуткае развіццё гарадоў прывяло да трансфармацыі ландшафту месцаў пахаванняў. У XIX—пачатку XX стагоддзя могілкі павялічваліся, часам значна, іх маштаб перастаў адпавядаць звычайнаму, аднак рэгулярны характар планіроўкі істотна не змяніўся. Плошча, якая выдзяляецца на адзін магільны ўчастак, значна паменшылася разам з колькасцю дрэў. Стандартызацыя надмагільных помнікаў спрыяла падобнаму адзін да аднаго выгляду могілак.

Акрамя крыжоў, на магілах з'яўляюцца скульптуры і жалезныя (каваныя ці чыгунныя) агароджы. Буйныя памешчыкі, іншыя землеўладальнікі будуюць каля сваіх палацаў сямейныя капліцы-спачывальніцы. У якасці прыкладаў можна прывесці спачывальніцу князёў Паскевічаў у Гомелі і царкву-спачывальніцу князёў Святаполк-Мірскіх у Міры.

Сярод мемарыяльных помнікаў гэтага перыяду варта адзначыць падарожныя крыжы і капліцы, якія будаваліся ў вялікай колькасці, але не былі прывязаны да канкрэтных месцаў пахаванняў.

Асобнымі з'явамі ў гісторыі Беларусі праходзяць ваенныя пахаванні і мемарыяльныя знакі на іх часоў руска-французскай вайны 1812 года, магілы паўстанцаў 1830—1831 і 1863—1864 гадоў, шматлікія пахаванні часоў першай сусветнай вайны на тэрыторыі Заходняй Беларусі, а таксама брацкія магілы і могілкі, звязаныя з эпідэміямі халеры.

Вялізныя хвалі паланізацыі і сустрэчнай русіфікацыі пракочваліся адна за другой па беларускай тэрыторыі. Пасля ліквідацыі уніяцтва ў 1839 годзе праваслаўныя могілкі сталі называцца "рускімі", а каталіцкія — "польскімі". Беларуская мова знікла з надмагільных надпісаў канчаткова. У той час яўрэйскія могілкі маюць надпісы на ідыш і іўрыце, а татарскія — па-беларуску ці руску, але арабскімі літарамі. У вялікіх гарадах з'яўляюцца асобныя лютэранскія могілкі, дзе пахаваны выхадцы з Германіі. У невялікіх павятовых гарадах існавалі адны агульныя могілкі, якія мелі асобныя канфесійныя сектары. Так, напрыклад, на Мсціслаўскіх могілках, якія існуюць з XVIIIст., былі праваслаўныя, каталіцкія і яўрэйскія часткі, аддзеленыя адна ад другой канавай і невялікім насыпам.

Падчас першай сусветнай вайны нямецка-рускі фронт праходзіў праз тэрыторыю Беларусі з 1915 па 1918 год. Ваенныя падзеі пакінулі пасля сябе вялізныя нямецкія і руская салдацкія могілкі, якія зараз альбо знішчаны, альбо прыйшлі ў заняпад.

Пакінула свой след на Беларусі і савецка-польская вайна 1919—1920 гг. Гэта магілы польскіх жаўнераў і савецкіх чырвонаармейцаў, а таксама шматлікага цывільнага насельніцтва, што загінула ад рук мясцовых бандытаў і вайсковых фарміраванняў абедзвюх краін.

Другая сусветная вайна закранула тэрыторыю Заходняй Беларусі ў верасні 1939 года. Мы не ведаем, дзе пахаваны мужныя абаронцы Брэсцкай крэпасці, якія некалькі дзён мужна стрымлівалі танкавыя войскі генерала Гудэрыяна. Да нямецкіх і польскіх пахаванняў пасля 17 верасня 1939 года дадаліся і магілы чырвонаармейцаў, якія загінулі падчас выканання сакрэтных дамоваў паводле ганебнага пакта Молатава—Рыбентропа.

З 1941 па 1944 год Беларусь апынулася ў агні Вялікай Айчыннай вайны, калі на нашай тэрыторыі загінула і памерла ад ран некалькі мільёнаў чалавек розных нацыянальнасцей і канфесій.

У часы грамадзянскай вайны бальшавікі знішчылі шмат мірнага насельніцтва ў выніку класавых і канфесійных чыстак. Былі расстраляны сотні святароў і манахаў, прадстаўнікоў дваранства, буржуазіі і шляхты. Бальшавікі змагаліся не толькі з жывымі, але і з нябожчыкамі. Былі апаганены мошчы святых, разрабаваны сотні багатых пахаванняў дваран, гандляроў, фабрыкантаў, былых уладальнікаў маёнткаў і замкаў.

Пахавальны абрад рэзка змяніўся. Адпяванне нябожчыкаў у храмах было практычна забаронена. Замест крыжа на надмагільных помніках з'явілася пяціканцовая чырвоная зорка.

У 30—40-х гадах XX ст. на тэрыторыі БССР узнікаюць таемныя масавыя пахаванні ахвяр сталінскага рэжыму. Найбольш вядомыя з іх з'яўляюцца Курапаты пад Мінскам, дзе пахавана ў брацкіх магілах каля 200 тысяч чалавек. Месцы гэтых пахаванняў органы НКУС трымалі ў вялікім сакрэце.



Таксама былі пад вялікай забаронай магілы членаў арміі краёвай, што змагалася на тэрыторыі Заходняй Беларусі як з фашыстамі, так і з бальшавікамі. Пасля вайны фактычна ўсе нямецкія могілкі на Беларусі былі знішчаны.

У 60—70-х гадах вандалы пачалі знішчаць і мясцовыя могілкі ў тых выпадках, калі на іх ужо не праводзіліся пахаванні, а іх тэрыторыя апынулася сярод жылых кварталаў вялікіх гарадоў. У гэты час у Мінску былі знішчаны канчаткова яўрэйскія, татарскія, лютэранскія, праваслаўныя "Старажоўскія" могілкі і старыя дваранскія могілкі каля кінатэатра "Спартак". Дзеці гулялі з чарапамі і косткамі нябожчыкаў, а разбітымі надмагільнымі помнікамі брукавалі дарогі і вуліцы.

У часы хрушчоўскага змагання з рэлігіяй на Палессі, увогуле ў заходняй Беларусі знішчылі практычна ўсе прыдарожныя крыжы і капліцы, устаноўленыя мясцовымі сялянамі. Былі разбураны альбо пашкоджаны надмагіллі мясцовых эліт (святароў і шляхты), пахаваных побач з касцёламі альбо цэрквамі, будынкі якіх былі ўжо каторы раз адабраны ў вернікаў і ператвораны ў спартзалы, клубы ці сховішчы. На дзеючых могілках вандалы-бязбожнікі масава ламалі крыжы, як сімвалы хрысціянства.

Асобная гаворка — пра стан аховы мемарыяльных помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Фармальна, у асноўным на паперы, ахове дзяржавы падлягаюць як помнікі археалогіі — курганы і курганныя групы X—XIII стст., так і шматлікія пахаванні савецкіх салдат, афіцэраў і партызан. Таксама пастаўлены на ахову некалькі дзесяткаў магіл некаторых беларускіх пісьменнікаў, мастакоў і палітычных і культурных дзеячаў. І гэта ўсё. На самай справе ў газетах увесь час ідзе інфармацыя аб шматлікіх масавых актах вандалізму на сучасных могілках, за якія ніхто не караецца.

Даўно настаў час прыняць закон, прысвечаны пахавальнай справе на Беларусі, і адлюстраваць у ім прынцыпы і парадак аховы і выкарыстання ўсіх нашых мемарыяльных помнікаў і комплексаў. Дарэчы, адпаведны закон "Аб пахаванні і пахавальнай справе" прыняты 8 снежня 1995 года Дзяржаўнай Думай Расійскай Федэрацыі (уступіў у сілу з 1 сакавіка 1996 года).

На Беларусі ніякіх заканадаўчых актаў у гэтай галіне няма. Існуюць толькі розныя інструкцыі і іншыя падзаконныя акты.

Новы беларускі закон павінен рэгуляваць адносіны, звязаныя з пахаваннем нябожчыкаў, а таксама прадугледжваць ахову і вывучэнне гістарычных могілак на Беларусі.

Закон павінен устанавіць:

1) гарантыі пахавання нябожчыка з улікам усіх пажаданняў, выказаных асобай пры жыцці, а таксама пажаданняў яго сваякоў;

2) гарантыі атрымання матэрыяльнай і іншай дапамогі для пахавання нябожчыка;

3) санітарныя і экалагічныя патрабаванні да выбару, утрымання і аховы месцаў пахавання;

4) вызначэнне крытэрыяў для аб'яўлення асобных гістарычных могілак помнікамі культуры і гісторыі Беларусі, як унікальных архітэктурна-археалагічных комплексаў;

5) вызначэнне крытэрыяў для аб'яўлення асобных пахаванняў і брацкіх пахаванняў помнікамі гісторыі і культуры Беларусі;

6) стварэнне на Беларусі нацыянальнага ПАНТЭОНА, дзе будуць праводзіцца пахаванні і перазахаванні выдатных людзей нашай Бацькаўшчыны.

Будзем спадзявацца, што ў XXI ст. беларуская дзяржава здолее надаць нашым мемарыяльным комплексам такую ж увагу, якая надаецца такім аб'ектам у цывілізаваных еўрапейскіх краінах.

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага універсітэта культуры**



ЧАСАПІС

## Яўгенія Янішчыц па-балгарску



**19 лістапада, напярэдадні 50-годдзя з дня нараджэння і 10-годдзя з дня трагічнай смерці лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Яўгеніі Янішчыц, у Доме дружбы адбылася прэзентацыя яе кнігі паэзіі "Твая прысутнасць" у перакладзе на балгарскую мову. Выданне было задумана і ажыццёўлена па ініцыятыве даўніх сяброў беларускай літаратуры Найдзена Вылчава і Стэфана Паптонева. Над перакладамі таксама працавалі вядомыя балгарскія паэты Зоя Васільева, Хрыста Папоў і Янко Дзімаў.**

**На вечарыну ў Дом дружбы сабралася даволі шмат людзей — пісьменнікі, сябры таварыства "Беларусь — Балгарыя", студэнты-філолагі. Прысутнічаў і сын паэтэсы Андрэй Янішчыц са сваёй жонкай Юляй.**

**З успамінамі пра Яўгенію Янішчыц выступілі паэты Раіса Баравікова, Леанід Дранько-Майсюк, кампазітар Ігар Лучанок, артыстка Марыя Захарэвіч. На вечарыне гучала музыка ў выкананні Ірыны Шумілінай, а студэнты чыталі вершы паэтэсы на беларускай і балгарскай мовах. Вяла прэзентацыю кнігі першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава.**

*На здымку: выступае Вольга ІПАТАВА*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## "Беларусь", N 11

**Пад рубрыкай "Святыні" змешчаны нарыс Н. Ільіной "Шляхам духоўным", у якім расказваецца пра невялікае мястэчка Жыровічы пад Слонімам, дзе знаходзяцца чатыры царквы, манастыр, дзейнічае адзіная ў краіне духоўная семінарыя. "Эфектны мастак" — менавіта так варта ахарактарызаваць мінскага жывапісца С. Пчалінскага. Пра яго расказвае Л. Коктыш — "Сышліся і розум, і рука..." Н. Бунцэвіч ("Пра фею, Арфея і дар Дарафея") знаёміць чытачоў з вядомай спявачкай І. Дарафеевай. А вось І. Масляніцына ("Княгіня-прывід") вяртае іх у глыбокую даўніну, калі, паводле сцвярджэння некаторых даследчыкаў, у старажытным Полацку яшчэ да Рагвалода княжыла Прадслава Першая. Друкуюцца апавяданне Г. Багданавай "Танец дажджу", вершы П. Пранузы, М. Смагаровіча, Ю. Свіркі, рэцэнзія "Я. С." на "Беларускую энцыклапедыю", запланаваную ў 18 тамах (як вядома, нядаўна выйшаў шосты том), нарыс А. Лысаконя "Рыцар на горных лыжах" — пра героя Алімпіяды ў Нагана І. Юдзіна; бліц-інтэрв'ю І. Калюты з мастаком-карыкатурыстам А. Паповым "Смех без прычыны — знак..." (і, канечне ж, малюнкі гэтага аўтара), а таксама шэраг іншых цікавых матэрыялаў.**

## "Роднае слова", N 11

**"Пра нас і мову", — развагі галоўнага рэдактара "Роднага слова" М. Шаўыркіна. Лёс і спадчына А. Міцкевіча ў цэнтры ўвагі У. Мархеля ("Сумежжа лучнасці і разрыву з Радзімай"). Духоўная прысутнасць і вобраз Ф. Багушэвіча ў творчасці беларускіх паэтаў — тэма гаворкі А. Бельскага ("Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею..."). Друкуюцца артыкулы Л. Леські ("Гульня — форма выражэння метамарфозы ў творах Яна Баршчэўскага"), Т. Гайдалёнак ("Вяртанне. П'еса Янкі Купалы "Тутэйшыя". Тэма, герой, жанр"), В. Казловай ("Споведзь сябру. Якуб Колас — Янку Купалу"), Г. Тычкі ("Праўда на ўсіх адна. Пра падарожную кнігу і паэмы Сяргея Законнікава"), Т. Шамякінай ("Культура Антычнай Грэцыі"), С. Шушкевіча ("Успаміны пра Валерыя Маракова") і іншых аўтараў. У сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння Я. Янішчыц прапануюцца вершы яе і С. Панізніка пра каханне. У падборцы "Каханне, Радзіма, матуля..." — песні на вершы Л. Пранчака.**

---

ПРЫ ЎСІМ БАГАЦЦІ імён у сусветнай літаратуры сярод іх не так ужо і шмат дзіцячых пісьменнікаў, каго з ходу мог бы назваць кожны больш-менш начытаны чалавек.

Ды і што такое "дзіцячы пісьменнік"?

Казкі пісалі і В. Ірвінг, і Э. По, і Дж. Стэйнбек, але хто іх назаве дзіцячымі пісьменнікамі? Пушкін, на той час стварыўшы не адну казку, напрамілы Бог прасіў Адоеўскага не чапляцца да яго з просьбамі напісаць што-небудзь для дзяцей: "Батюшка, Ваше сиятельство! побойтесь Бога: я ни Львову, ни Очкину, ни детям — ни сват, ни брат. Зачем же мне sot-действовать "Детскому журналу"?"

"Рабінзон Круза", "Прыгоды Гулівера", "Маўглі" задумваліся як рэчы цалкам "дарослыя", і іх аўтары, магчыма, нават не можна лічыць выданні Л. і С. Зізаніяў, Л. і К. Мамонічаў.

Праўда, падмурак, закладзены імі, сёння найбольшую каштоўнасць мае для тэарэтыкаў літаратуры, а не для "практыкаў" — пісьменнікаў ды чытачоў, таму яго як бы давялося закладваць двойчы. Другі раз гэта зрабілі Францішак Багушэвіч, Адам Гурыновіч, Янка Лучына, Цётка, Янка Купала, Якуб Колас... Падмурак выстаяў і па сённяшні дзень, і, трэба думаць, прастаіць яшчэ шмат гадоў, хоць яму ўжо неаднойчы даводзілася рабіць "касметычны рамонт": герой купалаўскага "Хлопчыка і лётчыка" ў дзіцячых чытанках даўно не вітаецца са Сталіным, коласаўскія творы з "Другога чытання для дзяцей беларусаў" у пазнейшых перавыданнях пазбавіліся шматлікіх русізмаў...

Але як быць з русізмамі і архаізмамі сапраўдным адкрыццём. Апроч "Хлопчыка і лётчыка", напрыклад, тут можна прачытаць і "забыты" купалаўскі верш "Маці і сын" — гутарку маці і сына аб тым, хто такія беларусы, што такое беларуская мова.

Увогуле ж, ужо тады, на пачатку XX стагоддзя, у беларускай дзіцячай літаратуры вызначылася пераважная большасць тэм, якія пазней сталі дамінантнымі ў творчасці сучасных дзіцячых літаратараў і для якіх характэрны зварот да побытавых з'яў, да прыроды, паказ чалавечых учынкаў, характарыстыка дабра і зла праз паводзіны жывёл, птушак і прыдуманых казачных персанажаў, у асноўным пазычаных у беларускім фальклоры.

Сцяжынка стала бальшаком, на якім пакінулі свае сляды і цяжкія боты, і лёгкія чаравікі, і гулкія туфелькі. Слядоў ужо так шмат, што многія з іх лёгка паблытаць.

Алесь БАДАК

# Папялушка на чужым балі

## БЕЛАРУСКАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЛІТАРАТУРА: XX СТАГОДДЗЕ. СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАЗІРАННІ

падазравалі, што гэтымі творамі будуць захапляцца падлеткі.

Дзіцячая літаратура — вечнае дзіця літаратуры "дарослай", якая адносіцца да яго то паблажліва, то насмешліва, але ніяк не хоча прызнаваць яго за роўню сабе.

Дзіця напачатку было як дзве кроплі вады падобнае на сваю "маці", але з узростам гэтага падабенства становіцца ўсё менш, з-за чаго насмешкі ў бок "вечнага немаўляці" становяцца ўсё больш колкімі. Маці ператвараецца ў мачыху, і, здаецца, гэтая роля яе зусім не бянтэжыць.

Дзіцячая літаратура вымушана ўсё жыццё несці на сабе кляймо-азначэнне — дзіцячая, — якое здалёк указвае на прыналежнасць яе да пэўнай катэгорыі чытачоў. "Дарослая" літаратура яго пазбаўлена, мы называем яе адным словам — літаратура, — а калі ўжо і дадаём "дарослая", то абавязкова з двукоссем.

Зрэшты, нягледзячы на сваю багатую гісторыю, дзіцячая літаратура (аўтарская), сапраўды, яшчэ нагадвае немаўля, бо, па сутнасці, толькі ў XX стагоддзі атрымала найбольш інтэнсіўнае развіццё і нарэшце вызначылася са сваёй жанравай спецыфікай.

Менавіта XX стагоддзе падарыла нам Алісу ў Краіне Цудаў, Карлсана, Віні Пуха, Чыпаліна, Дорацi і краіну Оз, Нязнайку, Чабурашку...

XX стагоддзе стала вызначальным і ў станаўленні і развіцці беларускай дзіцячай літаратуры, пачаткам якой, не без агаворак, твораў Багдановіча, Гурыновіча, Цёткі, Багушэвіча, каб яны, гэтыя творы, набылі папулярнасць у сучаснага дзіцяці? У дзіцяці, для якога любая чытанка гэта яшчэ, апроч усяго іншага, і ўрок мовы, з якой многія вымушаны знаёміцца найперш па кнігах, а не на вуліцы, у размове з сябрамі ці нават бацькамі: "Свеціць месяц серабраны, Зоркі рэзва зіхацяць. Дрэвы інеем убраны Зачараваны стаяць" (Цішка Гартны); "Скора сонца за лес сядзіць, Аж за вудку нехта цяніць" (Адам Гурыновіч); "Каласочак ця накорміць, Сонка яснае прыгорніць" (Цётка)...

Вось і атрымліваецца, што творы, напісаныя нашымі класікамі для дзяцей, трапляюць не ў дзіцячыя выданні, а ў розныя хрэстаматыі па дзіцячай літаратуры, прызначаныя для студэнтаў ВНУ.

Апошняя з такіх хрэстаматый (насуперак анатацыі, у якой сказана, што ў кнізе змешчаны творы для дашкольнікаў, на самай справе яна мае больш шырокага адрасата) выйшла пазалетась у выдавецтве "Вышэйшая школа" (складальнікі М. Яфімава і В. Ляшук). Хрэстаматыя унікальная і надзвычай каштоўная, хоць, здаецца, і не вельмі заўважаная нашай крытыкай. Каштоўнасць гэтага выдання найперш у тым, што яно дае даволі поўнае ўяўленне аб беларускай дзіцячай літаратуры XX стагоддзя, ва ўсялякім разе, што тычыцца імён, ды яшчэ калі не браць пад увагу аповесці нашых пісьменнікаў, адрасаваныя дзецям.

Прычым, у хрэстаматыі змешчаны творы, якія для многіх чытачоў, відавочна, сталі

Праўда, як і на пачатку стагоддзя, наша дзіцячая літаратура застаецца найперш літаратурай малых жанраў — як у прозе, так і ў паэзіі. Можна, напрыклад, літаральна на пальцах пералічыць тых пісьменнікаў, якія браліся за напісанне аповесці-казкі, як, зрэшты, на пальцах можна пералічыць і самі аповесці-казкі. Ды і ўвогуле, арыгінальная дзіцячая проза — у параўнанні з паэзіяй — дэфіцыт у перыядычных выданнях і выдавецтвах. Прычыны гэтаму могуць быць розныя: і дзіцячых паэтаў у нас, па ўсім відаць, больш, чым празаікаў, і апублікаваць і выдаць тую ж аповесць-казку цяжэй, чым вершы, а часу на яе напісанне траціцца шмат... А ўсе разам яны прыводзяць да нечаканай і, на першы погляд, парадаксальнай высновы: сапраўдных дзіцячых пісьменнікаў у нас значна менш, чым тых, хто піша для дзяцей. Ва ўжо згаданую хрэстаматыю ўвайшлі творы аж 109 паэтаў і празаікаў. Прычым, колькасць імён магла быць і большай, калі б улічваліся і ўсе тыя сучасныя літаратары, хто "параскідаў" свае творы па розных перыядычных выданнях, але яшчэ не паспеў сабраць іх пад адну вокладку. Такая прадстаўнічасць наўрад ці з'яўляецца толькі сведчаннем выключнай любові беларускіх пісьменнікаў да дзяцей і клопатам пра іх выхаванне.

Упэўненасць, што мы здатныя пісаць для дзяцей (а нярэдка і горш таго — упэўненасць, што няма нічога прасцей, чым пісаць для дзяцей), гэтак жа глыбока ўкараняецца ў нас, як і ўпэўненасць у сваіх пісьменніцкіх

---

ЧАСОПІСЫ

# Ручаёк да ручайка — рака

Трошкі няёмка прызнавацца, але да сёлетняга года я чытаў "Крыніцу" час ад часу, цікавячыся ў ёй толькі пэўнымі матэрыяламі. Сёлета ж па сутнасці адкрыў часопіс для сябе, пачаў знаёміцца з ім уважліва, з нумара ў нумар. І адразу ўпэўніўся, наколькі памыляўся, калі праходзіў міма гэтага выдання. Цяпер сустрэча з кожным нумарам "Крыніцы" — чаканае свята. І калі часопіс позніцца, дык ужо і сумна робіцца.

Запазнілася спатканне і з чарговым, сёмым у сёлетнім годзе, нумарам. Прычына вядомая: рэдка якому дзяржаўнаму выданню ўдаецца вытрымліваць графік выхаду. А што сустрэча абяцала быць цікавай, ведаў па шостым нумары: на апошняй старонцы вокладкі па традыцыі было зроблена анансаванне прозвішчаў пісьменнікаў, чые творы можна прачытаць і пра каго пойдзе гаворка крытыкаў.

Нумар, як і звычайна, пачынаецца з раздзела "Я", а ў ім сустрэча з Ю. Віцьбічам. Але, з тым самым Ю. Віцьбічам, які ў гады вайны ўваходзіў у кіраўніцтва "Беларускага культурнага згуртавання", выдаў зборнікі нарысаў "Вяліжскія паўстанцы", "Нацыянальныя святыні". А яшчэ быў прызначаны рэдактарам літаратурна-мастацкага часопіса "Узвышша" — пераемніка таго, які выдаваўся раней, але ніводнага нумара яго так і не з'явілася. На гэтым "супрацоўніцтва" Ю. Віцьбіча з акупантамі і скончылася, калі, вядома, не прымаць пад увагу, што ў 1943 годзе ён удзельнічаў у вяртанні ў Полацк мошчаў святой Еўфрасінні. Але ж вяртаннем усяго, што звязана з імем гэтай славутай асветніцы, мы сёння займаемся на дзяржаўным узроўні.

Дзеля чаго гэта нагадваю? Дзеля таго, што, відаць, знойдуцца ахвочыя чарговы раз узняць гвалт. Маўляў, прапагандуецца напісанае калабарантам! Няўжо наша нацыянальная рыса заключаецца і ў тым, каб гэтым словам, не надта задумваючыся, абзываць адзін аднаго? А падставы так сцвярджаць ёсць, бо той жа Ю. Віцьбіч у гісторыка-краязнаўчым нарысе "Менск, а не Мінск" не прамінае, каб, кажучы яго словамі, камуністых назваць не інакш як калабарантамі.

Але — пра сам нарыс... Ю. Віцьбіч рашуча выступае супраць неабдуманага перайменавання шматлікіх геаграфічных назваў, што асабліва дало аб сабе знаць на Беларусі з пачатку 1960-х гадоў, хоць назіралася і раней. Прычына — назвы тыя быццам бы немілагучныя. Да таго, што гаварыў наконт гэтага Ю. Віцьбіч, варта прыслухацца і некаторым з сённяшніх "перайменавальнікаў": "Між тым, не ўсе ў вольным свеце ведаюць, а калі й ведаюць, дык зусім не праймаюцца з тае прычыны, што сталіца Лондан на кельцкай мове гучыць, як горад на балоце, што горад Чыкага на мове мясцовых індзейцаў — смуродны, што возера Гурон на французскай мове — да свінні падобны, што краіна Уругвай на мове індзейцаў — птушыны хвост, што сталіца Берлін на мове ягоных заснавальнікаў лужычанаў — лужа, што горад Швайндорф на нямецкай мове — свінячая вёска і г.д. Але ж іншая рэч — савецкія "пурытане"... У выніку ў БССР перайменавалі цяпер больш за 200 паселішчаў, а паміж імі й горад Дрысу, якога старадаўні балцкага паходжання назоў змянілі ў 1962 г. на Верхнядзвінск. І справа нават не ў тым, што Дрыса ляжыць не ў вышнявінах Дзвіны, а пасяродку ейнага працягу, а ў тым, што самім расійцам трэба ў першую чаргу змяніць назоў Масквы: які ў перакладзе з фінскай мовы азначае — брудная вада".

Важныя звесткі і ў артыкуле Ю. Віцьбіча "Слуцкі фронт БНР" — асэнсаванне падзей, звязаных з вядомым збройным чынам. Аднак асаблівай навізной вылучаецца перапіска Ю. Віцьбіча з Антонам Адамовічам (змешчаны і адзін ліст Ю. Віцьбіча да айца Льва Гарошкі). Найперш звесткамі, якія тычацца даваеннага літаратурнага жыцця і, галоўным чынам, узаемаадносін паэта Паўлюка Шукайлы з калегамі па пяры.

А воблік Ю. Віцьбіча — пісьменніка і грамадзяніна — паўстае з матэрыялаў "Гарыць і не гасне над попелам прысак..." Л. Юрэвіча, "Лабірынт Віцьбіча" П. Васючэнкі, "Рэгістратар гневу" Ю. Станкевіча, "І мы ідзём далей!" М. Тычыны. Апошні, трэба сказаць, больш за іншых скіроўвае ўвагу і на даваенную творчасць Ю. Віцьбіча, а таксама, што немалаважна, глядзіць на яе ў кантэксце напісанага іншымі аўтарамі, у тым ліку і тымі, чый жыццёвы і творчы лёс таксама быў няпростым.

Радуюць празаічныя старонкі сёмай "Крыніцы". Друкуецца аповед В. Мудрова "Ведзьма" і апавяданне В. Супрунчука "У Парагвай, у цёплы край". Гэтыя творы — свайго роду злепкі з паўсядзённага жыцця. Розніца ў тым, што В. Мудроў піша пра сучаснасць, а В. Супрунчук вяртае чытачоў у даваенныя гады, у Заходнюю Беларусь. Абодва аўтары не пазбаўлены гумару, які ў В. Супрунчука, праўда, прыхаваны, бо гаворка ідзе пра добрых, даверлівых людзей, якія, жывучы ў нястачы і жадаючы разбагацець, застаюцца ні з чым. У В. Мудрова — гэта смех скрозь слёзы, але відавочны і сатырычна-выкрывальныя моманты.

Нізка вершаў Г. Дубянецкай — сучаснасць формы і пэўная традыцыйнасць зместу, што, аднак, не перашкаджае аўтарцы

здольнасцях пасля некалькіх публікацый у газетах ці — тым больш — у часопісах. На жаль, гэтая ўпэўненасць нярэдка ўзнікае не пасля штудзіравання класічных крытычных прац па праблемах дзіцячай літаратуры (паспрабуйце адразу назваць хоць адну з іх — у лепшым выпадку ў галаву тут жа прыйдзе кніга "Ад двух да пяці" К. Чукоўскага) і нават не ў выніку параўнання сваіх твораў з творамі даўно прызнанымі і любімымі чытачамі.

Гэтую ўпэўненасць мы бяром адзін у аднаго, сваіх сяброў і калег — з кніжак, часопісных і газетных публікацый.

***Васількі цвітуць у жыце,***
***ветлівыя вельмі:***
***— Рвіце нас,***
***вянкі пляціце,***
***ды нікому не кажыце,***
***што мы — пустазелле.***

*(Хведар Жычка, "Васількі")*

Знешняя прастата дзіцячай паэзіі ўводзіць у зман не толькі многіх паэтаў, якія бяруцца пісаць для дзяцей, але і крытыкаў, вымушаючы іх асцярожней абыходзіцца са сваімі завостранымі пёрамі і даваць "зялёнае святло" творам, шлях якіх з самага пачатку вядзе ў бездань. Прастата падмяняецца спрошчанасцю, амаль што сінонімамі якой з'яўляюцца неахайнасць і недакладнасць.

***Ах, якое сонейка***
***Зранку над зямлёй,***
***Над дваром, над лаўкай***
***І над галавой.***

***Пад сонцам шчокі лялек***
***Румяняцца ярчэй.***
***На сонцы ззяе мячык***
***І ловіцца ямчэй.***

***І сонейка нібыта***
***Вялізны цёплы мяч,***
***Хаця яго не зловіш,***
***Пусціўшыся наўскач.***

*(Еўдакія Лось, "Сонейка")*

Якое сонейка "зранку над зямлёй" і чаму яно не такое, як заўсёды, для чытача так і застаецца загадкай. І ці бывае яно ранкам над галавой? І, зірнуўшы на неба, ці можна сказаць, што сонца **вялізны** мяч? І адкуль вядома, што гэты "мяч" цёплы (хутчэй ужо гарачы!), раз яго нельга злавіць? Ды і як яго лавіць — да таго ж, чамусьці, "пусціўшыся наўскач", — калі ён "вісіць" на месцы?

Неахайнасць і недакладнасць у аднолькавай ступені характэрныя як для паэзіі, так і для прозы. Скажам, вельмі цяжка растлумачыць дзіцяці, як "бачыць" і "размаўляе" Цыбуля, якая, як вядома, расце "галавой" у зямлю, і як Гарбуз з разоры можа ўскарабкацца на плот (Аляксей Якімовіч, казка "Неслух"). "Ажыўленне" нежывых прадметаў не толькі заўсёды павінна быць апраўдана сюжэтам, але і падмацавана пэўнымі дэталямі, малюнкамі, якія дазваляюць уявіць сабе і самі гэтыя казачныя персанажы, і іх дзеянні. Гарбуз жа, пакуль не паспеў, ляжаў у разоры, на адным месцы, а пасля "ўхапіўся хвосцікам за штыкетнік і пакарабкаўся наверх". Паколькі гэта бадай што ўсё апісанне Гарбуза (нам, праўда, яшчэ вядома, што ён тоўсты і паласаты), можна толькі падзівіцца яго моцнаму і гнуткаму хвосціку.

У "Жывой азбуцы" таго ж аўтара ёсць невялікі раздзельчык-казка, прысвечаны літары "Э". Пра тое, як сустрэліся ў лесе літара "Э" і Зайка. Літара, хоць і вельмі спяшалася ў школу, тым не менш згадзілася пагуляць з Зайкам-абібокам і прапанавала яму такую гульню: прыдумляць словы, якія пачынаюцца з "Э" і ніводная літара ў іх не паўтараецца. Зноў-такі, застаецца толькі падзівіцца і пазайздросціць эрудыцыі Касога, які, не задумваючыся, выпальвае: "Экран, энергія!" (Твор, дарэчы, адрасуецца дашкольнікам). Відаць, калі б гульня на гэты не скончылася, мы пачулі б з яго вуснаў і "эпоха", і "эпілог", а, можа, нават і "эпітура".

Працэс напісання дзіцячага твора гэта ў нейкім сэнсе гульня, але, на жаль, падчас гульня без правілаў. Гэткія скачкі ў вышыню, калі кожны мае права ўздымаць планку, як яму хочацца. Прычым, сёй-той уздымае яе надзвычай высока, але пры гэтым спакойна праходзіць пад планкай, чуючы за спіной хвалебныя ахі сяброў-крытыкаў.

Цяжка адразу прыгадаць, ці з'яўлялася ў нас пазней што-небудзь падобнае на аб'ектыўны, удумлівы і востры аналіз беларускай дзіцячай паэзіі, зроблены Варленам Бечыкам і надрукаваны "ЛіМам" яшчэ ў 1981 годзе — знакамітыя нататкі "Толькі без сю-сю...", якія не страцілі сваёй актуальнасці і па сённяшні дзень.

Затое, несумненна, хапала хвалебных, паблажлівых рэцэнзій і артыкулаў, у якіх — тое ж самае сюсюканне, толькі для дарослых. На жаль, гэтую традыцыю лёгка пераймаюць і маладыя крытыкі (і не толькі "дзіцячыя"), па ўсім відаць, менш за ўсё думаючы аб тым, што гэтым самым яны ўплываюць на літаратурны працэс не лепшым чынам.

Зрэшты, як бы там ні было, канчатковы эфект ад такой крытыкі такі ж, як ад мыльных бурбалак.

Куды горш тое, што такія ж павярхоўныя, нецікавыя і **непрафесійныя** водгукі друкуюцца на сапраўды вартыя ўвагі, пахвалы і падрабязнага разгляду творы і кнігі. Як вядома, курачка-рабка вельмі рэдка нясе залатыя яечкі, а ўсё больш звычайныя, **стандартныя**, а мы, як бы не заўважаючы гэтага, і тыя, і другія кідаем на адну і тую ж патэльню. Ды і прадаём па адной цане.

А тым часам даўно ўжо чакаюць глыбокага аналізу і проста большай увагі да сябе творы У. Ліпскага, П. Місько, Р. Барадуліна, У. Ягоўдзіка, М. Чарняўскага, Р. Баравіковай, В. Зуёнка.., некаторыя з якіх трапілі ў хрэстаматыю і, несумненна, сталі цудоўным яе ўпрыгожаннем.

Чытаючы іх, лішні раз пераконваешся — сапраўдную літаратуру вельмі цяжка ўціснуць у нейкія пэўныя ўзроставыя межы.

І калі ў нас сёй-той лічыць, што дзіцячая літаратура — гэта як бы спрошчаны пераказ прапісных ісцін, які не патрабуе ні глыбіні і арыгінальнасці думак, ні разнастайнасці мастацкіх сродкаў і ўсяго астатняга, што характарызуе "дарослую" літаратуру, то ўся найбольш развітая еўрапейская культура сваім вопытам даўно даказала: творы для дзяцей, для таго, каб заняць сваё месца ў шэрагу шэдэўраў прыгожага пісьменства, павінны на роўных "трымаць канкурэнцыю" з творамі "дарослымі", а значыць, павінны ставіць перад сабой тыя ж задачы.

Прынамсі, не такія ўжо і просценькія, як гэта можа здацца на першы погляд (да таго ж, у сумнавядомых перакладах і пераказах), казкі Ш. Перо, Г. Х. Андэрсена, братоў Грым, В. Гаўфа, С. Лагерлёф, Л. Кэрола...

Усвядоміўшы гэта, ходкі выраз "Для дзяцей трэба пісаць так, як і для дарослых, толькі лепш" пачынаеш разумець па-свойму. Крыху перайначаны, ён ператвараецца з прыгожага дэвіза ў жорсткую рэальнасць і набывае іншае гучанне і сэнс: "Для дзяцей трэба пісаць так, як і для дарослых, толькі гэта цяжэй".

Дзіцячыя пісьменнікі — самі вечныя дзеці. Гэта стан душы даўжынёй у цэлае жыццё. Гэта дзівакі і фантазёры, душы і твары якіх бясконца вылучаюць святло і цяплынь...

Дзіцячая літаратура — гэта свет, перакулены дагары нагамі. У яго можна трапіць, яго можна стварыць самому, але надоўга заставацца ў ім рашаюцца не многія. Толькі "кароткімі набегамі" ці проста заўважыць і зразумець яго асаблівасці, вывучыць усе яго законы?

Не так ужо і шмат аўтараў пачувалі і пачуваюць сябе ў гэтым свеце сапраўднымі гаспадарамі — куды часцей гасцямі.

Янка Маўр, Алесь Якімовіч, Васіль Вітка — гэта была цэлая эпоха ў беларускай дзіцячай літаратуры. Можна па-рознаму адносіцца да творчасці кожнага з іх, але ў любым выпадку нельга не прызнаць, што яна дала вялікі штуршок далейшаму развіццю беларускай дзіцячай літаратуры.

Кожны з іх у свой час па праву займаў у ёй месца ўсімі прызнанага лідэра. Пасля смерці Васіля Віткі гэтае месца, здаецца, так і засталося пустым — нягледзячы на дастатковую колькасць прэтэндэнтаў на яго. Праўда, сёння, як вядома, і пісьменніцкая вага ў грамадстве зусім не тая, што была раней, і ў кнігарнях у беларускіх кніжак з'явіўся жорсткі замежны канкурэнт, побач з якім наша літаратура глядзіцца ціхай прыніжанай Папялушкай.

Гэткай яна ўваходзіць у XXI стагоддзе. І наіўна спадзявацца, што ў бліжэйшы час ёй выпадзе быць прынцэсай на сваім балі. Пакуль — усяго толькі Папялушкай і на чужым, хоць і ў родных сценах.

Між тым, літаратура для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў у нас традыцыйна лічыцца найбольш папулярнай і развітой з усяго, што пішацца для дзяцей. І гэта сапраўды так — у параўнанні з ёю літаратура, адрасаваная школьнікам сярэдняга ўзросту, па дарозе ў XXI стагоддзе ў многім разгубіла сябе, гэтым самым справакаваўшы незвычайна востры дэфіцыт твораў такога кшталту ў выдавецтвах і перыядычных выданнях. Павел Місько, Міхась Зарэмба, Уладзімір Ягоўдзік, Аляксей Якімовіч, Мікола Чарняўскі... Яшчэ два-тры імёны — вось бадай і ўсе, хто **актыўна** працуе спецыяльна для такога ўзросту.

У свой час "Бярозка" літаральна ў кожным нумары друкавала беларускамоўныя аповесці і апавяданні, галоўнымі героямі якіх былі падлеткі — сёння пра іх мы чытаем усё больш дзякуючы перакладным творам.

Зрэшты, крызіс жанру пачаўся не сёння і не ўчора, і вымяраецца ён не толькі колькасцю напісанага.

Вазьміце ў рукі зборнік "Бярозка", гэткае своеасаблівае "выбранае" з нагоды 60-годдзя часопіса, выдадзенае "Юнацтвам" у 1984 годзе. Тое ж "сю-сю", праўда, у іншым абліччы, падсцерагае чытача ледзь не на кожнай старонцы, аглушаючы яго няспынным барабанным громам і пранізлівым звонам піянерскіх горнаў, асляпляючы чырванню піянерскіх гальштукаў, павязаных на шыях — не, нават не піянераў, а хутчэй юных камісараў, пераняўшых манеру паводзін у герояў грамадзянскай вайны. І не ў тэме, у рэшце рэшт, справа. Адмаўляцца ад свайго мінулага ці насмешліва альбо пагардліва глядзець на яго з вышыні часу — не самы лепшы занятак. Справа ў тым, што многія аўтары спрабавалі гаварыць з дзецьмі не жывою мовай, а моваю лозунгаў, той мовою, якой пісаліся абавязкі піянераў, змешчаныя на вокладках школьных сшыткаў. Не стала лозунгаў, не стала "правоў і абавязкаў" — канулі ў Лету многія творы.

***Піянерскае лета прайшло***
***Ў падарожжы па роднаму краю —***
***Белавежская пушча, Кахоўка,***
***Бары над Бярозай-ракой.***
***Скрозь будоўля ідзе,***
***Прыгажэе зямля маладая.***
***Больш на свеце не знойдзеш***
***Краіны прыгожай такой.***

*(Рыгор Няхай, "Добры дзень, наша школа!")*

Хто той аптыміст, што лічыў, быццам літаратура — гэта люстэрка нашага жыцця? Калі і люстэрка, то — вельмі крывое.

"Я люблю назіраць за ракой у гэты час. Здаецца, што не глыбы лёду трушчацца, уздымаюцца і грымяць у рэчышчы, а жывы люд узняўся на грозны бой...

І раптам збоку чыйсьці голас:

— Вы ведаеце, які сёння дзень?

Побач са мною стаяў невысокі белагаловы хлапчук гадоў дванаццаці ў цёмным лыжным касцюме. Я адказаў:

— Ведаю. У гэты дзень нарадзіўся Ленін.

Хлопец задаволена падкрэсліў:

— Так, Ленін..."

*(М. Ваданосаў, апавяданне "Сынаў сын")*

Цяжка паверыць, што ў падобных творах не было прыхаванай іроніі.

Як ні дзіўна, многія з актыўных тады дзіцячых аўтараў сёння амаль ці зусім не пішуць для дзяцей. Узрост? Ці проста не ведаюць, як трэба пісаць у цяперашніх умовах? Старыя піянерскія "абавязкі" даўно не дзейнічаюць, новыя, здаецца, яшчэ не ўвялі. А калі так і не ўвядуць?..

І ўсё ж верыцца, што XXI стагоддзе для беларускай дзіцячай літаратуры будзе больш добразычлівым. Падстава для майго аптымізму — найперш творы маладзейшых аўтараў: Сяргея Кавалёва, Пятра Васючэнкі, Андрэя Федарэнкі, Алеся Наварыча... Іх імёнаў не знойдзеце ў апошняй хрэстаматыі па беларускай дзіцячай літаратуры, і, можа, у гэтым таксама ёсць свой сімвал...

заставацца арыгінальнай. Як, для прыкладу, у гэтым творы — "Па-над лесам":

***па-над лесам***
***па-над часам***
***беглі думкі самапасам***
***беглі***
***збрыквалі далоў***
***сям ды там***
***падкоўкі слоў***

Алег Лойка прадстаўляе паэта К. Свягоцкага, "які ў польскай пасляваеннай паэзіі займеў імя, будучы адным з найбольш цікавых паэтаў пакалення, якое ў нас называецца другім пасляваенным". Прапануюцца вершы К. Свягоцкага як у перакладзе самога А. Лойкі, так і пераствораныя па-беларуску А. Разанавым. Ёсць падставы засведчыць, што сапраўды адбылося адкрыццё яшчэ аднаго цікавага замежнага аўтара. І нельга не сказаць, што паэзія К. Свягоцкага сваімі матывамі блізкая таму, што непакоіць і беларускіх паэтаў, якія прагнуць разабрацца ў саміх сабе, вызначыць уласнае месца і сярод людзей, і ў свеце:

***Ды хто я, што, з якіх іду краінаў,***
***куды і да каго мне закарцела?..***
***Гляджу, мінулае ва мне ўстае ўспамінам,***
***і камень, і святло кранаюць цела.***

***Ці час, аднак, таксама душу выме,***
***глыне, як акіян глынае мора?..***

***Ці ж я адзіна для таго, каб імя***
***сваё, узяўшы ад зямлі, разбіць аб зоры?..***

*("Ды хто я?..", пер. А. Лойкі).*

"Крыніца" знаёміць з філосафам Л. Вітгенштайнам, яшчэ адным прадстаўніком беларускай эміграцыі Я. Сурвілам і, як "апендыкс" нумара — "Ишла Марыля по полю" А. Ліцкевіча. А інакш пра гэтую рускамоўную інтэрпрэтацыю ці то фальклору, ці то гісторыі і не скажаш. У тым сэнсе, што і апендыкс патрэбен, але калі яго і няма, чалавек таксама жыве.

**Антось НІЧЫПАРУК**

# "Між намі жыў..."

Імя славутага паэта Адама Міцкевіча кранута рамантыкай: моцным пачуццём выпісаныя радкі; ліпавыя алеі на Наваградчыне, што памятаюць сляды Марылі і Адама, высылка; смерць за межамі краю, дзе нарадзіўся...

28 кастрычніка ў сценах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва гучалі радкі А. Міцкевіча. На імпрэзе, прысвечанай угодкам паэта, выступалі Г. Запартыка, У. Мархель, Л. Мірачыцкі, К. Цвірка, Я. Янушкевіч. Кожны гаварыў пра славутага земляка, пра "свайго" Міцкевіча. У калідоры размясцілася міні-выстава "Між намі жыў...", дзе было колькі новых матэрыялаў, звязаных з А. Міцкевічам. Матэрыялы (а гэта 150 лістоў-копій) атрыманы з Масквы (Архіў літаратуры і мастацтва); дакументы з розных фондаў, частка з іх — з фонду П. Вяземскага (ліставаўся з Міцкевічам); канешне, усе звязаныя асобай А. Міцкевіча.

Аналіз атрыманых матэрыялаў акрэсліў тэматыку высновы: Міцкевіч — Масква. Цэлых пяць гадоў пражыў паэт у Расіі, тут пазнаёміўся з цветам рускай інтэлігенцыі, быў ласкава прыняты ў салонах (З. Валконскай, інш.); падтрымліваў сувязь з многімі пасля праз перапіску.

Дакументы цікавыя тым, што больш дадаюць звестак пра адносіны, якія склаліся паміж паэтам і знаёмымі яму людзьмі з Расіі. Праўда, матэрыялы яшчэ трэба "расшыфраваць": разабрацца ў почырках, а некаторыя ўрыўкі — на французскай мове.

Найбольш значны з дакументаў, бадай, — выпіска са справы цэнзурнага камітэта аб выданнях твораў А. Міцкевіча ў межах Расійскай імперыі, дзе згадваюцца імёны тых, хто меў адносіны да выдання твораў, да цэнзуры; пра наследаванне аўтарскіх правоў дзецьмі паэта (аказваецца, наследнікамі творчай спадчыны маглі быць тыя з дзяцей паэта, хто пасля свайго паўналецця прыняў падданства Расійскай імперыі... Такіх, як вядома, не было); цікавая прыпіска П. Вяземскага.

Сярод матэрыялаў — лісты да Сабалеўскага С. А. (1803—1870) — сябра А. С. Пушкіна, П. А. Вяземскага, З. Валконскай, вершы са сшытка "Терновый венец" (1831—1857); афіша (1899 г.) літаратурна-музычнага вечара ў гонар А. Міцкевіча, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння; афіша 1940 г. "Вечер памяти Великого польского поэта Адама Мицкевича (85 лет со дня смерти". Вось толькі ліст да Жорж Санд не звязаны з іншымі тэматыкай выставы (трапіў у архіў воляй калекцыянера).

Пра многае цікавае гавораць матэрыялы, аднаўляючы для нас атмасферу рускага грамадства мінулага стагоддзя, дзе быў прыняты паэт, асабістае стаўленне прадстаўнікоў гэтай краіны да яго.

"...Как бы то ни было, Мицкевич радушно принят был Москвою. Она видела в нём подпавшего под административную меру и мало заботилась о вине, вызвавшей эту меру. Мало ли было и по другим учебным округам примеров подобного начальнического распоряжения. Все в Мицкевиче вызывало сочувствие к нему. Он был умен, увлекателен в разговоре, обхождения утонченного, вежливого: держался он очень хорошо и благоразумно; не корчил из себя политической жертвы, не было в нём ни заносчивости, ни униженности..." (з выпіскі са справы цэнзурнага камітэта аб выданнях твораў Міцкевіча ў межах Расійскай імперыі).

**Н. КУЗЬМІЧ**

# На шляхах станаўлення

Сёння філалагічны факультэт Берасцейскага дзяржаўнага універсітэта рыхтуе настаўнікаў беларускай, рускай, украінскай, польскай моў і літаратур, настаўнікаў гісторыі. Гэтае пералічэнне спецыяльнасцяў тут зусім невыпадковае. Справа ў тым, што азначаную акалічнасць пацвярджае першы зборнік навуковых прац студэнтаў факультэта, які называецца "Станаўленне" і ў якім зацікаўлены чытач сустрэнецца з найноўшымі даследаваннямі самае рознае тэматыкі, — еўрапейская літаратура перыяду "цёмных стагоддзяў" (VI—VIII стст.), асаблівасці французскага фарсу ў сярэдневякоўі, "свежыя" назіранні над трагедыяй "Фауст" І. В. Гётэ; тут і даследчыя матэрыялы па творах такіх рускіх пісьменнікаў, як А. Пушкін, Л. Талстой, І. Ганчароў, І. Шмялёў, Ю. Морыц, Г. Куранёў, беларускіх — Я. Колас, М. Гарэцкі, У. Караткевіч, В. Адамчык, В. Іпатава, А. Разанаў.

Кафедра гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі універсітэта ўжо некалькі гадоў шчыруе над "Фразеалагічным слоўнікам Брэстчыны", таму пэўную значнасць уяўляюць чарговыя старонкі ў вышэйзгаданы слоўнік, — гэта прымаўкі, прыказкі, трапныя народныя параўнанні і выказванні, што запісаны ў вёсках Дзівін і Лелікава Кобрынскага раёна, а таксама фразеалагічныя адзінкі вёскі Юўсічы Камянецкага раёна,

Для прыхільнікаў гісторыі роднага краю несумненную вартасць маюць такія даследаванні, як "Некаторыя аспекты дзейнасці польскае праваслаўнае царквы на Палессі ў міжваенны перыяд (1921—1939 гг.)", "Да пытання аб палітыцы ўрада Польшчы і польскага каталіцкага епіскапату па адносінах да праваслаўнае царквы на Брэстчыне (1916—1930)", "Украінскія ўзброеныя фарміраванні на тэрыторыі Беларусі".

**Уладзімір ТАРАСЮК**

ПРОЗА

# ТАТА, НЕ ЗАБЫВАЙ

АПАВЯДАННЕ

Віктар СУПРУНЧУК



АНТОНАЎ прыжмурыўся, як кот на сала, соладка пацягнуўся. Раскінуў рукі ўшыркі, бы сабраўся некага абняць. Уздыхнуў:

— Схуднеў я без жаночай ласкі, без пшанічных бліноў і масліца. Эх, Іване, хто скажа, што ты непрыгожы, плюнь яму ў вочы. Пасля вытры хусцінкаю. Калі зможаш. Папрасі прабачэння, азірніся па баках і спакойна кіруйся да жанчын. Яны хочуць, каб іх любілі і больш нічога. Не трэба насіць на руках, адзяваць у шыкоўныя сукні і запрашаць у нейкія там рэстараны. У Маскве ў мяне была дворнічыха, дык амаль насіла...

Падаў снег на плечы людзей, але яны гэтага не заўважалі. Забылі нават пра ахову, якая ляніва пакурвала, схаваўшыся пад шатамі соснаў. Ніхто не страляў, не раўлі бамбавозы. Быў дзень, і пакуль ніхто не памёр. З тых, хто навідавоку.

На вузкакалейцы стаялі некалькі загружаных лесам вагонаў, але болей было пустых. Толькі ўсе яны белыя, нібы вялізныя труны, што вось-вось апусцяць у матк/-зямельку. Антонаў з Краснапёравым :кінулі ў вагон бервяно, аддыхаліся і, мацюкаючыся, пасунуліся назад па прабітай у наздраватым снезе глыбокай сцежцы. Ногі коўзаліся, плюхала вада. Было сыра і не хацелася жыць. Ніякай надзеі на будучыню. Усё наперадзе — як гэта шэра-белае наваколле, адкуль няма выйсця.

— Вешаеш мне лапшу на вушы, Аляксандр. Я чуў сто разоў твае байкі і ніколі не верыў у іх, — Краснапёраў, паслізнуўшыся, ледзьве не ўпаў у лужыну, якая ўтварылася ў нізкім месцы сцежкі. Антонаў яго падтрымаў, а потым штурхнуў у снег.

— Дурны, бы мой падраны бот.

— Эй, гультаі, варушыцеся! — закрычаў сяржант з аховы па мянушцы Халява. Яго штрафнікі не любілі. Сам быў колісь у штрафбаце, а ганяў без усялякай спагады. Вайна ўжо скончылася і замест перадавой іх прыпёрлі ў лес ля гэтай вёскі, дзе размаўлялі не па-руску, на не надта зразумелай мове. Мясцовыя людзі былі лагодныя, спакойныя, не вельмі гаваркія. З імі кашу не зварыш, не тое, што тулякі ці разанцы. Зусім іншыя характары. Штрафбат якраз стаяў дагэтуль пад Тулаю і ўжо быў рушыў на фронт. Толькі пакуль ехалі да Брэста, выйшла, што і без іх з немцам скончылі. А распачаўся лясны фронт. “Падымем шахты Данбаса!..” Можна і падняць. Гэта лепш, чым скласці галаву да ног пераможнага ворага.

— Не верыш, Іван?

— Чуў і пра жонку лейтэнанта, і пра дачку батальённага камісара...

— І не верыш?

— Табе набрахаць, што мне за тую крывулю-сасну схадзіць.

— Я табе не казаў пра жонку чырвонага героя камкора.

— А, можа, пра жонку... Здаецца, ніхто не чуе... Жонку таварыша Іосіфа Вісарыёнавіча не абдымаў? — Краснапёраў ва ўсмешцы агаліў доўгія, як без скіўіцы, жоўтыя рэдкія зубы.

— Дурны ты, Іван. Магу пра генеральшу расказаць.

— Брашы, дзень хутчэй адыдзе...

У бляклай прасторы цьмяна чарнелі хаты. Вёска была вялікая. Хвасты яе вуліц абвісалі, як вокам акінуць. Магчыма, гэта і якое мястэчка. Антонаў узіраўся, быццам спрабуючы ўбачыць штосьці большае, чым толькі хаты. Некалі, яшчэ пры цары, ён з бацькамі, сёстрамі і братамі падаўся ў бежанства ў Расію. Дзе тая вёска, адкуль яго, гадавалага, вынесла вайна? Каб нават і ўспомніць, дык няма чаго. У памяці толькі Сібір,потым — Волга, быццам там нарадзіўся і жыў.

— Пасля вячэры, Іван, схаджу ў разведку. Час ужо і знаёмствы распачынаць. Пойдзем разам?

— Не, адсяджуся. Глядзі, на ахову не нарвіся, — Краснапёраў засмяяўся. — Не будзе як да генеральшы ехаць.

— Што ахова! Бачыш: і яны ўжо не надта цікуюць. Наша справа верная, перамога за намі!

— Эй, Антонаў! Зноў язык развязаў? Працаваць! — закрычаў сяржант Халява.

Прыцемкі ўжо ля лесу, куды спяшацца? Якая розніца: яны паднясуць дзесяць бярвенняў, ці пяць? Больш альбо менш? Для іх лепш меней: здаравейшыя будуць. Усё роўна ўвесь Данбас лесам не забяспечаць. Сяржант наеў шыю, хай бы і пацягаў бярвенні.

— Тут, Іван, край, нечапаны калгасамі і саўгасамі. Бабы — як непалоханыя цялушкі. Няма больш сіл, іду ў разведку... Пад Чопам начавалі ў адной хахлухі. Сакавітая, бы пераспелая вішня. На печы ляжыць, а я — на падлозе. Ахінуўся шынялькам, драмлю. Кліча: “Салдацік, не холадна?” Як жа ж, канечне, не цёпла. Мне двойчы не тлумач. Печ не падлога — чаму не пагрэць пуза. Назаўтра — дзе і здабыла — абкарміла салам, смятанаю. Адыходзілі, плакала: “Можа, дзе гэтак і мой цягаецца па слоце”. Іду ў разведку...

Антонаў самапасам не рызыкнуў пайсці ў вёску. А навошта? У кожнага чалавека ёсць слабіна, хоць ён па прыродзе воўк ці ягня. Падлабуніўся да сяржанта Халявы, які за капейчыну блыху на вяроўцы ў Маскву загоніць. А калі яшчэ намачыць вяроўку гарэлкаю... Угаварыў. І той за пляшку самагонкі адпусціў. З умоваю, каб усё было шыта-крыта. Калі што, ён самавольна ўцёк: захацелася панюхаць волі, на жанчын паглядзець, сяржант ні пры чым... Няхай сабе і так. Хто яго зловіць? Ці дарэмна беспрытульнічаў у Маскве, як у дваццаць першым згубілі яго бацькі, вяртаючыся з бежанцаў з Омска? Вопыт набыў, ніколі не страціць. Уцякаў ад міліцыі, ад бандзюгаў, ад сваіх старэйшых і дужэйшых братоў па няшчасці. Ніхто не злавіў. Нават энкавэдзіст з наганам, ад жонкі якога выскачыў з другога паверха праз акно. Бег па Маскве ў трусах і пінжаку...

У вёсцы было шмат спаленых хат. Аднак людзі прыстасаваліся. Ля чорных паўразваленых комінаў зладзілі новае жытло. З вакенцаў зямлянак, бы воўчае вока, блішчэла святло газнічак. Куды ж зайсці? Ужо Антонаў і пашкадаваў, што адмовіўся ад вячэры. Тут не раскашуеш, галоту здалёк відаць. У зямлянках, акрамя мышэй, пэўна, нічагусенькі. Дзе тую пляшку Халяве знойдзеш? Хіба абсліненага сухара? І то наўрад... На перадавой ён пажыў. Бывала, замест ста наркомаўскіх грамаў пасля бою на жывую душу — літр. Да штрафбата паеў і амерыканскіх кансерваў. Не, нашыя смачнейшыя. Пахнуць мясам. Іхнія — гумай. Але таксама смачныя. Каб зараз бляшаначку. Ого!.. Гэтая вёска перад ім галаву схіліла б... Ай, нешта будзе!

Збочыў з вуліцы і штурхнуўся ў бліжэйшую зямлянку. Дзверы лёгка адчыніліся. Цёплае сырое паветра з пахамі варанай бульбы, чалавечага поту ахінула Антонава. Ён, не разважаючы, ступіў праз невысокі парог.

Гаспадыня была сімпатычная, яшчэ маладая. Чарнявая, не худая і не тоўстая. Як кажуць, усё пры ёй: і спераду, і ззаду. Хлапчук і дзяўчынка, загарнуўшыся ў рыззё, сядзелі на палацях ля печкі. Антонаў павітаўся. Маўляў, пагрэцца зайшоў. Салдат, што сабака, прытулак шукае. Слова за словам і — нібыта пад гэты стол пехам хадзіў.

— Служым мы тут у лесе, ля Канторы. Гэтак, здаецца, за Ясельдаю вы мясціну называеце. Жыць можна, але сумнавата, — казаў Антонаў. — Як прыехалі, дык і людзей тутэйшых не бачылі.

— Дык жа вы штрафнікі! Хоць бедныя вы бедныя, — пашкадавала яго жанчына. Марыляй яе зваць. Двое дзетак, муж ужо як год прапаў. Можа, і на вайне. А дзе цяпер людзі прападаюць? Сусед брахнуў, што вялікія падаткі, і пагналі да белых мядзведзяў. Цяжка, вельмі цяжка...

— Памочніка шукай.

— Дзе ж ты яго знойдзеш? З мужчын — крывыя ды бязногія. І іх — раз, два. На пальцах палічыш. Вам у лесе сумнавата, а нам у вёсцы бабам як?.. Дроў прывязі, сена накасі, дзяцей дагледзі. А тут зноў — бальшавікі. Падаткі большыя, чым за палякамі. Прыйшоў міліцыянт Крукоўскі. Калі не заплаціш падаткі, хату забяру. Як яго, смаркатага, сухоты не прыбралі...

— Давайце, Марыля, аб'яднаемся. Вы — кабета нават прыгожая. Скажу: у Маскве сустракаў розных артыстак, генеральш, — але адна толькі назва. У цябе губы, бровы... Іншая грошы заплаціла б, каб мець такія. Ух, якая ты ягадка... На генеральшу нармальны мужчына і не гляне. Хіба які касавокі. У яе толькі на стале ікра розная, крабы, каньякі. Не, ты — як афіцыянтка з рэстарана “Казбек”. Як свежыя трускаўкі сярод гэтай зімы.

— Ой, дзеці ж чуюць, — Марыля заружавела, у вачах — агонь. — Ты такі хуткі...

— Ім час ужо спаць. Калі спіш, есці не хочаш.

— А скуль ты, Аляксандр?

— З Масквы. Але бацькі нарадзілі недзе тут. У Расіі я з бежанства.

Марыля выцягнула з печкі чыгун з бульбаю, аднекуль з-пад нараў — замурзаную пляшку. Дзяцей накарміла. Яны, бы звяркі, прыціхлі. Спалі нячутна, як і не было.

Антонаў частаваўся бульбаю з квашанай капустаю. Пацягнуў чарку. Няспешна гаманілі. Быццам спаткаліся не гадзіну назад, а знаёмыя сто гадоў. Марыля ніяк не верыла, што ён жыў у Маскве. Не абы-які, гарадскі, грамацей. Яна ж распісвалася, нібы карова на раскіслым полі, уцякаючы ад сабакі. Пры паляках мог бы і солтысам быць, альбо войтам. А ў Блудні і дзяжурным на станцыі прызначылі б, каб каталіцтва ўзяў...

— Каб я хацеў, — казаў Антонаў, — ужо быў бы генералам. Жонка чырвонага героя таварыша камкора прычэпіцца, мой генерал, мой генерал! Адзену ягоныя галіфэ з лампасамі, мундзір. Чым не генерал? Яшчэ лепшы. Ён стары, таварыш чырвоны герой, а я малады. Дай я цябе пацалую ў твае малінавыя вусны...

— Ой, нашчо, нашчо, Аляксандр! Мне так няёмка. Толькі ж убачыліся... Шчокі ажно гараць ад тваіх слоў, — але не адштурхнула. Прыціснулася ўсім трапяткім целам, застагнала. — Так даўно не была ў мужчынскіх руках. Як хочацца... Здаецца, ваўчыцаю завыю...

За вакном густая цемра. Вечар кароткі, а работы шмат. Сяржанта Халяву нельга крыўдзіць. Другі раз не пусціць. Трэба старацца. Адрабляй бульбу, хлопец. Бедная, якая ласкавая. Бы год не еўшы...

— Нехта, Марылька, пхнеца ў дзверы, — Антонаў паслухаў — брынкнула клямка.

— Спасу на іх няма. От, дурніца! Забылася накінуць засаўку.

— Марыля, ты не спіш? — бокам, атрасаючы з нямецкага шыняля снег, усунулася ў зямлянку жанчына. Скінула хустку і, нібы кудзеля, валасы асыпаліся на плечы.

— Ой, тут чалавек. Я ж непрыбраная, — вачмі кінула па зямлянцы, сыпанула рэдзенькім смехам. Па ўзросце — як Марыля, альбо трошкі маладзейшая. — Ты сягоння багатая. Бач, маўчыш. Можа, пазнаёміш? Я — Агата. Праўда, ніштаватае імя. Не горшае, чым у Марылі. Не дзеравенскае, хоць мы і простыя, не з адукаваных.

— Сядай, калі прыйшла, — Марыля пацямнела ў вачах, як знарок сціснула руку Антонава ў сваёй. — Не спіш па начах...

— Якая ж яшчэ ноч?..

Газнічка чадзіла смярдзючым дымам. Святло слабела. Жанчыны размаўлялі аб нечым сваім. Быццам спуджаныя кошкі, паглядвалі на мужчыну. Кожная рабіла гэта неўпрыкмет. Антонаву было цёпла, добра і як падумае, што трэба ісці па холадзе і снезе ў барак, дык хоць плач.

— Ладненька, гаспадынька. Без мяне наш камандзір роты таварыш Кантаураў і сяржант Халява не змогуць спаць. А то, не дай бог, у Ясельду звалюся, — ён падняўся. Па чарзе цмокнуў жанчын у шчаку. — Я знайшоў сваё шчасце. Як любіў выказвацца чырвонагеройскі камкор: дайце мне шаблю, і я кончу гэтае парася.

Была ў яго жонка Руфа Паўлаўна. Жанчына, якую мог любіць увесь пралетарыят. Ты мне, Марылька, адагрэла душу і цела. Я пайшоў...

Яму тут спадабалася. Не горш, чым у генеральшы. А мо і лепш? Халяве няма бутэлькі. Ці адпусціць заўтра? Нешта яшчэ хацеў сказаць. Свярбела, дых забівала. Усё адразу выкладзеш, а што потым?

— Марылька, мне б хоць на язык солі. Паставіла картоплі, а без солі ніякага смаку, — Агата хуценька завязвала хустку і ўжо стаяла ўпоруч з Антонавым. Ён выйшаў, яна — за ім. Дагнала, спыніла, ухапіўшыся за рукаў шыняля. І нібыта падае. Антонаву нічога не заставалася, як падхапіць.

— Трымай, трымай, кавалер... — Зазірнула ў вочы і раптам ашчаперыла рукамі за шыю. Гарачым ротам абпаліла ягоныя вусны. Ужо і дыхаць не было як. Аслабелі ногі. — Пайшлі да мяне.

А сяржант Халява? А барак? Упаяюць за дэзерцірства, за здраду... Як гэта было ягонае прозвішча?.. Антанавец ці Антанюк? У дзетдоме запісалі Антонавым. Месца нараджэння — правы бераг ракі Волгі, дзе з братамі і сёстрамі калупаліся ў жоўценькім пясочку... Хоць было шэсць гадкоў, але помніць. Уцякалі з бацькамі ад кулямёта чырвоных, якія з баржы палівалі агнём буржуяў на гэтым жоўценькім пясочку. А былі толькі бежанцы. Чакалі параход, каб ехаць на сваю зямлю. Можа, гэта яна пад нагамі. Пахне нечым блізкім, родным...

— Бедненькі ты, бедненькі. Заходзь, Аляксандрык, заходзь, — цягнула яго ў хлявок Агата. У яе было прасторней, чым у Марылі. Аднак замычэла карова, нейкая яшчэ жывёліна абазвалася. Ля грубкі драмала на ўслончыку старая.

— Маці, спаць! У мяне сягоння свята. Кавалер! Спаць, маці! — загадала Агата. У яе таксама была бульба, трошкі сала і бутэлька. Маладосць і прыгажосць і ў нішчымніцы красуюць. Антонаў узяў яе бялявыя валасы ў рукі, адчуў цеплыню і незвычайную асалоду...

— Раскажы што-небудзь. Ты ж гарадскі, не тое што мы, цёмныя, — прашаптала Агата. — Марылька перажыве. Не ўсё ж адной ёй. У яе хоць дзеці...

У, д'ябал! Такой гульні не чакаў. Якнебудзь адкуплюся ад сяржанта. Паабяцаю яшчэ пляшку. Каб ён згарэў, гэты Халява лысы!

— Раскажы, — патрабавала Агата. — Нідзе ж не была, нічога не бачыла. Толькі два гады пажыла ў пакаёўках у Варшаве ў пана Цыбульскага. Гэта ж не Масква.

— І як? — стомлена, засынаючы, спытаў Антонаў.

— Як, як! Не спі. Не зарабіў. Паганы быў. Жонка за парог, ён мяне за клубы. Каб хоць малады. Трухля з яго сыпалася, а бы кацяра ўвесну, — Агата балюча штурхнула ў бок. — Раскажы пра сваё гарадское жыццё.

— Вось сяржант...

— Што мне твой сяржант! Мой бацька-нябожчык мовіў: “Ешце, дзеткі, юшку, бо вы хлеб маеце. Сяржант няхай есць гушчу, бо ён хлеба не мае”. А ты мне ўсё сяржант, сяржант. Я ў Варшаве з харунжым панам Кудзельскім пазнаёмілася. Ён мне ручку цалаваў, як пані. Дык гэта ж харунжы! А ў яго быў сябра паручнік Яблонскі. Хваліўся, што бацька забяспечваў аўсом усё польскае войска. Казаў, давай, памыю ў сельцэрскай вадзе. А мне і ў балеі няблага. Нашчо тая сельцэрская вада? Быў выліты Іцка з Вялікай вуліцы. Гэта ж паручнік! Сяржант нейкі. Цьфу...

— Не кажы, не кажы, — зазлаваў Антонаў. — Паручнік, шмаручнік. У мяне была знаёмая жонка чырвонага героя камкора таварыша... Баявога таварыша, таварыша Сталіна... Я, можа, каб хацеў, пасябраваў бы з жонкаю таварыша Іосіфа Вісарыёнавіча. Калі я ўцякаў ад капітана НКВД праз акно... Каб ты бачыла. Гэта было кіно! Ты хоць раз была ў кіно?

— Не спі, не спі. Не зарабіў, — варушыла яго Агата.

Карова побач неспакойна грызла сена, стукала капытом у сцяну. Ён з асататніх сіл адзеўся, запхнуў у кішэню пляшку, якую здабыла з саломы Агата. Яна правяла яго да краю вёскі. Усё цалавала, жартаўліва кусала за вуха...

— Як разведка? — пытаўся Краснапёраў.

— А як ты думаў? Бач, Халява вясёлы ходзіць.

Нялёгкія былі дні для Антонава. Сяржант учапіўся, бы клешч. Бутэльку патрабаваў праз дзень. Антонаў настойваў на паўбутэльцы. Хопіць і яму, і куму з асабовага аддзела. Дзе ж бедныя ўдовы набяруць столькі гарэлкі? Не вытрымаюць, другога хлопца знойдуць. Муляўся, муляўся Халява, а што зробіш, — пагадзіўся. Патрошкі, але надзейна. Толькі каб без падману. Куму досыць і пляшкі ў месяц...

Антонаў часцяком наведваў вёску. І заўсёды быў жаданы. Яго чакалі, калі б ні

(Працяг на стар. 12)



## ЧАСАПІС

### Спявае "Тутэйшая шляхта"

Іх дванаццаць — фізікаў, хімікаў, матэматыкаў і адзін географ. Усе навукоўцы Белдзяржуніверсітэта. Пераважна кандыдаты навук, дацэнты. Роўна пяць год назад стварылі свой фальклорны спеўны гурт. Далі яму імя "Тутэйшая шляхта". У гэтай назве бачаць шлях-дарогу да вакальна-харэаграфічнага адраджэння народнай песні.

Днямі ў Доме літаратара ў Мінску "шляхцюкі" і "шляхцянкі" выступілі з чарговай праграмай з трох аддзяленняў. Так вымагала прэзентацыя новых строяў гурта. Пасля кожнага антракта спевакі і музыкі выходзілі ў розных стылях строяў. Можна было бачыць узоры адзення сярэдневяковай шляхты, традыцыйна-народныя строі беларусаў, сялянскія святочныя ўборы. З'яўляліся артысты пад музыку гармоніка, баяна, скрыпкі, цымбалаў, флейты, бубнаў з талеркамі, шамкамі. Прысутныя на канцэрце, а гэта былі навукоўцы Белдзяржуніверсітэта, шчырымі воплескамі віталі кожны выхад артыстаў. Строі ўдала аднавіла мастачка Галіна Юрэвіч.

"А ў полі дуб, дуб", "Цячэ вада каламутна", "Цёмная ночка", "А дзе ж тая крынічанька", "Як паехаў Ясь на Русь жаніцца", "Ой у садзе-вінаградзе", "Ды ўжо сонейка" — такі далёка няпоўны пералік беларускіх народных песень, якія гучалі ў гэты вечар.

Былі і песні, напісаныя кіраўніком "Тутэйшай шляхты" Леанідам Махначом. Дарэчы, гэтымі днямі ён абараняе кандыдацкую дысертацыю. Гурт спяваў яго "Вёску, вёску" на словы Паўлюка Труса, "Магілу Міндоўга" паводле балады Яна Чачота ў перакладзе з польскай Кастуся Цвіркі, "Расцвітала бульбачка" на словы Ліліі Матусевіч. Гучалі таксама танцавальныя мелодыі "Мазуркі", "Кадрылі" ў апрацоўцы гарманіста Міхася Слізкага.

Людзі невялічкай славутай вёскі Нізок, што на Уздзеншчыне, лічаць спеўны гурт "Тутэйшая шляхта" сваім. Гэта невыпадкова. Чвэрць яго ўдзельнікаў — аднавяскоўцы. Леанід Махнач, яго дачка Вольга, якая цудоўна іграе на цымбалах, брат кіраўніка гурта Анатоль Махнач — нізоўцы.

У сакавіку 1996 года Беларусь адзначала 100-годдзе з дня нараджэння Кандрата Крапівы. Шырока прайшлі гэтыя ўрачыстасці на Уздзеншчыне — радзіме народнага пісьменніка. Тут, у раённым цэнтры, праходзіў Рэспубліканскі конкурс беларускай байкі, прымеркаванай да гэтай даты. Выступалі многія самадзейныя калектывы, аматары мастацкага чытання. Перамога дасталася "Тутэйшай шляхце" за жартоўную песню "Дзед і баба" на словы Кандрата Крапівы. Музыку да яе напісаў Анатоль Махнач. Ён таксама самадзейны кампазітар, аўтар песні "Падаюць сняжынкі" на словы Паўлюка Труса, а таксама "Нізоўскай полькі" з прыпевамі на словы твораў сваіх аднавяскоўцаў Кандрата Крапівы і Паўлюка Труса...

Пазалетась спеўны гурт пабываў з канцэртамі ў Польшчы. На Беласточчыне тамашнія людзі, якія слухалі песні з Беларусі, казалі: "Малайцы! Наша "Тутэйшая шляхта!"

Гэта самае чулася і ад навукоўцаў Белдзяржуніверсітэта, якія слухалі песні свайго гурта на канцэрце ў Доме літаратара.

**Ал. АЛІН**

### "Падарожнік" у дарозе

І хоць невялікі тыраж мае часопіс вандровак і прыгод "Падарожнік" (усяго 500 экземпляраў), нішу сваю ў літаратуры падобнага роду выданне займае. Сведчыць за тое і чарговы, шосты сёлета нумар.

Дырэктар Кобрынскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы А. Кунац расказвае пра вандроўку па маршруце Іслач—Нёман (артыкул носіць назву "Да Нёмана — праз Налібоцкую пушчу"). С. Лукашэвіч пад рубрыкай "Клубок падарожжаў" выступае з "Каўказскімі нататкамі" (змешчаны толькі пачатак іх). Відавочна, чытачу прыйдзецца даспадобы публікацыя С. Ахшарунава "Гісторыя Бастыліі".

У раздзеле "Архіў" — працяг артыкула "Сталецце краязнаўчай працы на Беларусі" Д. Васілеўскага, які ў свой час быў змешчаны ў часопісе 1920-х гадоў "Наш край". Цікавасць павінен выклікаць і нарыс Л. Дучыц "Беларускія пячоры". Рубрыка "Беларуская гістарычная бібліятэка" прадстаўляе працяг кнігі Льва Казлова "Паўночная вайна на Беларусі".

Ёсць у "Падарожніку" і іншыя цікавыя публікацыі. Несумненна, карыстацца часопісам маглі б і школьнікі, і ўвогуле ўсе, хто нераўнадушны да геаграфічных і гістарычных адкрыццяў.

**Мікола СЛАБОДСКІ**

ФЕСТЫВАЛІ

# Да партрэта музычнага Віцебска

***Гучнай рэкламы і шырокай журналісцкай падтрымкі за 10 гадоў свайго існавання ён не меў і не мае. Дый хіба можа разлічваць на масавае прызнанне? З гэтага фестывалю ніколі не зробяць ні "базар", ні "шлягер".***

Тым не менш, і элітарнасць бывае папулярнаю.

Інакш — чым растлумачыць аншлагі на яго імпрэзах? Канечне, папулярнасцю! У тых, каго проста цікавяць музыка і гісторыя культуры, хто займаецца гуманітарнымі навукамі, творчасцю і асветніцтвам, хто вучыцца распазнаваць, разумець і любіць "прыгожае, добрае, вечнае".

Віцебскі Міжнародны музычны фестываль імя І. Салярцінскага наладжваецца сёлета дзесяты раз запар. Без таннага ажыятажу, з непагасным энтузіязмам арганізатараў, са шчырай цікавасцю ўдзельнікаў, пры нязменнай увазе глядацка-слухацкай грамады, якая — чакае...

Помню, як летась, яшчэ толькі на падыходзе да першай "круглай" даты снежаньскага музычнага свята, расстараліся яго чыннікі. Фестываль муніцыпальнага паходжання годна прадоўжыў асваенне міжнароднага ўзроўню. Прыемна было бачыць у Музычнай гасцёўні выстаўленыя на раялі стракатай чародкай мініяцюрныя сцяжкі краін-удзельніц: Беларусі, Германіі, Канады, Расіі, Швейцарыі. Усцешна было дазнацца, што назвыклая для гэтага фестывалю расцягнутасць у часе (без малога два тыдні) публіку не адпрэчыла. Толькі госці Віцебска пакуталі ад марнасці ахапіць неабдымнае, абменьваючыся інфармацыяй ды ўражаннямі накошт таго, каму што давялося заспець у дні свайго візіту на фэст.

Адкрыццём, калі не сказаць сенсацыяй, IX фестывалю сталася творчая асоба Івана Сакалова — маладога рускага кампазітара, піяніста, асветніка. Хацелася нават супаставіць яго феномен з постаццю Івана Іванавіча Салярцінскага, 95-годдзю з дня нараджэння якога прысвячаўся леташні фэст. І мінчукі,і віцябляне былі ўражаныя неардынарнымі выступленнямі (лекцыямі? гутаркамі? літаратурна-музычна-філасофскімі маналогамі?) І. Сакалова, глыбінёй і дасканаласцю яго ведаў і амаль дзіцячай адкрытасцю ў стасунках, яго ўменнем спалучаць захапляючы аповед ці не пра кожны такт музычнага твора з чытаннем вершаў... Хтосьці нават прызнаўся, што ўпершыню сустрэў чалавека, "які грае сучасную музыку і гэта можна слухаць". А сам Іван, якому мяне прадставілі як заўсёдніцу Віцебска, сказаў: "Я вам зайздрошчу, у тым, што вы тут — з першага фестывалю".

●

Дарэчы, ці не кожны з новых гасцей — піцерцаў, маскоўцаў — прызнаецца ў гэткай "зайздрасці". Як, маўляў, цікава, якая свая, неардынарная форма культурных стасункаў! Фестываляў высокага ўзору, міжнароднага маштабу, вядома ж, у Расіі стае, і фінансавым магчымасцям суседзяў у арганізацыі сур'ёзных, не "базарна-шлягерных" музычных форумаў пазайздросціць можам мы. Але тое, што фестываль у снежаньскім Віцебску ўражвае найперш не парадам імёнаў, а сапраўдным духам творчасці, што ёсць тут нязмушанае суладдзе канцэртаў, мастацкіх імпрэзаў, тэарэтычных сходаў з навуковымі чытаннямі, — наводзіць некаторых нашых гасцей на думку пераняць ідэю гэтых фестывальных абгаварэнняў-дыскусій.

Насамрэч жывая творчая справа ладкуецца паводле нейкіх сваіх унутраных законаў. І невыпадкова чарговыя навуковыя чытанні выйшлі за межы азначанай тэмы: "Віцебскі рэнесанс пачатку XX стагоддзя". Адкрыццё выстаўкі, прысвечанай вобразу музыкі ў выяўленчым мастацтве, выклікала аўдыторыю на дыялог з піцерскай мастачкай Т. Апраксінай, з мінчуком М. Бушчыкам. Замежныя ўражанні музыказнаўцы, загадчыцы аддзела расійскага часопіса "Музыкальная академия" М. Несцьевай сталіся падставай для пазнаваўчага ілюстраванага аповеду пра фестываль у Мюнхене і сучасны стан опернага мастацтва. Навуковыя знаходкі супрацоўніцы Цэнтральнага музея музыкі імя М. Глінкі В. Зарудка дазволілі "пагартаць старонкі" неапублікаваных дзённікаў М. Мендэльсон-Пракоф'евай. А ў выступленнях сталых добрых сяброў фестывалю — піцерцаў Д. Салярцінскага, Б. Цішчанкі, масквіча А. Кузняцова, беларускага філосафа Э. Дарашэвіча працягвалася асэнсаванне ўплыву гістарычнага віцебскага асяроддзя на фарміраванне пэўных мастацкіх тэндэнцый, на станаўленне вядомых творчых асоб, спакроўленасць гэтага асяроддзя са скарбамі сусветнай эстэтычнай думкі...

●

Зрэшты, змест зацікаўленых размоў у перапоўненай Музычнай гасцёўні Віцебска, кола ўдзельнікаў гэтых размоў мусяць быць прадметам увагі навукова-папулярнага часопіса ці альманаха.



*Выступае "Санкт-Петэрс Трыо".*

А вось насычанае канцэртнае жыццё надоўга застаецца "прадметам успамінаў" для слухачоў.

Мінулы фестываль пакінуў у памяці нямала яскравых эпізодаў, звязаных з мастацтвам беларускіх выканаўцаў і творцаў. "Голанд — у Віцебску!" — так і карцела выгукнуць з нагоды выступленняў Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам У. Байдава. У іх увайшлі старонкі вядомай мінчукам фестывальнай імпрэзы, зладкаванай аб'яднаннем "Беларуская Капэла" і прысвечанай кампазітару Яну Голанду. Апроч таго, завіталі ў Віцебск творы К. Ф. Э. Баха, Шуберта, Радзівіла і Агінскага, сучасная швейцарская музыка (гэткая "Развітальная сімфонія" Гайдна, толькі... наадварот), і нядаўнія прэм'еры беларускіх аўтараў — Г. Гарэлавай, В. Кузняцова.

Дарэчы, наконт прэм'ер. Упершыню за гісторыю фестывалю адбылася тут камерная, але па-еўрапейску вытанчаная падзея: першае выкананне кампазіцыі для флейты і гітары "Filix". Беларускі творца А. Літвіноўскі пісаў яе па замове дуэта швейцарскіх музыкантаў Б. Маера ды Х. Ёнкерса, якія падчас гастрольнага выступлення ў Мінску пазнаёміліся з некаторымі нашымі музыкантамі, зацікавіліся творчасцю свайго новага сябра і папрасілі зрабіць для іх арыгінальную п'есу. Пасля некалькіх месяцаў працы кампазітар адаслаў ноты ў Швейцарыю, адкуль потым атрымаў кароткі ліст-прывітанне: маўляў, ідуць рэпетыцыі, сустрэнемся на еўрапейскай прэм'еры ў Віцебску...

Але, як гэта часцяком бывае, калі ўсё складваецца занадта гладка, — лёс "падкінуў інтрыгу". У дзень сустрэчы швейцарскіх гасцей узнікла складаная метэаралагічная сітуацыя, і аэрапорт "Мінск-2", куды накіравалася машына з Віцебска, зачыніў на няпэўны тэрмін. Франкфуркцкі самалёт, якім ляцелі нашы госці, "паварнулі". За суткі доўгага чакання надзею на іх прыезд амаль страцілі і арганізатары фестывалю, і кампазітар. Ды ўсё ж ягоная прэм'ера адбылася!

З вялікім спазненнем дабраліся спадары Маер ды Ёнкерс да Віцебска, паспелі толькі на другое аддзяленне канцэрта, у якім планавалася іх супольнае выступленне з беларускімі музыкантамі з "Класік-Авангарда", і мусілі граць сваім дуэтам, бо на рэпетыцыі інтэрнацыянальнага ансамбля проста не было часу. А назаўтра з аншлагам прайшоў іх вечар ва ўтульнай зале тэатра "Лялька", і сярод класікі, сярод заходнееўрапейскага авангарда годна прагучаў у выкананні швейцарцаў "Filix".

Чаму А. Літвіноўскі даў свайму новаму опусу дзіўную лацінскую назву? Таму што гэтае слова азначае адзін з відаў папараці, а з-за адсутнасці ідыематычнага адпаведніка можна перакладаць яго як... "папараць-кветка"! Вобразны свет, што паўстае ў мудрагелістым дыялогу флейты ды гітары, навеяны, зразумела ж, матывамі старажытных паданняў, легенд. Слухаючы "Filix", я ўспамінаю адзін вядомы Купалаў верш — той самы, дзе легенда пра папараць-кветку пазбаўлена традыцыйнага рамантычнага вэлюму і ўс-





*"Я клавишей стаю кормил с руки" — Пастарнак, музыка і... піяніст Уладзімір ДУЛАЎ.*



*Швейцарскі дуэт Бруна МАЕР (флейта) ды Хан ЁНКЕРС (гітара).*



*Заслужаная артыстка Расіі, салістка Марыінскага тэатра Вольга КОНДЗІНА.*




*За раялем — Іван САКАЛОЎ (Масква).*

прымаецца з болем за марнасць людскіх памкненняў...

Між іншым, А. Літвіноўскаму пашанцавала і на выкананне яго харавой музыкі: выдатны Полацкі камерны хор, якім кіруе Л. Жукава, прысвяціў творчасці гэтага living рознабаковага кампазітара ці не цэлае канцэртнае аддзяленне. У кулуарах казалі: калі пастарацца, можна зрабіць і аўтарскі вечар...

●

Вядома, што аўтарскія канцэрты падчас фестывалю імя І. Салярцінскага практыкуюцца (згадайма, напрыклад, Б. Цішчанку). Імпрэзу трохі іншага кшталту прапанаваў мінулым разам саліст "Класік-Авангарда" У. Дулаў, залучыўшы ў Музычную гасцёўню многіх, каго цікавіў аповед пра Б. Пастарнака і музыку. Мяккая, давяральная манера апавядальніка, які спрычыніўся да складанага ўнутранага свету Пастарнака-юнака, Пастарнака-музыкі, Пастарнака-шукальніка ісціны; які ведае і пранікнёна чытае яго паэзію; які сам — нібы "паэт фартэпіяна", тонкі, таленавіты піяніст... Міжволі У. Дулаў сваёй музычна-літаратурнай кампазіцыяй падказаў ідэю заўсёднай прысутнасці на фестывалі такога віду творчасці. Літаратурна-музычныя повязі маюць багатую гісторыю ў свеце. У тым ліку ў беларускім культурным свеце.

●

Аднак ці не захапілася я ўспамінамі? Трэба рыхтаваць сябе да новых уражанняў. Заснавальнік фестывалю — Віцебскае музычнае таварыства на чале з Уладзімірам Правілавым, пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі, Віцебскага абласнога і гарадскога ўпраўленняў культуры, Санкт-Пецярбургскага фонду Шастаковіча і спонсараў абяцае не расчараваць. Прыедуць ужо знаёмыя І. Сакалоў, С. Савенка, А. Кузняцоў, сусветна вядомы скрыпач С. Стадлер; будзе праграма, прысвечаная 200-годдзю Адама Міцкевіча...

Праўда, мастацкі кіраўнік фестывалю, ён жа — мастацкі кіраўнік і дырыжор Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" Уладзімір Байдаў з уласцівай яму прымхлівасцю неахвотна распавядае пра дэталі праграмы сёлетняга мастацкага свята: ці мала што здараецца ў нашым няўстойлівым свеце!

Галоўнае, у чым можна не сумнявацца, — будзе цікава. І тое, што фестываль пройдзе ўжо дзесяты раз, для "Класік-Авангарда" падзея асаблівая, для ягонага маэстра — асабістая. Бо менавіта з гэтым фестывалем, які "прыдумаў" ураджэнец Віцебска У. Байдаў, звязана стварэнне новага выдатнага калектыву, які з годнасцю прадстаўляе музычнае мастацтва Беларусі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота М. ШМЕРЛІНГА*

ВЫСТАВЫ

# Хачу, каб мае работы жылі...

Жанчына ў мастацтве — з'ява не такая й частая. У Акадэмію мастацтваў паступае многа таленавітых дзяўчат, яскравых зорачак сваіх курсаў, але колькі іх пасля знікае з актыўнага прафесійнага мастацтва ў хуткаплыннасці матэрыяльных варункаў, у будзённасці жаночага быцця: хата, дзеці, кухня... Застаюцца сапраўды апантаныя, гатовыя дзеля творчасці ахвяраваць многім. І іх імёны гучаць на выставах, гучаць моцна, цікава, па-жаноцку вытанчана — згадайма Алену Лось, Валянціну Свентахоўскую, Валянціну Бартлаву... Сярод іх — апантаны творца і цікавая жанчына Зоя Літвінава.

Яе выстава — у Нацыянальным мастацкім музеі. На Беларусі ў мастачкі гэта першая такая вялікая выстава, яна заняла ўсе выставачныя залы музея. Так, яе работы згадваюцца на агульных выставах. Дый немагчыма не заўважыць у любой экспазіцыі буйнасць яе колеравых фантазій. Але сама мастачка прызнаецца, што шырокага кола сяброў на радзіме яна не набыла, дапамагае хіба толькі сяброўства ў суполцы "Няміга", чымсьці блізкай ёй па духу. Дарэчы, і экспазіцыю, даволі ўдалую, рабілі сябры з суполкі. Зоя Васільеўна апошнія гады многа часу праводзіць за межамі краіны. Яна працуе і жыве месяцамі ў Аўстрыі, бывае таксама ў іншых краінах вольнай Еўропы. Там нечакана для сябе яна займела вялікі поспех, у тым ліку і камерцыйны, штогод адкрывае выставы сваіх новых работ, якія пішуцца адразу па непасрэдных уражаннях. Яна, як і многія беларускія мастакі за мяжою, адчувае, наколькі адрозніваецца наша мастацтва ад аўстрыйскага, увогуле ад агульнаеўрапейскага — шматграннасцю, эмацыянальнасцю, адчуваннем школы, жаданнем мастакоў ісці ў творчасці праз глыбока нацыянальнае адчуванне ў адрозненне ад насычанай канцэптуальнасцю Еўропы. І штогод заўжды праз два-тры месяцы яна вяртаецца на Беларусь, бо, як сама заўважае, хутка стамляецца ад чыстай, прыгожай, але ў нечым задужа стэрыльнай для яе Аўстрыі.

На выставе Зоя Літвінава прадставіла гледачам увесь спектр сваёй сённяшняй творчасці. Тут і яе адметны жывапіс, габелен, малюнкі, акварэльныя замалёўкі. Па адукацыі яна — манументаліст, яе настаўнікамі былі выдатныя мастакі Г. Вашчанка, А. Кішчанка, С. Каткоў, А. Малішэўскі. Нездарма яна вылучаецца сваімі няспыннымі пошукамі ў колеравай пластыцы, жаданнем не разумець, а адчуваць фарбы. А, з другога боку, у яе карцінах яўна чытаецца манументалізм (Зоя Васільеўна стварыла некалькі манументальных роспісаў у тэхніцы энкаўстыкі і тэмперы ў шэрагу грамадскіх будынкаў Мінска, Магілёва, Мікашэвічаў, у санаторыі Саўміна Беларусі ў Місхоры, вітражы, габелены). У студэнцкія гады Зоя блізка сябравала з Аляксандрам Кішчанкам. Бясконцыя гаворкі і спрэчкі, але найперш уздзеянне яго асобы і сістэмы яго творчасці дапамаглі фарміраванню сённяшняй Літвінавай. І хоць у апошнія гады жыцця Кішчанкі яна не ва ўсім была з ім згодна, у манеры малявання, у яркай колеравасці, у дакладна і шматпланава пабудаванай кампазіцыі яна застаецца яго вучаніцай. А па нястомнасці ў творчасці яна — вучаніца Вашчанкі.

Сутнасць творчасці мастачкі — у яе відочным імкненні да духоўнасці, выяўленні ў мастацкіх вобразах духоўнага пачатку жыцця. Магчыма, таму многія яе работы апошніх гадоў прапаведуюць духоўнасць на падставе знаёмых рэлігійных вобразаў маці з дзіцем Хрыста, анёлаў, святых помнікаў, напрыклад, абора святой Сафіі ("Бегства ў Егіпет", "Мадонна", "Знакі Сафіі", "Гефсіманскі сад", "Захавальнік жыцця"). Гэта падкрэслена ў назвах яе работ, гэта прачытваецца ў пабудове кампазіцыі, часам відочна іканапіснай ("Тайная вячэра", габелен "Благавешчанне"). Са студэнцтва мастачка захаплялася рускім іканапісам, фрэскавым жывапісам, імкнулася прачытаць яго падтэкст, знаходзіла ў сухіх для несвядомага вока лініях прыгажосць і эмацыянальнасць. Яе гэта па-сапраўднаму хвалявала, яна ездзіла, вывучала рускую фрэску. Праўда, час быў неспрыяльны для такіх адкрыццяў, патрабаваўся больш каларытны, яркі, "мясісты" жывапіс, і мастачка мусіла аддаць яму даніну ў сваіх першых карычнева-чырвоных, зялёных "густых" палотнах. Але хутка сама стала стамляцца ад гэтай змрочнасці, ад цяжкаватасці класічнай кампазіцыі. У жыцці і так зашмат праблем, а, магчыма, людзям патрабуецца менавіта прыгажосць і лёгкасць. А да гэтай лёгкасці Зоя Літвінава ішла праз умоўнасць і фармальнасць задач. "Я пішу не толькі той свет, які проста навокал нас, але найперш той, які адчуваю, — распавядае мастачка. — Я стала ў карціны ўводзіць золата. Таму што, на мой погляд, золата само па сабе матэрыял умоўны. Золата — гэта атаясамленне сонца, нейкай духоўнай субстанцыі. Для мяне гэта і традыцыі, але ў той жа час сучасны мастак пераасэнсоўвае іх, таму што традыцыя заўжды новая. А каноны для мяне ніколі не былі проста застылай догмай".



Такое пераасэнсаванне сваёй творчасці адбылося ў яе ў другой палове 80-х гадоў.



*"Захавальнік жыцця"*



*Габелен "Шлях да настаўніка"*

Замест узвышанай эпічнасці імкнення ствараць вобразы-сімвалы, вобразы-метафары, нацыянальныя па духу, але без этнаграфізму і бытавізму, яна звяртаецца да ўмоўнасці, да іншага разумення прасторы. У яе кампазіцыях валадараць складаныя шматфігурныя прасторавыя сістэмы, са сваёй логікай, якая не выцякае са звычайнага візуальнага ўспрымання наваколля. Гэтыя прасторавыя рашэнні вызначаюцца колерам і яго дынамікай. У многім каларыт яе работ яркі і дэкаратыўны, і гэтым ён пачынае ствараць больш святланоснае асяроддзе. Работы Літвінавай сапраўды патрабуюць шмат святла, каб зайграць колерамі і светлавымі плямамі. Шматмернасць прасторы, святланоснасць і экспрэсія форм часта ставяць вобразы, ствараемыя Літвінавай, на мяжу бязрэчавасці. І мастачка нібы балансуе на гэтай мяжы, тым самым актывізуючы фантазію гледача. Золата, як колер, таксама сам па сабе колер святла, ён выводзіць з рэальнай прасторы, таму патрабуе адыходу ад натуралізму ў рабоце ("Залаты танец", "Дэкаратыўны фрыз").

Яшчэ падчас навучання ў інстытуце Літвінава зразумела, што задача мастака — не капіраваць прыроду, а пераводзіць на ўмоўную мову жывапісу ўражанні, пачуцці, думкі. Толькі гэтым мастацтва можа даць чалавеку творчы імпульс, унутраную свабоду. Гэтым студэнтка не ўпісвалася ў існуючыя рамкі патрабаванняў рэалістычнай манеры пісьма. А яе схільнасць да абстрагавання не сустракала прыхільнасці. Хоць мастачка лічыць, што самі задачы школы — пошукаў у колеры, кампазіцыі — з'яўляюцца ад пачатку фармальнымі. Дый само манументальнае мастацтва, роспісы на сцяне патрабуюць мыслення абстрагаванага.

Зою заўжды цікавілі вялікія аб'ёмы. Гэта адчуваецца па вялікіх жывапісных палотнах. Гэтым тлумачыцца яе любоў да роспісаў. Беларуская праваслаўная царква адмовілася, не падтрымала яе жадання распісаць царкву, як адмовілася і ад прапаноў многіх мастакоў, чыё мастацкае бачанне не ўкладваецца ў яе догмы. Затое запрасіла да працы каталіцкая царква ў Аўстрыі, у горадзе Хофгартэн, прапанаваўшы распісаць капэлу Божай Маці ў царкве XIX стагоддзя. Гэта былі шчаслівыя абставіны, калі святар выпадкова ў гасцях пабачыў яе карціны, захапіўся імі, пазнаёміўся і цалкам задаволіўся тым бачаннем роспісу царквы, які выклала яму мастачка. Не звязаная аніякімі кананічнымі абавязкамі, яна зрабіла досыць традыцыйны, але каларытны і маляўнічы роспіс.

Зоя Васільеўна актыўна працуе. Карціна часам ствараецца ў яе за дзень, адна ідэя апярэджвае другую. Хочацца спадзявацца, што такая творчая справаздача, як сёння, будзе для гэтага майстра — стваральніка духоўнага, светлага, яркага мастацтва — не апошняй на Беларусі.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*Фота К. ДРОБАВА*

## Родам з Украіны

АНАТОЛЮ ЧАРКАСАВУ — 70

**Нарадзіўся Анатоль Паўлавіч у горадзе Светлагорску Кіраваградскай вобласці (Украіна). У пачатку Вялікай Айчыннай вайны быў эвакуіраваны на Паволжа. У 1943—1944 гадах працаваў у ваеннай установе. У час выбуху склада боепрыпасаў быў цяжка паранены. Нягледзячы на фізічную нямогласць, скончыў Мінскі бібліятэчны тэхнікум імя А. С. Пушкіна, а потым аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў карэктарам, рэдактарам выдавецтва "Беларусь", з 1972 года — рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура" пазней — "Юнацтва". У 1986—1989 гадах загадваў адной з рэдакцый гэтага выдавецтва.**

**Літаратурную дзейнасць пачаў у 1957 годзе. Выдаў кнігі нарысаў "Балотны скарб", "Цудоўны камень", "Старонкі слаўнага летапісу", "Магутны твой зямляк", "Волаты на дарогах". Аўтар сцэнарыя дакументальнага фільма "Мазырскі ліст" (пастаўлены ў 1967 годзе) і навукова-папулярнага "Наш завод — наш дом" (пастаўлены ў 1968 годзе). На беларускую мову перакладаў творы рускіх і ўкраінскіх дзіцячых пісьменнікаў, на рускую — апавяданні ўкраінскіх празаікаў, балгарскія, чэшскія казкі.**

**З 70-годдзем, шаноўны Анатоль Паўлавіч! Доўгіх гадоў вам жыцця, новых твораў!**

## Хапала яго на ўсё

**Ёсць нагода добрым словам успомніць незабыўнага Вацлава Ластоўскага — з дня яго нараджэння спаўняецца 115 гадоў (расстраляны 23 студзеня 1938 года). Біяграфія гэтага чалавека вартая кнігі (дарэчы, у серыі "Нашы славутыя землякі" выдавецтва "Навука і тэхніка" выпусціла нарыс Язэпа Янушкевіча "Неадменны сакратар Адраджэння"). В. Ластоўскі ўвайшоў у гісторыю як грамадскі дзеяч, крытык і літаратуразнаўца, празаік, а яшчэ — як адзін з самых выдатных нацыянальных адраджэнцаў, што праявілася як у яго працы на карысць Бацькаўшчыны, так і ў літаратурнай дзейнасці.**

**Да беларускага нацыянальнага грамадскага і культурнага руху ён далучыўся падчас працы канторшчыкам на таварнай станцыі ў Рызе. У 1906—1908 гадах уваходзіў у Беларускую сацыялістычную грамаду. У 1909 годзе стаў сакратаром рэдакцыі газеты "Наша Ніва", у Вільні ж загадваў першай беларускай кнігарняй. У 1916—1917 гадах рэдагаваў газету "Гоман", у 1918-м выдаваў газету "Крывічанін". У канцы таго ж года ўзначаліў Беларускае прадстаўніцтва ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі пры літоўскай тарыбе, з'яўляўся беларускім аташэ пры літоўскім пасольстве ў Берліне. Са снежня 1919 года ўзначальваў Раду міністраў БНР. Быў зняволены польскімі буржуазнымі ўладамі. У красавіку 1923 года выйшаў з урада БНР. У Коўне выдаваў літаратурна-навуковы часопіс "Крывіч".**

**У 1927 годзе вярнуўся ў Мінск. Працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, у Інстытуце беларускай культуры, у Акадэміі навук Беларусі. Першы раз Вацлава Юсцінавіча арыштавалі ў 1930 годзе, пазбавілі звання акадэміка і на пяць гадоў выслалі ў Саратаў, дзе ён загадваў аддзелам рэдкай кнігі ў бібліятэцы мясцовага універсітэта. У 1937 годзе В. Ластоўскага зноў рэпрэсіравалі, пасля чаго яго жыццё і абарвалася трагічна.**

**Найбольш поўна мастакоўская спадчына Вацлава Юсцінавіча прадстаўлена ў кнізе, што выйшла ў серыі "Беларускі кнігазбор". У гэтай жа серыі мяркуецца з цягам часу выдаць і яго выдатную працу "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі", якая ўпершыню пабачыла свет у 1926 годзе ў Коўне. Да ўсяго В. Ластоўскі — аўтар "Кароткай гісторыі Беларусі", "Руска-беларускага слоўніка".**

## Паэзія і проза жыцця

**Уладзімір Ляпёшкін нарадзіўся ў вёсцы Церабель Пухавіцкага раёна. У 1951 годзе скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Працаваў у сталічных школах выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, быў завучам, дырэктарам. У 1970—1979 гадах з'яўляўся дырэктарам выдавецтва "Народная асвета", затым, да выхаду ў 1987-ым на пенсію, узначальваў педагагічны калектыў СШ N 23 г. Мінска. З першымі вершамі выступіў у 1949 годзе. Аўтар кнігі паэзіі "Ранішнія росы", "Рупнасць", Роднае", "Вусце", "Перадлецце", зборніка для дзяцей "Званкі-званочкі". У гэтыя дні Уладзіміру Ігнатавічу споўнілася б 70 гадоў (памёр У. Ляпёшкін 5 лютага 1994 года).**

ПЕРАКЛАДЫ

Ганад ЧАРКАЗЯН



## "Думкі над намі анёламі..."

●

*Стаяць у чыстым полі*
*Дзве бярозы,*
*Бароняцца ад спёкі,*
*Ад дажджоў.*
*Пад позіркам*
*Штодзённае пагрозы*
*Вяртаюцца здалёк,*
*З зялёных сноў.*

*А побач маладая,*
*Трапяткая*
*Зламаная бярэзінка*
*Адна*
*Маўчыць*
*І ўжо нічога не чакае.*
*З суседкамі*
*Не зашуміць яна...*

●

*Было б прасцей*
*Забыцца, адысці*
*Ад усяго,*
*Што здзеіў у жыцці.*
*Дажыць свой век*
*Без тлуму,*
*Без жытла*
*Ля вогнішча,*
*Дзе больш няма цяпла.*
*Але дыханне ўжо*
*Забраў дымок,*
*Слязой апошняй*
*Вока завалок.*

●

На зямлі ніводзін
чалавек не адзін.
*А. Квен Арма*

*Няма самотных*
*На гэтай зямлі,*
*Як ты не цвялі*
*Тугу.*
*І бервяно не адно,*
*Калі*
*Мае сваю вагу.*

*І вязня смутнага*
*Пад зямлёй*
*Аднаго*
*Не пакіне кат.*
*І птушка,*
*Што лёт завяршае свой,*
*Адчувае*
*Зорак пагляд.*

*Хадыка, якога*
*Стаміла жыццё,*
*Пустэльнай дарогай*
*Ідзе.*
*І маладзік*
*З небыцця ў небыццё*
*Гаркотна яго вядзе.*

*Няўпэўнены чалавек*
*Ва ўсім*
*Растрачвае лёгка дні.*
*Ён не адзін,*
*Бо думкі над ім*
*Анёламі ў вышыні.*

●

*Мы адкладваем на пасля,*
*Што зрабіць бы*
*Мусілі сёння.*
*Чалавека баіцца зямля,*
*Ён бяды натварыў*
*Прадонне.*
*Снег баіцца*
*Сонца й цяпла,*
*Хоць знікае ён*
*Ручаямі.*
*Ноч баіцца*
*Дня і святла.*
*І сябе*
*Мы баімся самі...*

●

*Аднолькава*
*Дабраслаўляе Бог*
*І жабрака,*
*І багача скупога.*
*Багач забраў сабе*
*Усё, што мог.*
*На свечку Богу*
*Ледзь наскроб нябога.*

*За пазухай трымаць*
*Няма чаго*
*Сляпую крыўду,*
*Бо свая дарога*
*У кожнага.*
*Яна сама*
*Яго*
*Прывесці мусіць*
*На парог да Бога.*

●

*Мост, што наперадзе*
*Чакае нас,*
*Не абмінуць нікому*
*І ніколі.*
*Старэе разам з намі*
*Шпаркі час,*
*І мы жывём*
*Закладнікамі долі.*

*Вада з нябёсамі*
*Пад мостам тым,*
*І мы нясмела*
*Пастаім на мосце.*
*Мост нетрывалы,*
*Як правідны дым,*
*Ідзём над прорвай*
*Да пакуты ў госці.*

*Ісці хацелася б*
*Уброд, наўпрост.*
*Як кажуць, мокраму*
*Вада не ў страхі.*
*Злучае берагі нябыту*
*Мост.*
*А ці лятуць,*
*Куды захочуць,*
*Птахі?*

●

*Скажы,*
*Што ты стаміўся*
*Ад аблокаў,*
*Якія праплываюць*
*Над табой.*
*Скажы,*
*Што ты аглух*
*Ад ціхіх крокаў,*
*Якімі ходзіць*
*Шэры неспакой.*
*Скажы,*
*Што ты стаміўся*
*Ад гаворкі*
*Ракі пабегліваай*
*І ручая.*
*Маўчаць, бо ведаюць,*
*Вядома, зоркі,*
*Адкуль журба*
*І стомленасць твая.*

●

Анатолю Б.

*Дагарае свечка ў цішыні,*
*Хутка падмяніць яе пара.*
*Свечкамі згасаюць*
*Нашы дні.*
*Сохне ў дрэва вечнасці*
*Кара.*

*Нашы зоркі дагараць,*
*І мы*
*Вернемся туды,*
*Адкуль прыйшлі.*
*Толькі сум*
*Самотны і нямы*
*Мы пакінем ціха*
*На зямлі.*

*Нам няўзмогу*
*Свой падоўжыць час,*
*Стому неадступную*
*Скарыць.*
*Памяць беспрытульная*
*Аб нас*
*Нетаропкай свечкай*
*Дагарыць.*

**З курдскай мовы пераклаў Рыгор БАРАДУЛІН**

# ТАТА, НЕ ЗАБЫВАЙ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

прыйшоў. Ён ад Канторы выходзіў краем Ясельды да Лагераў, потым міма Прадмесця. Вялікую вуліцу для надзейнасці абмінаў. Ці мала якую халеру стрэнеш? Не дай бог, мясцовага міліцыянта Крукоўскага. Гэты шлях быў вельмі зручны. А летам пад аховаю хмызняку, які густа рос уздоўж амаль усіх агародаў, Антонаў адчуваў сябе зусім спакойна. Яму было добра. Здавалася, трапіў у рай. Ці як гэта можна назваць? За ўсе свае трыццаць з нечым гадкоў так шыкоўна не жыў. Быццам татарскі хан. Увечары чакае Марыля, уначы — Агата. Мусіць, здагадваліся, што заглядвае і да Тафілі, і да Вольгі Кудлатай. Кожная дагледзіць, абсмокча. І адна ў адной соль ці запалкі пазычаюць. Нібыта і не бачаць, што ва ўсіх хутка жываты на нос палезуць. Яму не шкода. Мужчын пазабівала вайна. Хто дапаможа беднай жанчыне выканаць свой карысны і важны доўг перад дзяржавай і таварышам Сталіным? Ён, Антонаў. Які і да вайны раскідаў дзяцей па Маскве з вялікаю асалодаю. А, можа, і не?.. Тады вёска на яго не пакрыўдуе.

Ахоўнікі іх надта ўжо не пільнавалі. Усё было б як найлепш. Ды хлопцы пачалі лазіць па агародах і па хатах. Міліцыянт Крукоўскі гразіўся перастраляць усіх штрафнікоў, калі зловіць у вёсцы. Ледзь не забіў Краснапёрава ля першага моста на Ясельдзе. Іван, правальваючыся амаль па грудзі ў балоце, Межарэкамі выйшаў да Сімонікавага лесу і — бягом праз Пабяжыну да Канторы. З таго дня выбраў іншы накірунак — на Панасавічы. Гэта вёска далей, але міліцыянтаў не было. Наязджалі з Бярозы.

...Антонаў прачнуўся пад раніцу ў Тафілі на Прадмесці. Як толькі сеў на ложку, яна расплюшчыла вочы. Тонкія белыя рукі паклала яму на плечы. У рыжых доўгіх валасах схавала ягоны твар. Не параўнаеш яе ні з Марыляй, ні з Агатай, а тым болей з Вольгай. Што ні кажы, маладое мяса. Хоць і яны, — кожная па сабе нічога. У Тафілі цела бялюткае, як у смятане. Колькі ўжо біліся за яе хлопцы, што засталіся ў вёсцы ад вайны. Яна нікога не заўважала. Антонаў зайшоў у хату папіць вады і зачасціў. Усім адмовіла, яго прыняла.

— Дачку хочаш ці сына? — паклала галаву яму на калені.

— Як доктар скажа, — Антонаў заспяшаўся. Да пад'ёму — гадзіны паўтары. Якраз на дарогу і хвілін дзесяць паляжаць у пасцелі, каб разам з батальёнам стаць у строй.

— Адчуваю, што будзе сын. Такі ж лапавухі і непрыгожы, як і ты. Яго будуць любіць жанчыны. Вось за што, Сашка, мы цябе любім? — Тафіля не адпускала, прыхілілася да яго.

— За тое, ластаўка мая, што вас моцна люблю. Як мне гаварыла жонка лейтэнанта Востраганава: "Ты, Аляксандр, падарыў мне кветкі любві".

— Да мяне, Сашка, міліцыянт Крукоўскі чапляецца.

— Што ён хоча?

— Як усе вы...

— Лапы яму пераламаю. Я дужы. Маскоўскія барыгі навучылі любога на вушы ставіць. Так яму і перадай, менту паганаму. Я пайшоў.

— У яго наган. Хутчэй табе пераламае... Пабудзь шчэ, — Тафіля, не зважаючы, што за імі назірала з печы бабуля, ускочыла без кашулі з ложка. — Не ідзі.

— Паслязаўтра ўначы чакай...

Наваражыла яму цыганка ў саракавым на Арбаце, дзе працаваў швейцарам у рэстаранчыку: "У цябе радасць і слёзы ад жанчын. Ад рыжай прыгажуні будзеш уцякаць". Як у ваду глядзела. І не вер варажбе. Толькі пераскочыў плот, каб адразу ў гаёк і праз яго да Лагераў, — як ззаду знаёмы пісклявы голас: "Рукі за спіну!" Крукоўскі ў галіфэ, у майцы, з наганам.

— Папярэджваў цябе, жарабец. Мала табе Марылі, Агаты, Вольгі Кудлатай? Да Тафілі лазіш... Папярэджваў?!. Ты — паганы штрафнік! Гэта, значыцца, зэк. Маю права застрэліць. Па нашым савецкім законе. Зараз пойдзем. Крок улева, крок управа — страляю... І застрэлю, сука! Рука не дрогне.

— Я не зэк. Я — салдат.

— Ты салдат? Паглядзім, колькі адціснешся. Рука ў мяне не дрогне... Давай, раз-два, раз-два!

— У цябе не дрогне, — Антонаў стаяў да міліцыянта бокам. Справа — рукой дастанеш — парыжэлыя булавы трыснёгу. За імі цёмны, увесь у траве гаёк. Ад ментаў у сваім беспрытульным дзяцінстве ён уцякаў часта — не злавілі. На фронце пад Арлом у танку гарэў — не згарэў. У Цісе тануў — выплыў. Са штрафбатам быў на перадавой — толькі сцягно драпануў асколак міны. Няўжо цяпер гэты худасочны і, мабыць, сухотны мент возьме над ім верх?

— Раз-два, раз-два, — паўтарыў за Крукоўскім, адціскаючыся ад мяккай сырой зямлі. Хопіць, павесяліў. Час і меру ведаць. — Лаві, граната! — Падхапіў грудку засохлай гразі, кінуў міліцыянту і — паляцеў у трыснёг. Вужакаю папоўз, бы пад кулямётным агнём. А праз нейкае імгненне ўжо ламаў гушчар, нягледзячы на боль. У запале выбег на грудок ля Лагераў і толькі тады прыкмеціў на левай назе кроў. Зачапіў яго Крукоўскі, зачапіў. Куля вырвала з бакавіны мяса, але косць цэлая. Антонаў адарваў ад нізу гімнасцёркі стужку тканіны, перавязаў рану. Удумаў мент яго напалохаць. "На, з'еш!" Страху не адчуваў, хоць у душы заставаўся неспакой. Дрыжыкі хваляю прабеглі па целе. Да Канторы ён ішоў, азіраючыся: не, не і гляне назад. А калі надумаў Крукоўскі на кані наўздагон?..

З таго дня Антонава з батальёна не выпускалі. Сяржант Халява без пляшкі шапнуў, сцеражыся. Як ужо Марыля з Агатаю, ды Вольга, а Тафілю сніў штоноч. І ўрэшце, напэўна, сабраўся б у вёску — хоць з сабакамі пільнуйце! Аднак неспадзявана пастроілі і паведамілі, то ў гэты дзень іхні батальён ад'язджае. Яны былі ў шынялях. Браліся замарзкі. Па холадзе ісці да станцыі і няблага.

Паравозік пацягнуў вагончыкі з інструментам, розным батальённым вайсковым і гаспадарчым рыштункам. Яны выйшлі на гасцінец і няспешна падаліся ўслед. Мінавалі Падверб'е, другі мост на Ясельдзе. Ля першага моста, нядаўна адрамантаванага свежымі дошкамі, батальён як спатыкнуўся. Ад галавы неспадзеўкі ўспыхнуў і пакаціўся па калоне смех.

— Эй, Антонаў, сюды! — гукаў і махаў рукою Халява.

Што там ужо каму спатрэбіўся? У яго не было настрою. Зноў ускалыхнулася былая думка, дзе ж родная вёска? Мо жывыя бацькі, браты і сёстры? Дзе ж той кавалачак зямлі, на якім маці пусціла яго ў свет?

Антонаў падышоў да галавы калоны і спыніўся. Не ведаў, смяяцца альбо плакаць? Ля парэнчаў моста пасміхаліся прыбраныя ў святочнае Марыля, Агата, Вольга Кудлатая і Тафіля. Ва ўсіх на руках былі дзеці. Ён падбег да жанчын. Дрыжачымі рукамі адгарнуў з маленькага тварыка ражок коўдры, з другога, з трэцяга, з чарцвёртага. Усе былі лапавухія, як сам, з радзімкай на лобе. Хацеў бы ад іх адмовіцца, ды ўсё на тварыках...

Ён даганяў калону пад смех і жартачкі. А ззаду чулася: "Не забывай, не забывай! Не забывай нас, тата!"

эцюды

# Правінцыялы і знакамітасці

Гады тры таму назад у Віцебск завітаў знакаміты расійскі пісьменнік і праваахоўнік Андрэй Сіняўскі са сваёй спадарожніцай жыцця Марыяй Розанавай, таксама даволі знакамітай. У прыватнасці, як рэдактар парыжскага рускамоўнага часопіса "Синтаксис". А яшчэ Марыя Васільеўна — карэнная віцяблянка. Уласна кажучы, яна і была ініцыятарам гэтай паездкі ў наш горад. Сябры папрасілі наладзіць для іх экскурсію.

А да Віцебска Андрэй Данатавіч і Марыя Васільеўна пабывалі ў Маскве, дзе ў архіве КДБ пазнаёміліся нарэшце з дакументамі па справе Сіняўскага і Даніэля. На адным з іх, дарэчы, спецыяльна для турэмнага начальства, было пазначана: асуджанага выкарыстоўваць толькі на цяжкіх работах. Каб менш часу было для вальнадумства ў зняволенага будучага прафесара Сарбоны.

У цеснай легкавушцы мы ездзілі па мясцінах дзяцінства Марыі Васільеўны. Краязнаўца Аркадзь Падліпскі расказваў пра мінуўшчыну, яна дзялілася з ім успамінамі. Ціхмяны, з сівой пракуранай барадой, у палітоне вольнага крою, які нечым нагадваў світку, Андрэй Данатавіч — такі дзядулька-лесавічок — тупаў следам і нічым не выдаваў сваёй цікавасці да ўбачанага. Толькі ў канцы гэтай адметнай экскурсіі стрымана, у ціхім роздуме сказаў сваёй спадарожніцы:

— Харошы ў цябе гарадок. У мяне такога няма...



А так госць з Парыжа больш маўчаў ды курыў раз-пораз. Адзінае, што ён — відаць, у які ўжо раз — адказаў на традыцыйнае пытанне пра свой выбітны літаратурны псеўданім Абрам Тэрц, імя прайдзісвета з жартаўлівых адэскіх куплетаў. нібыта насуперак модзе некаторых савецкіх пісьменнікаў яўрэйскага паходжання браць прыгожыя псеўданімы — Эдуард Багрыцкі, Міхаіл Святлоў... З прычыны іранічнай закваскі душы ці што?

Апоўдні, калі мы ўжо аб'ехалі бадай усе куточкі старога Віцебска, я вырашыў завесці гасцей да свайго знаёмага скульптара — папіць кавы, паглядзець яго творы. Дамоўленасці не было, усё ішло адвольна, імправізавана. Таму прыйшлося пакінуць гасцей на вуліцы, а самому зайсці ў майстэрню, каб папрасіць дазволу пагасцяваць, папярэдзіць. Як заўсёды, у скульптара былі госці і, як заўсёды, — мастакі.

— Хлопцы, — звярнуўся я да сваіх знаёмцаў, — Андрэй Сіняўскі тут. Не супраць, калі мы зойдзем у майстэрню?

У адказ нязмушана-простае:

— Вядзі.

Госці агледзелі скульптуры, пагутарылі крыху з аўтарам і сышлі. Я праводзіў іх, развітаўся і вярнуўся ў майстэрню.

— Сяргей, дык гэта той Сіняўскі, што з Даніэлем быў? Пісьменнік?

— Той самы.

— А чаму ты раней не сказаў, я пагаварыў бы з ім, — звярнуўся да мяне, нібы абуджаны пасля сну, адзін ужо немаладога веку мастак.

— Я ж сказаў, як толькі зайшоў у майстэрню: Андрэй Сіняўскі...

І мы пасмяяліся. Шчыра. І па сутнасці без асаблівага жалю аб нескарыстанай непаўторнай магчымасці.

...Праз які тыдзень да нас у рэдакцыю абласной газеты завітаў знаёмы мастацтвазнаўца з такой жа сівой і не менш пракуранай барадой, чым у Андрэя Сіняўскага. Да таго ж і палітончык падобны, толькі крыху святлейшы. Але майго знаёмага не ведаў Антон, наш фотакарэспандэнт, ён пабег па кабінетах:

— Хлопцы, Андрэй Сіняўскі зноў прыехаў...

Вось і думай! Адны ніяк не могуць паверыць, што прыехаў "той самы Сіняўскі", а потым шкадуюць, што не давялося з ім пагутарыць. А гэты гатовы паверыць, што Андрэй Данатавіч можа прыязджаць у Віцебск з Парыжа хоць кожны тыдзень, і ні аб чым не хоча яго распытваць. Прыехаў — дык прыехаў, няма — дык няма. Мы тут самі з вусамі і з барадамі.

•

Аднойчы на свята паэзіі ў Віцебску прыехаў Яўген Еўтушэнка. Як заведзена, паэты чыталі вершы ля помніка Пушкіну. Па прывычцы палымяна, спеўна прачытаўшы свой твор, знакаміты паэт, маркуючы па ўсім, страціў цікавасць да гэтага мерапрыемства і "пайшоў у народ". Крышку воддаль ад помніка пачаў гартаць сшытак аднаго юнака, вучыць, як трэба пісаць. Вядома ж, утварыўся даволі вялікі натоўп, людзі пачалі прасіць аўтографы...

— Як вас завуць? — беручы з рук кніжку, перапытаў Яўген Аляксандравіч у юнай віцяблянкі (валасы па спіне вадаспадам, зграбны носік, танклявая постаць...) — Абавязкова прыходзьце на мой вечар у тэатры. Там і падпішу. Дамовіліся? — па-змоўніцку ўкрадліва і сціпшана сказаў ён.

А тым часам паэты, якія ўсё яшчэ чыталі вершы на фоне Пушкіна, пачалі сердаваць, касавурыцца ў бок маскоўскага госця ды шыкаць на яго — адцягвае ўвагу публікі, нібыта дагэтуль і не ведалі: там, дзе стане Яўген Еўтушэнка, лапік зямлі тут жа ператвараецца ў эстрадную пляцоўку. Вядома, калі ёсць гледачы ды слухачы. А іх заўсёды даволі.

Я і сам не заўважыў, як "прыліп" да паэта, наведаў у складзе яго "світы" выставу жывапісу, з наіўнай цікавасцю правінцыяла і надзеяй на пахвальбу пытаўся ў яго аб уражаннях ад Віцебска. І нават у час вячэры ў рэстарацыі з нагоды прыезду пісьменнікаў міжволі назіраў за ім.

І тут адбылася вельмі характэрная сцэнка. Пасля тоста-другога Уладзімір Някляеў выйшаў з-за стала, аб нечым пашаптаўся з рэстараннымі музыкамі, узяў мікрафон і на адным дыханні праспяваў сваю славутую "Чарачку зеляную". Яўген Аляксандравіч успрыняў гэта, як нахабны выклік. І тут жа выйшаў на абарону сваёй эстраднай тэрыторыі. Гучалі песні за песняй — спачатку больш-менш, потым з яўна фальшывымі нотамі. Каб пераканаць публіку, і без таго высокі паэт стаў нават на крэсла. Але публіка была ўжо не тая, што ля помніка, і яго мала хто



слухаў. Гаварылі пра сваё. А паэты, здаецца, былі нават задаволены: ты нас — ля помніка, мы цябе — тут.

Еўтушэнка спяваў і спяваў: можа, для той юнай віцяблянкі, якую запрасіў у рэстаран і якая сядзела поплеч, можа, проста забыўся на ўсё, як салоўка на галінцы цёплай апоўначчу...

Але ў "антракце" мы зразумелі, што паездка ў майстэрню мастака, работы якога спадабаліся паэту, не адкладваецца і не пераносіцца. А было ўжо вельмі позна.

Яўген Аляксандравіч, дарэчы, добры знаўца жывапісу, пераглядзеў усе работы, выбраў адну. І заплаціў "колькі мог", спаслаўшыся на неабходнасць яшчэ купіць білет да Масквы. Начное таксі павезла паэта ў гатэль, мы пайшлі бязлюднай вуліцай дадому.

— А я задаволены, што прадаў яму работу, — гаварыў мастак. — Няхай сабе і нядорага, ды такому чалавеку... Толькі не зразумеў, чаму ён, калі заядаў гарэлку соллю з рукі, гаварыў: "Як мексіканскія сяляне..." Што, і ў Мексіцы так?

На мяне наваліўся ўжо начны сум, размаўляць не хацелася, толькі адна думка слаба пульсавала пад такт крокаў: прыехаў дзядзька з Масквы, завёў шуры-муры з нашай чароўнай незнаёмкай, наспяваўся ўволю, карціну танна прыдбаў, а мы і рот не паспелі раскрыць. А калі і раскрылі, дык на адзін "глык" з чаркі зеляной. Як мексіканцы.

# У Парэччы выспявалі чорныя парэчкі...

Невялікія, на адзін капыл хаціны, няхітрыя, нібы зробленыя адной рукой агароджы... Мала чым адрозніваюцца нашы вёскі адна ад адной. Падобна на сваіх сясцёр і Парэчча, што на Лепельшчыне. І крапелькі пабрала. І ўсё ж менавіта тут адчуў я вясковы дух старажытнасці. Нібы прылепленыя да глебы хаткі на ўзбярэжжы, вулкі вузенькія — і дзвюм павозкам не размінуцца, як у сярэднявеччы. Камяні на вуліцы — нібы рэшткі найдаўнейшай брукаванкі пад нагой. Утульнасць уперамешку з невытлумачальнай вечаровай трывогай. Але... Яшчэ і хатавекавуха, якой, як казаў гаспадар, ужо звыш ста трыццаці. Вакенцы маленькія, з надзвя простымі рамамі, як на старых гравюрах, ледзь не пашчапаныя ўшчэнт дажджом, сонцам і часам бёрны.

І гаспадар выпетраны, як тое дрэва, калісьці налітае жывіцай, — 94-гадовы Іван Ігнатавіч Баранок, які жыве непадалёк ад котлішча Тодара Кляшторнага.

Вось тут і стаяла хата Кляшторных: здзічэлая мясціна, адно палын ды быльнёг, ды абмыты дажджамі камень з падмурка. Засох корань. А атожылкі ўзняліся. Хаты братоў Тодара — Івана ды Ягора — падобныя адна на адну ды і на ўсе астатнія ў вёсцы. Братам — хаты, Тодару — дамавіна. У лепшым выпадку — дамавіна. "Памёр 26.11.1938г." — пазначана ў даведніку "Пісьменнікі Савецкай Беларусі".

Іван Баранок — яны былі амаль што равеснікі з Тодарам — паэтам не стаў, працаваў на зямлі, аддаў ёй усю сілу, сагнуўся ў крук, пакланіўся ўсё той жа зямельцы, маўляў, дарый, што не ўрабляю, няма сілы ў руках.

Мы лёгка знайшлі хату Івана Ігнатавіча: падказала цётка, якая ішла ў той бок вясковай вуліцай. Пакуль уз'ехалі на пагорак, агледзелі аселіцу, пафатаграфавалі краявіды, цётка прымасцілася ўжо да плота на сядзібе дзеда Івана. Няўсмешлівая, негаваркая, з касаватым позіркам, якім, відаць, можна сурочыць дзіцятка ці спраўную кароўку. Так і цікавала ўвесь час за намі, нібыта чакала якой-небудзь непрыемнай дзеі ці пошасці.

А мне хацелася проста пагутарыць з дзедам, распытаць пра Тодара Кляшторнага. Іван Ігнатавіч, як водзіцца ў вяскоўцаў, крыху збянтэжыўся ад нечаканых гасцей, выйшаў з кавенькай на ганак, прысеў на лаўку.

Гаворка пайшла звычайная, проста-шчырая.

— Не бачу ўжо амаль нічога і ногі не ходзяць, — паскардзіўся стары. — Адно смертанькі ў Бога прашу. Хай бы вы жылі, а я памёр. Як кладуся спаць, дык малюся, як умею: Госпадзе, забяры мяне туды, дзе ўсе людзі ляжаць...

Уражаны гэтым выслоўем, я дастаў цыгарэты, закурыў і пачаставаў дзеда. Добрую табаку Іван Ігнатавіч учуў на нюх, давёдаўся, што курыва заморскае, і зацягнуўся рашуча, як з самакруткі.

— Праўда, смачныя, — выдыхнуў пахучы дым дзядуля. Твар яго кранула ледзь прыкметная ўсмешка.

А я ўсё думаў, як гэта сказана: "...дзе ўсе людзі ляжаць..." І мне захацелася вось так сядзець і маўчаць з дзедам, курыць і глядзець, як заходзіць, хаваецца ў вечаровай аблачыне чырвонае сонца. Але я спытаўся пра Тодара Кляшторнага.

Дзед прытушыў цыгарэту, нетаропка павярнуў галаву да суседкі, якая па-ранейшаму "вісела" на плоце, і не то параіўся, не то папрасіў падтрымкі ў хвіліну слабасці:

— А-а, скажу праўду...

І сказаў:

— Харошы быў чалавек. Для мяне харошы. Ён быў большы за мяне, вышэйшы. Памятаю, як падшыванцамі цераз канаву пераскоквалі. Дык ён смела так спіной да канавы станавіўся і скакаў. Не баяўся. А адзін раз уваліўся па самую шыю...

Вось і ўся "праўда". Ні аб чым больш не распытваў я дзеда. Прайшоў па Парэччы вузенькай вулкай, на якой, відаць, ніяк не размінуцца дзве брычкі, двое калёсаў, ці дзве гарбаркі. А тым больш — два "чорныя



вораны". Дзед Іван ведае, як запаланіў яго душу страх, які выхукнуў, нібы тытунёвы дым, на неабсяжную прастору вусаты крамлёўскі курыльшчык. Дзед Іван Баранок — амаль што равеснік Тодара Кляшторнага, Ігнатаў сын, які пражыў, лічы, поўны век і моліць Бога, каб забраў яго туды, дзе ўсе людзі ляжаць...

# Засяроджаны Фелікс

У мастака Фелікса Гумена асаблівая, надзвычай прыязная ўсмешка. Не адкрытая, а стрыманая, прытоеная ў шчотцы вусоў. Прытоеная роўна на ўсплёск іроніі пры той ці іншай размове. Людзі звычайна не любяць, калі да іх ставяцца іранічна, нават не даруюць. Але толькі не Феліксу. Па-першае, ён і да сябе ставіцца іранічна, па-другое, яго іронія ўзыходзіць на цудоўнай закваскі дабрыні. Усмешлівы, іранічны Фелікс мне вельмі знаёмы, звычны. А вось такога, як на фотаздымку, я яго бачу ўпершыню. Засяроджана-напружанага... Падчас адкрыцця выставы ў Віцебскай мастацкай школе N 1 майстра дае ўрок яе выхаванцам. Аказваецца, гэта толькі здаецца, што Гумен піша свае пейзажы і нацюрморты з надзвычайнай лёгкасцю, адным росчыркам. Гэта толькі здаецца з-за яго вясёлага нораву шчодрасці душы і неадольнага здзілення светам.

Цяжка пералічыць, колькі сваіх работ Фелікс раздарыў сябрам. Атрымалася б даўжэзная галерэя. Прычым, па сабе ведаю, гэта шчодрасць, як дзіўная набіручая хвароба, перадаецца далей. Усе акварэлі, што падарыў мне Гумен, я ў сваю чаргу раздарыў сябрам — з надзеяй і проста ў выніку невытлумачальнага ўздыму прыязнасці.

Колькі ні глядзі, а Фелікс на гэтым фотаздымку непрывычны, таямнічы. І куды падзяваліся яго весялосць ды, здавалася б, легкадумныя адносіны да жыцця, калі ён не тое што іранізуе, але смяецца з нашай апранутай у службовы кіцель "правільнасці". Толькі над яе вялікасцю Прыгажосцю ён не іранізуе. Дрыготкай, як неруш, жывой, як кропля акварэльнай фарбы. Відаць, з гэтай прычыны мастацтва яго трапяткое, як подых, і нязмушанае, як хлеб.



**Сяргей РУБЛЕЎСКІ**

*Фота А. СЦЕПАНІШЧАВА і М. ШМЕРЛІНГА*

*г. Віцебск.*

## Адзін з дынастыі

ДА 90-ГОДДЗЯ Анатоля ВОЛКАВА



**25 лістапада 1908 г. у Валянціна Віктаравіча Волкава нарадзіўся сын Анатоль. Так распачалася дынастыя Волкавых-мастакоў, вядомая цяпер не толькі на Беларусі. Тым больш, што мастакамі сталі і дзеці, і ўнукі Анатоля Валянцінавіча.**

**Валянцін Волкаў вядомы як адзін з выкладчыкаў Віцебскага мастацкага тэхнікума. Менавіта ў 1923 г. пачаў тут фарміравацца новы калектыў педагогаў, асноўнае ядро якога склалі М. Керзін, М. Міхалап, М. Эндэ, Ф. Фогт, М. Лебедзева і В. Волкаў. Усе яны мелі вопыт работы ў Веліжскай пралетарскай школе пры керамічным заводзе. Настрой на рэалістычнае мастацтва і акадэмічную школу стаў галоўным напрамкам навучання. А барацьба за рэалізм супроць фармалізму і розных непраграмных дзеянняў прывяла да таго, што былыя настаўнікі Ю. Пэн, Я. Мінін, С. Юдовін не пагадзіліся з першымі ж загадамі новага кіраўніцтва і пакінулі сцены тэхнікума.**

**Віцебскі мастацкі тэхнікум на новым гістарычным этапе рыхтаваў студэнтаў для педагагічна-мастацкай працы. Таму і вучылі іх, акрамя малявання, малярства, разьбярства, тэхналогіі матэрыялаў, тэхнічнай хіміі, керамікі, яшчэ і методыцы малявання, палітасвеце, беларускай мове і літаратуры, геаграфіі і гісторыі Беларусі, чыталі курс беларускага і еўрапейскага мастацтва. Навучанне ў тэхнікуме было разлічана на чатыры гады. Пачынаючы з другога курса рабіўся падзел на малярства і разьбярства, пачынаючы з трэцяга — па галінах прыкладнога мастацтва: керамічная і графічныя майстэрні. Скончыў тэхнікум і Анатоль Волкаў, яго выкладчыкамі былі Ф. Фогт, М. Эндэ і бацька.**

**Пасля заканчэння Анатолем тэхнікума ўся сям'я пераязджае ў Мінск. Анатоль працуе мастаком-ілюстратарам у часопісе "Вожык". Захаваліся яго сатырычныя замалёўкі жанравага і палітычнага характару, вельмі вострыя і злабадзённыя. Анатоль заўжды вылучаўся талентам "схапіць" самую характэрную рысу твару, "злавіць" момант. Нібы стоп-кадр: першакласніца перад люстэркам завязвае чырвоны гальштук ("1 верасня"). Яе твар ззяе радасцю, дзяўчынка не заўважае, што на яе глядзяць вочы не проста бацькі, але і мастака. Для Ірыны Анатольеўны гэтая работа з цягам часу набыла асаблівы сэнс: яна — сямейная рэліквія.**

**Вядомы Анатоль Волкаў і як ілюстратар беларускіх і рускіх кніг. Згадайма "Новую зямлю" Я. Коласа, "Міколку-паравоза" М. Лынькова, творы Э. Самуйлёнка, М. Багдановіча, Я. Брыля, К. Чорнага і іншых. Да пералічанага можна дадаць такія жанры графікі, як палітычны і агітацыйны плакат, цыклы акварэляў "Мінск і яго жыхары", "Юныя мінчукі", "Дваровая каманда", "Дом урада", многія з якіх увайшлі ў залаты фонд беларускага мастацтва. Анатоль Волкаў цікавіўся жыццём вайскоўцаў, маляваў партрэты танкістаў з Уручча.**

**Дарэчы, мой брат Дзмітрый захаваў свой акварэльны партрэт пэндзля А. Волкава, які быў зроблены 40 гадоў назад. Брат на ім — 18-гадовы юнак у гімнасцёрцы, на галаве — пілотка з зоркай. Для брата гэта — сямейная гісторыя, старонка яе, зробленая, як заўжды Анатолем Волкавым, па-майстэрску.**

Людміла **НАЛІВАЙКА**

ПАМЯЦЬ

# Быў адораны багата...

ЯК ЛЯЦІЦЬ ЧАС, заўважаеш больш за ўсё на фактах жалобных.

Яшчэ, нібыта, не паспеў усвядоміць рэальнасці, канчатковасці і незваротнасці самога здарэння, а вось ужо гадавіна яго. Так, мінуў год з таго часу, як вечным сном — у гарадскім аўтобусе, едучы на працу — заснуў дарагі мой сябар, мастак Мікола Шулякоўскі. А здаецца, толькі ўчора-пазаўчора ён, заскочыўшы на хвіліну, дзяліўся сваімі клопатамі па арганізацыі выстаўкі дзіцячых малюнкаў. Тады я перавёў гаворку на важнасць для яго выстаўкі персанальнай. Ён аднекваўся — маўляў, няма часу "прабіваць", ды і карціны збіраць нялёгка, а іх яшчэ абрамляць, называць... Аднак і такая ўжо выстаўка яго прайшла — з 29 ліпеня па 9 жніўня, у рэспубліканскім Палацы мастацтваў, — толькі ўжо, што называецца, мемарыяльная.

Мне, як сябру мастака з дзяцінства, каб адрэкамендаваць яго публіцы, давялося рыхтаваць адпаведнага кшталту тэкст:

*Мікалай Аляксандравіч Шулякоўскі (21.12.1952 — 30.11.1997) нарадзіўся ў Плешчаніцах, выгадаваўся ў Кобрыне; выпускнік Мінскага мастацкага вучылішча і Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута; працаваў настаўнікам, афарміцелем Мінскага камвольнага камбіната, мастаком на кінастудыі "Беларусьфільм", кіраўніком дзіцячых выяўленчых студый; сталыя гады правёў і памёр у Мінску, пахаваны ў Прылуках пад Мінскам.*

*Але, зразумела, на сухой мове фактаграфіі не перадаць таго, што складае ўяўленне пра незабыўнага Міколу Шулякоўскага як чалавека і творчую асобу.*

*Яму наканавана было жыццё кароткае і вельмі няпростае ва ўсіх адносінах. Але пражыта яно годна, плённа, прыгожа. Не прыдбаў ён ні майстэрні, ні свайго жытла, ні больш-менш прыстойных заробкаў, да самай смерці творчым заняткам яго перашкаджалі сямейныя нелады і многае іншае. Але ён і ў такіх умовах трымаўся па-людску годна, нязменна застаючыся надзіва працавітым і добрасумленным. Тыя, хто ведаў яго блізка, мелі магчымасць ацаніць, які гэта чалавек сардэчны і шчодры, як ён умее несці і распаўсюджваць дабро без разліку, што яму вернуць тым самым. Вярталі ж, дарэчы, нямногія.*

*Мікалай Аляксандравіч меў надзвычайны талент педагога і ў поўнай меры аддаваў яго, перш за ўсё выяўленчай студыі "Крынічка" Цэнтра пазашкольнай працы Кастрычніцкага раёна. Пры ім студыя атрымала званне "народнай" і тройчы пацвярджала яго. Уласна, справа не ў званні, а ў той атмасферы, якая пры такім кіраўніку панавала, развівала творчыя задаткі дзяцей.*

*Хоць і не здабыў пры жыцці належнага прызнання, М. Шулякоўскі здзейсніўся як вельмі засяроджаны і тонкі мастак. Пра гэта сведчаць яго творы, сабраныя і, дзякуючы Саюзу мастакоў і блізкім сябрам мастака, падрыхтаваныя да выставы Людмілай Львоўнай і Алесяй Шулякоўскімі.*

Такія вось агульныя, уводныя, звесткі. Але яны патрабуюць дапаўнення, удакладнення. І дзеля гэтага, магчыма, прыдатнымі будуць думкі і згадкі — хоць і дагэтуль не ўпарадкаваныя, — якія прыходзілі тады, калі я даведаўся пра страту сябра, калі прысутнічаў на пахаванні яго і на саракавінах, а затым калі аглядаў пасмяротную выстаўку і, вярнуўшыся, спрабаваў нешта занатаваць.

Найперш — пра бліжэйшае па часе.

У адносінах да выставак, асабліва пры адкрыцці, словы "гэта значная падзея" маюць неадменны, рытуальны характар і, адрасуючыся аўтару, прамаўляюцца пераважна як камплімент яму. Але ў дадзеным выпадку "герой падзеі" кампліментаў не чакаў і не чуў. Дадаткова ж атмасферу прадвызначала акалічнасць, што гэта першая персанальная выстаўка аўтара наогул і адбываецца яна пасля заўчаснай смерці. Адпаведна, тут не заўважалася ні пампезнасці, ні звыклай апошнім часам "тусовачнасці". Тым, хто на адкрыцці ходзіць, каб засведчыцца ў нейкім дачыненні да знакамітасці, бамонду, мастацкага жыцця сталіцы, гэтым разам не было спрыяльнай нагоды, бо пры жыцці аўтар шырокай вядомасці не меў і сам у прэстыжных мерапрыемствах амаль не ўдзельнічаў. Ды, нягледзячы на ўсё адзначанае, людзей сабралася многа. А сама экспазіцыя атрымалася цікавай і ўразлівай.

Я вёў знаёмства і сяброўства з Мікалаем Аляксандравічам цягам больш як трыццаць гадоў. Мы вучыліся ў адной школе (N 2 горада Кобрына), падтрымлівалі добрыя адносіны і пасля майго паступлення ў БДУ, а яго, на год раней, у Мінскае мастацкае вучылішча. Маім прытулкам тады быў інтэрнат на Паркавай магістралі, а яго — непадалёку, у каморцы адной з прыватных хат побач з цяперашнім Траецкім прадмесцем. Мне часта даводзілася бываць у тых "пенатах", сярод яго аднакашнікаў, якія цяпер сталі прызнанымі мастакамі.

Для мяне Коля Шулякоўскі — часціна юнацтва і часціна малой радзімы. Дарэчы, другое захавала значнасць не меншую, чым першае. Цяпер, пазнаёміўшыся не толькі з Беларуссю, але і з далейшым, чужым светам, зразумеў вось якую рэч: для яго светаадчування і светаадлюстравання вельмі істотны Кобрын. Для майго, відаць, таксама, але інакш. Я вясковец, і ў Кобрын мяне бацькі выправілі па навуку, а дакладней, па музычную адукацыю. Тады для мяне існавала розніца агульная: горад — усё, што невёска і не хутар. Але цяпер усведамляецца іншае: Кобрын быў асяродкам сапраўды гарадской культуры. У чым гэта выяўлялася? А хоць бы ў тым, што на сярэдзіну 60-х гадоў там, пры насельніцтве тысяч пятнаццаць-дваццаць, было тры асобныя, вельмі прыстойныя па колькасці і якасці паступленняў, кнігарні. Калі браць іншыя паказчыкі, нельга не згадаць два вялікія кінатэатры і некалькі клубаў ад прадпрыемстваў (скажам, у цэнтры, так званая "Шпулька" — ад швейнай фабрыкі). Хоць у тым узросце мяне падобнае не прываблівала, аднак заўважалася: два рэстараны, з дзесятак закусачных і сталовак, а таксама не менш піўных, дзе збіраліся наведвальнікі па інтарэсах не толькі бражніцкіх. Магчыма, цяпер некаму гэта здасца дробяззю, а то і недарэчнасцю, ды я тады зважаў і на такую акалічнасць: гараджане, у тым ліку мае таварышы па школе, шылі сабе адзенне і абутак на заказ, па модзе, карыстаючыся паслугамі — і недарагімі — прыватных краўцоў і шаўцоў. Асабліва трэба падкрэсліць, што ў Кобрыне дзейнічала вялікая колькасць розных секцый, гурткоў, творчых студый (дарэчы, мы з Колем былі ўдзельнікамі танцавальнага калектыву старэйшых школьнікаў, які выступаў на сцэне РДК). Уласна, большасць нашых равеснікаў наведвала спартыўныя секцыі барацьбы і гурткі, дзе вучылі іграць на духавых інструментах, стваралі аркестры для масавых мерапрыемстваў. А Коля, не зважаючы на прэстыж, які вызначала акружэнне, захоплена шчыраваў у выяўленчай студыі. Такая вось атмасфера выхоўвала гэтага мастака і чалавека.

Бадай, акцэнтуючы ролю Кобрына як асяроддзя, якое прадвызначала светапогляд, маральныя прынцыпы і мадэль паводзін, я магу быць суб'ектыўным. Духоўна-творчая прастора Шулякоўскага, акрамя Кобрына, ахоплівае многія іншыя каардынаты, пра што сведчаць і біяграфічныя звесткі, і тапонімы, згаданыя ў назвах карцін. Але так ці інакш, будучы выразна беларускім, светаадлюстраванне Міколы Шулякоўскага — можа, і падсвядома — як дамінантныя і асабліва знакавыя фіксавала краявіды Лагойшчыны, Міншчыны, дзе ён нарадзіўся, і Кобрыншчыны, Палесся, дзе быў узгадаваны. Адпаведна, яго карціны ўвасабляюць два асноўныя архетыпы нацыянальнага пейзажапісу. Праўда, не ў абагульненнях, умоўных сімвалах. Шулякоўскі меў, як прынята казаць, сваю прызму, а таксама вельмі акрэслены індывідуальны пункт гледжання. Яго краіны, калі можна так азначыць, тыпізацыю ландшафтных знакаў увасабляюць праз апазнавальныя знакі аўтарскай асобы.

Спрабуючы выкласці гэтую думку падрабязней, канкрэтней, звярну ўвагу на некаторыя прыватныя моманты. Шулякоўскі маляваў звычайна лес, даліну, рэчку. Зрэшты, як многія нашы мастакі. Але пры гэтым — што ўжо далёка не многім уласціва — перадаваў настрой і адпаведны матыў, які ў пэўным сэнсе можна лічыць скразным для ўсёй яго творчасці.

Прыгледзімся, напрыклад, да пісаных Шулякоўскім краявідаў лесу. У іх мы не



знойдзем паэтызацыі магутнасці лясной стыхіі. Часцей за ўсё мастак засяроджваецца на адлюстраванні ўзлеску, ускрайку і канкрэтна асобных дрэў. Іншымі словамі, гэта не сам лес, а вылучанасць з яго пры сутнаснай далучанасці. Лес, як вялікае стыхійнае зграмаджэнне, здаецца, мастака насцярожваў і ў нейкім сэнсе адштурхоўваў. Калі ж спрабаваць знайсці азначэнне настрою, які найчасцей перадаецца пейзажамі Шулякоўскага, немагчыма не зважаць на спецыфічнае пачуццё асобнасці (і адасобленасці) як дадзенасці, як наканавання. У настроі гэтым так ці інакш прарываецца сум; і ён не выпадкова-разавай, не імпрэсіўнай прыроды, а трывалы, што значыць, акрамя ўсяго — ужо падкантрольны і роздумны. Таму ён спалучаецца з — усвядомленым ці падсвядомым, неістотна — асэнсаваннем самазначнасці не ўсяго разам узятага (у прыватнасці, таго ж лесу), а частак, складнікаў, як "рэчаў у сабе" (асобных дрэў). Прычым, самазначнасць гэтая зыходна адмаўляе самадастатковасць-ганарыстасць. Бо нават дуб-адзінец, напісаны Шулякоўскім, перадае і абуджае роздум пра самоту.

Паказальна, што Шулякоўскаму ўласціва аналагічнае бачанне і некаторых іншых рэалій навакольнага свету. Так, напрыклад, экспанаваліся тры яго карціны з выявамі Белай вежы. Як вядома, гэты архітэктурны помнік, рэалія нашай малой радзімы, у беларускім мастацтве ўжо набыў пэўную эмблематычнасць з адпаведным наборам асацыяцый — значнасць гісторыі, веліч, слава продкаў і г.д. А сюжэты Міколы Шулякоўскага, што характэрна, выклікаюць асацыяцыі зусім іншыя. Вось адзін з іх: на пярэднім плане — вуліца сённяшняга Камянца, якая ні ёсць, ды з рухам, а вежа — на плане заднім; яна, нібыта і ўзвышаецца, і беллю сваёй вылучаецца, а мы найперш заўважаем яе непадобнасць да ўсяго навакольнага і ў пэўным сэнсе пакінутасць, недачыннасць да таго, што цяпер вызначае праявы жыцця.

Своеасабліва адлюстроўвае гэты мастак і водную стыхію. У назвах карцін — Мухавец, Бярэзіна, Нарач... Рэкі і азёры, вядома, прыроду сваю праяўляюць па-рознаму, а кожны з нас ужо асабістым успрыманнем вылучае больш ці менш адпаведнае, сугучнае сваёй натуры.Вада на карцінах Міколы — у натуральным спакоі, са станоўчым

уздзеяннем на акаляючы свет, на людзей, пры ўсім тым, што ў ёй моц і затоеныя магчымасці, пра якія на Кобрыншчыне папольску спявалі: "Ціха вода бжэгі рве, в які спосуб, кто то ве...". Гэта стыхія стрыманая, ураўнаважаная, але заўжды ў гатоўнасці да руху, дзеяння. Пейзажыст, заўважыўшы гэта, сузірае, суадчувае і жывапісаннем перадае гледачу мноства рэакцый, якія ў яго з'явіліся пры сузіранні і засяроджаным роздуме. У творах гэтай тэматыкі таксама нельга не заўважыць суму. Зрэшты, яго можна азначыць як жаданне, прагу спакою... У жыцці паўсядзённым недасягальнага.

У сувязі з гэтым напрошваецца яшчэ такая заўвага. Паводле майго ўспрымання і разумення, самай значнай парою дня для яго быў вечар. Але не як пара адпачынку, а як магчымасць адключыцца ад мітусні, засяродзіцца на нечым значнейшым, зрабіць нязробленае з-за мітусні. Гэта, бадай, не так, заўважаецца ў карцінах, як у жыцці. Бо, дарэчы, Коля быў з тых рэдкіх у творчым асяроддзі асоб, якія не любяць займацца вырашэннем "глабальных" грамадскіх і творчых праблем за рэгулярнымі "чаркамі чаю".

Мікола Шулякоўскі — мастак у лепшым сэнсе камерны, для якога не характэрна крайнасці, рэзкасці ні ў чым. Заўжды імкнучыся да стану ўраўнаважанага, ён стрыманы ў праяўленні эмоцый, а таксама пазбягае і тых мастацкіх сродкаў, прыёмаў, якія "зачапляюць" гледача, уздзейнічаюць самі па сабе.

Гама колераў у яго, як правіла, сціплая. Між тым, нават у халодных танах — без холаду. Падобна і з рытмікай амаль усіх сюжэтаў. Экспрэсія ўнутраная, быццам бы затоеная. Праўда, яна прарвалася ў апошні, перад самай смерцю, перыяд творчасці. Тады Коля пісаў кветкі і пакінуў надзіва ўразлівы цыкл.

На жаль, умовы жыцця Шулякоўскага былі такія, што нават бліжэйшыя сябры і калегі не бачылі яго карцін у больш-менш поўным зборы. Калі ж давялося ўбачыць, многія рабілі для сябе, можна сказаць, адкрыцці. Я таксама, аказалася, вельмі многага не ведаў. Скажам, не меў належнага ўяўлення пра Колю як партрэтыста з дарам псіхалагізму, здольнасцю тонка перадаваць характар. Не трапляліся на вочы мне і пісаныя сябрам карціны рэлігійнага зместу. Дарэчы, містычны сэнс мае засяроджанасць мастака ў апошні час на краявідзе Прылук з царквою; не без пэўнай тэатральнасці, але і з прачуласцю пісаліся ім "Дзяды", у сюжэце якіх — памінанне адной асобы. Я ведаў, што мой сябар начытаны, але і не падазраваў, што шэраг яго работ запачаткоўваўся на дачыннасці да літаратуры. Як ні дзіўна, а да мемарыяльнай выставы я мала ўвагі надаваў выразнай музычнасці жывапісных яго твораў. Выявілася і яшчэ шмат цікавага, проста не заўважанага альбо не асэнсаванага раней.

Заднім розумам адшукваюцца тлумачэнні ўсяму. У тым ліку і сітуацыі з прызнаннем альбо, як цяпер кажуць, іміджам. Даводзілася чуць: маўляў, ён не паспеў рэалізавацца. Няпраўда. Ён рэалізаваўся і па-свойму сцвердзіўся. Іншая справа, што гэта належным чынам не ацанілі. Бадай, маецца тут шэраг прычын. А найбольш уплывала, відаць, тое, што Мікола Шулякоўскі, неабыякавы і да эксперыментаў, усё ж такі быў паслядоўным прыхільнікам фігуратыўнага і традыцыйна-рэалістычнага мастацтва, якое большасцю сённяшніх крытыкаў ацэньваецца калі не з адкрытай іроніяй, дык звысокупаблажліва. Ну а выключэнні робіцца хіба што для даўно высокатытулаваных альбо для задзейнічаных у актуальна-палітычныя рухі. Да першай катэгорыі мой сябар нават узростам не паспеў дайсці, а ў палітыку не ўблытваўся прынцыпова, бо гэта не адпавядала яго натуры. Мае значэнне і тая акалічнасць, што жанр пейзажа, які найбольш любіў Коля і ў якім ён найярчэй выяўляўся, невярагодна кампраметуецца кітчам.

А мой сябар быў адораны багата як мастак і як чалавек. Прычым, у яго гэта праяўлялася неаддзельна і шчодра. Між іншым, ён заўсёды радаваўся поспехам калег, добразычліва ацэньваў нават тыя рэчы, якія не адпавядалі яго творчым прынцыпам. І яшчэ адзін, кранальны, штрышок да характарыстыкі Міколы Шулякоўскага: ён ніколі не забываўся пра дні нараджэння родных, блізкіх знаёмых і калег; з-за безлічы розных спраў і абавязкаў, якія ён сумленна выконваў, не заўсёды мог заехаць, а тэлефанаваў неадменна.

Дык вось, у дні сваіх чарговых нараджэнняў ужо многія не пачулі яго званка і віншавання, з горычу ўсвядоміўшы, што больш і не пачуюць. І шмат хто, бадай, задумаўся: мы яму раўназначнай дабрынёю, увагай і павагай адказваць не ўмелі, не паспелі.

**Іван ЧАРОТА**

ВЫСТАВЫ

# "Second second hand"

Мастацкая галерэя "Жылбел" распачала свой чарговы выставачны сезон выстаўкай маладога мінскага мастака Руслана Вашкевіча. Яго творчасць без асаблівай натугі можна аднесці як да постмадэрнізму, так і да канцэптуалізму. Ва ўсякім разе вядучыя мінскія мастацтвазнаўцы, напрыклад, член міжнароднай асацыяцыі крытыкаў Вольга Каваленка, лічаць яго надзвычай перспектыўным маладым творцам, які поўны ідэй і імкненняў іх здзейсніць. А на адкрыццё яго ўжо не першай персанальнай выставы сабралася шмат вядомых мастакоў старэйшага пакалення і зусім не канцэптуальнай накіраванасці, што само па сабе сведчыць пра прызнанне прафесійнасці Руслана і павагу да яго эксперыментаў.

Сам Руслан лічыць, што прага да эксперыментатарства прыйшла да яго яшчэ падчас навучання ў Беларускай акадэміі мастацтваў. Манументальнае аддзяленне з яго раскаванай і шматфункцыянальнай сістэмай навучання (студэнты асвойваюць асновы графікі, жывапісу, скульптуры, архітэктурнай кампазіцыі, работы ў матэрыяле), выкладанне Г. Вашчанкі, У. Зінкевіча і іншых актыўна працуючых мастакоў прывучыла да пошукаў у творчасці. Дый увогуле з асяроддзя манументалістаў часта выходзяць цікавыя творцы з арыгінальным прасторавым бачаннем.

Дыплом Р. Вашкевіча "Дом" (так званая карціна ў інтэр'еры) быў заўважаны Шведскім дабрачынным цэнтрам, і хлопцы разам з яшчэ чатырма былымі студэнтамі запрасілі на стажыроўку ў Гановер (Германія). Магчыма, менавіта там прыйшло сапраўднае адчуванне свабоды творчасці, якую Руслан шануе найвышэй за ўсё, бо перад стыпендыятамі не ставіліся камерцыйныя мэты. На жаль, вяртанне на Беларусь развеяла многія ілюзіі. Раўнадушша дзяржавы да лёсу выпускнікоў БелАМ агульнавядомае, яно балюча ўдарыла Р. Вашкевіча пасля першага замежнага поспеху, прымусіла з'ехаць на вёску і працаваць на паўмоцы. На сям'ю, не тое што на творчасць не хапала грошай. Сітуацыя змянілася пасля ўдзелу ў канцы 1996 года ў выставе "Беларттранзіт", якую арганізаваў прыватны галерэйшчык П. Цюленеў у ЦДХ у Маскве. Як і іншыя беларускія мастакі, Р. Вашкевіч меў магчымасць выставіць шэраг сваіх карцін. Выстава была заўважана, была ўхвальная прэса, каталог, цікавасць наведвальнікаў і пакупнікоў. Далей адна за адной прайшлі выставы ў Маскве (дзесяць за год), на маскоўскай ярмарцы 1997 года "АртМасква" ён заняў 2-е месца сімпатый гледачоў, адбылася персанальная выстава ў ЦДХ.

Але Руслан сам для сябе лічыць найпершым знаёмства беларускага гледача з яго новай творчасцю. Ён супраць разменьвання на дробязі, не шукае тэм для камерцыйнага поспеху ў галерэйшчыкаў, не спрабуе пацешыцца спекуляцыяй на неінфармаванасці гледача. Яго першыя цыклы работ былі больш фантазійныя, чым канцэптуальныя. Так, напрыклад, цыкл па гісторыі неіснуючых касцюмаў. Для мастака гэта было больш выпрабаванне самога сябе, праграмныя занятки на зададзеную тэму. Увасабленне ідэй, якія хвалююць мастака, прыйшло пазней — з'явіўся цыкл "Second hand", а пасля "Second second hand", які і быў прадстаўлены на выставе ў мастацкім цэнтры "Жылбел".



Руслана ўжо не так хвалюе тэхнічная дасканаласць, хаця кожны яго твор выпісаны па-майстэрску, яўна адчуваецца школа. Яна не замінае запалу яго творчасці, наадварот — дапамагае выкрышталізаваць аснову кожнай работы. Мастака не так цікавіць сама па сабе тэматыка карціны, ён шукае ў мастацкім полі тое, што існуе каля гэтых тэм. Яму хочацца прымусіць гледача пашукаць сэнс, які за назваю твора, пабачыць вядомыя рэчы ў незвычайным ракурсе, дадумаць сваё — карацей, "пагуляць". Здаецца, ён і сам гуляе з жывапісам, і атрымліваецца, дарэчы, гэта па-майстэрску — яго разглядаеш, а не крытыкуеш. А, зрэшты, прадузяты крытык знайшоў бы ў яго карцінах-"перавёртках" Гольбейна, Пікаса, Веласкеса; апаганьванне асноў класікі, у лепшым выпадку — рэмейкі, перакруткі вядомых работ. Але сам Руслан лічыць, што найвышэй за ўсё быў — Творца, "hand" вядомых мастакоў старажытнасці толькі выконвае волю першай рукі і таму заўжды ёсць "second", ну а сам Руслан у сваім праекце аперыруе ўжо існуючымі вобразамі і сімваламі мастацтва, пры гэтым дамагаючыся сваёй непрысутнасці ў карціне. Таму ён ёсць "second second". Іначай — працяг ідэі новага выкарыстання вядомых рэчаў. Але ж калі адкінуць непатрэбныя амбіцыі і пагуляць разам з мастаком — цікава стане паўзірацца ў люстэркавы адбітак "Дзяўчынкі на шары", пасмакаваць незвычайны ракурс карціны Гольбейна, які на фоне дзвюх постацей вучоных і акаляючых іх рэчаў падаў расцягнуты ў прасторы чэрап. Руслан так павярнуў выяву карціны, што чэрап "сабраўся" ў першапачатковы выгляд. Можа, гэтым ён угадаў невядомую ідэю самога Гольбейна, калі і людзі, і рэчы іх часу падаюцца ценямі, а чэрап — адзіна вечны?

У сваіх работах малады мастак працягвае ідэю мінулай выставы, дзе паспрабаваў у выявах рукі даць уяўленне пра паняцці двайчыннасці і парнасці. Цяпер ён шукае новы вобразны шэраг. Акрамя перафразаў вядомых майстроў, мастак прадставіў новыя праект, прысвечаны Ван Гогу (дзе некалькі розных мастакоў зрабілі партрэт М. Нацэўскага, вельмі падобнага знешне на Ван Гога). Руслана Вашкевіча цікавіць ракурс позірку зверху на дзяўчыну, што кружыцца ў танцы на фоне ценю арла ("Белы вальс"); коннік, які забівае змея, што стварае верхні план футбольнага поля, за якім таксама зверху бачыш гуляючых чалавечкаў ("1:0"); твар, распластаны парна паабапал блюда ("Цыганскі бог"); фігура жанчыны, што падзелена на два палотны ("Манія праследавання").



*"Дзяўчынка на шары наадварот", 1998 г.*

Падаецца, што адбыўся новы творца, які працуе на зрэзе культуралагічных пошукаў, спрабуючы падштурхнуць нас да развагі.

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

УГОДКІ

# Прадказаў сталіцу Беларусі

І хто, вы думаеце? Пісьменнік, публіцыст, этнограф і тэатральны крытык Павел Шпілеўскі. Менавіта ён першым у свой час выказаў такое пажаданне: "Мінск належыць да ліку вялікіх і прыгожых гарадоў і ў сапраўдным сваім добраўпарадкаванні і абноўленым выглядзе, пасля пажару 1835 года, можа быць названы сталіцай Беларусі: ён больш прасторны і франтаваты, чым Магілёў і Віцебск".

А з дня нараджэння Паўла Міхайлавіча споўнілася 175 гадоў (пражыў няшмат, памёр 29 кастрычніка 1861 года). Родам з вёскі Шыпілавічы Бабруйскага павета (цяпер Любанскі раён), дзе яго бацька быў святаром. Вучыўся ў Мінскай духоўнай семінарыі, якая, хоць і называлася так, да 1840 года знаходзілася ў Слуцку, там — у Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Змалку захапіўся фальклорам. У 1845 годзе, будучы на другім курсе семінарыі, даслаў у Аддзяленне рускай мовы Расійскай акадэміі навук складзены ім слоўнік беларускай мовы, а праз год апублікаваў сваё першае самастойнае даследаванне "Беларускія паданні".

Свайго роду працягам гэтай працы стала "Даследаванне аб ваўкалаках на падставе беларускіх паданняў", у якім П. Шпілеўскі ўзнімаў голас у абарону Бацькаўшчыны: "Беларусь так багата паданнямі, легендамі, прымхамі і забабонамі, што, ведаючы пра ўсё гэта, міжволі шкадуеш, чаму да гэтага часу нашы вучоныя не хочуць звярнуць увагі на гэты край і вывучыць яго ва ўсіх галінах айчыннай старасветчыны... На старонках нашых часопісаў пастаянна з'яўляюцца розныя даследаванні пра старажытныя Афіны і Рым, касцюмы, звычаі і нават пра іх жыхароў... А старажытнасці Заходняй Расіі, асабліва ж Беларусі, як быццам лічацца амаль нічога не вартымі... Не ведаю, чым растлумачыць такую абыякавасць нашых вучоных да Беларусі".

Чарговыя працы П. Шпілеўскага — "Народныя прыказкі з тлумачэннем паходжання і значэння іх", "Беларускія прыказкі", "Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках"... А пачынаецца "Беларусь..." з узнёслага, паэтычнага ўступу: "Ёсць у нас на Русі вялікі край, між Днепрам і Заходняй Дзвіной: яго завуць Беларуссю... Жывуць там людзі беларускія, нашчадкі старажытных крывічоў і дрыгавічоў..."

Тут жа, ва ўступе, П. Шпілеўскі зрабіў вельмі важны заход. Не ўсе, бадай, ведаюць, што да яго тэрмін "Беларусь" звычайна атаясамліваўся толькі з Магілёўскай і Віцебскай губернямі. А Мінская і Гродзенская лічыліся літоўскімі. А да ўсяго існавала блытаніна з "беларускім", "літоўскім" і "польскім" паняццямі. Тым самым не было дакладнага ўяўлення аб этнічных межах Беларусі. І вось П. Шпілеўскі абараняе ісціну: "Пры гэтым лічу патрэбным заўважыць, што пад Беларуссю я разумею губерні: Віцебскую, Мінскую, Магілёўскую і частку Смаленскай..."

У 1853 годзе Павел Міхайлавіч вырашыў накіравацца ў экспедыцыю па Беларусі. На працягу трох гадоў яго падарожныя матэрыялы публікаваліся па меры гатоўнасці ў часопісе "Современник" пад назвай "Падарожжа па Палессі і Беларускім краі". На працягу 1853—1855 гадоў было надрукавана 13 гісторыка-этнаграфічных і публіцыстычных твораў. Працягам "Падарожжа..." сталі працы "Мазыршчына", "Заходнерускія нарысы", "Паездка ў заходнія губерні".

Нельга не згадаць і іншыя працы П. Шпілеўскага, у якіх закранаюцца розныя аспекты беларускай даўніны. Па сённяшні дзень не страціла сваіх вартасцяў "Апісанне пасольства Льва Сапегі ў Маскву ў 1600 годзе", напісанае на падставе рукапісу, адшуканага на Слонімшчыне. Расказаў П. Шпілеўскі пра толькі што адкрыты Віленскі музей старажытнасцяў і яго заснавальніка Я. Тышкевіча ("Археалагічная знаходка"). У "Нарысах Жмудзі", у прыватнасці, гаворыцца пра старажытнае Крэва і мясцовы замак, узнаўляюцца важныя факты з жыцця беларускага народа, калі Беларусь уваходзіла ў склад ВКЛ.

Як публіцыст, крытык П. Шпілеўскі ярка раскрыўся, калі ў 1856—1859 гадах выступаў у "Театральном и музыкальном вестнике", а ў 1857 годзе пачаў весці ў часопісе "Сын Отечества" "Дзённік знаёмага чалавека". Праз год з гэтым "Дзённікам..." перайшоў у часопіс "Иллюстрация".

Пакінуў аб сабе след і як празаік, напісаўшы некалькі апавяданняў і аповесць "Цыганя", адрасаваную дзецям. На мастакоўскім рахунку П. Шпілеўскага і драматургічны твор, выдадзены асобнай кніжкай у 1857 годзе. Дакладная назва яго такая: "Дажынкі. Беларускі народны звычай. Сцэнічнае прадстаўленне ў двух дзеяннях, з хорамі, песнямі і танцамі беларускімі".

Калі ж падсумаваць гаворку пра гэтага выдатнага творцу, трэба пагадзіцца з Іванам Цішчанкам: "Фальклорна-этнаграфічныя працы П. Шпілеўскага пры ўсіх іх выдатках былі сапраўдным адкрыццём беларускага краю для рускай грамадскасці. І яшчэ што важна, сам аўтар выступаў гарачым патрыётам зямлі, на якой нарадзіўся і вырас. З часоў Ф. Скарыны тэма беларускага патрыятызму не гучала з такой сілай і грамадзянскасцю".

З адным удакладненнем — і тэма нацыянальнага адраджэння.

**Ян КРЫВІЦКІ**

СПАДЧЫНА

# "Не магу на гэта глядзець..."

## ПАДАРОЖЖА Ў ГАНЬБУ

Ізабэла Чацвярцінская ехала ў родны Жалудок. (Цікава, як яе звалі маленькай, калі яна жыла ў гэтым самым Жалудку пры Польшчы?). На перазнятых здымках мы бачым чатырохгадовую дзяўчынку то адну ў пышнай сукенцы, то на руках у маці, то ў бацькі на каленях. Бацька з вусікамі і страшэнна падобны на маладога Купалу. Князь пражыў не сказаць каб шчасліва (якое шчасце ў эмігранта?), але доўгі век і памёр некалькі год таму. Ізабэла памятае, як бацька ехаў на вайну. На кані, як і належыць высакароднаму пану. А быў жа на валасок ад смерці: ягоны полк ледзьве не адправілі ў Катынь. Дзед загінуў у фашысцкім канцлагеры. Род рассеяны па свеце: хто ў Канадзе, хто ў Швецыі... Сама пані Чацвярцінская прыжылася ў Бельгіі, мае 15 унукаў, не так даўно урачыста адзначыла 40-годдзе шлюбу. Акрамя таго, яна набыла высокі статус: стала Дамай Мальтыйскага Ордэна, а неўзабаве і першым сакратаром пасольства гэтай дабрачыннай арганізацыі.

Родавы маёнтак яна наведала ў 1993-м годзе. Перад тым на радзіме ў цяперашнім Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці пабываў ейны кузэн, князь Альберт Святаполк-Чацвярцінскі.

Высокая госця адразу выявіла слабае месца Жалудка: там, па словах галоўнага ўрача Г. Косткі, два гады прабівалася і сем будуецца трохпавярховая бальніца. Зараз персанал ужо рыхтуецца да ўлазін, а тады будоўля толькі разгортвалася. За гэты час грамадзянка Бельгіі неаднаразова дапамагала бальніцы медыкаментамі, перавязачным матэрыялам, сантэхнікай, асвятляльнымі прыборамі.

У 97-м годзе пані Чацвярцінская прыехала на Беларусь ужо не адна, а з паўнамоцным паслом ордэна, іх прыняў прэзідэнт. Беларусь увайшла ў лік 88 краін, з якімі ордэн (а ён лічыцца дзяржавай) мае дыпламатычныя адносіны.

Візіты дамы не праходзілі без таго, каб зірнуць на гняздо маленства. Перш у ім размяшчалася вайсковая часць, і палац захоўваўся ў нармальным стане. Канверсія і ад'езд вайскоўцаў азначалі пачатак канца для помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння: яго ўзяло на баланс Лідскае прадпрыемства "Конус", папросту кажучы — ваенны завод.

У няпаленай вясковай хаціне, якая лічыцца паліклінікай, размясціліся госці і гаспадары. Госці — гэта пан пасол Мальтыйскага Ордэна з пані Чацвярцінскай, старшыня таварыства Беларусь—Бельгія Т. Антановіч, супрацоўнік Дома дружбы, перакладчык Зміцер Хадакоў. Сярод гасцей былі спамянуты галоўны ўрач бальніцы, намеснік старшыні Шчучынскага выканкама І. Сакалоўскі, раённы архітэктар Б. Доста, дэпутат Нацыянальнага сходу М. Бекіш, дырэктар Шчучынскага завода "Аўтапровад" А. Сімановіч, супрацоўніца райгазеты Т. Ступакевіч. Кашу заварыў, г. зн. выклікаў пані з Бельгіі (кажуць, знайшоў адрас цераз Інтэрпол) мясцовы краязнаўца Уладзімір Іванавіч Глаз. Толькі з мястэчковага начальства нікога за сталом перамоў не было.

Калі коратка, перамовы тычыліся таго, хто і якія грошы зможа даць на выратаванне маёнтка. Але перш неабходна — закон прадугледжвае такі момант — забраць яго ў нядбайнага гаспадара. Пані Чацвярцінская не прэтэндуе на права ўласнасці, яна хацела б, каб адноўлены палац служыў сацыяльным мэтам. Якім іменна — тут погляды разышліся. Прадстаўнік раённай улады лічыць пажаданым мець у вобласці яшчэ адзін рэабілітацыйны цэнтр для хворых дзяцей. Дэпутат з краязнаўцам бачылі б у палацы Дом міласэрнасці шырокага профілю імя Чацвярцінскіх і музей старажытнага роду. Пан пасол прапанаваў у рамках праекта, ажыццёўленага ўжо ў Літве і Эстоніі, размясціць у Жалудку цэнтр для падрыхтоўкі сацыяльных работнікаў. Сама пані разважала наконт адпачынку дзяцей у летні час. Усе праекты добрыя, адна няўдобіца: адкуль грошы ўзяць? Мясцовыя разводзілі рукамі, маўляў — няма і не прадбачыцца. Аднак пры ўмове, што грошы знойдуцца, можна палацава-паркавы комплекс у "Конуса" забраць. Ці праз суд, ці нават і да суда не дойдзе: тыя самі радыя пазбавіцца. Ордэн у асобе пасла быў як бы збоку і нічога не абяцаў (каб не падумалі, што першы сакратар злоўжывае службовым становішчам). Затое дэпутат, намеснік старшыні пастаяннай камісіі па эканоміцы, паабяцаў пастукацца ў дзверы Кабінета Міністраў ці яшчэ ў якія-небудзь, прычым аптымістычна заверыў, што "хто стукаецца, таму адчыняюць".

Сход пажвавеў, прапанова ўсім спадабалася. Намеціўся кансенсус, бліснула святло ў канцы тунеля. Заставалася адно праехацца і агледзець аб'ект агульнага клопату...



...Бетонная сцяна выглядала ўнушальна. Праз такую не пералезеш. За брамаю раслі здзічэлыя дрэвы, іржавелі пакінутыя армейскія грузавікі. Бліжэй да высокага, ладнага палаца (праект італьянца Марконі) рассеўся, падобны на дагістарычную жывёліну, танк-цягач. На даху раслі велікаватыя ўжо дрэўцы, карынфскія калоны па цэнтры пачалі абсыпацца. Правы край фасада выглядаў няблага, але вокны без шыбін не абяцалі нічога добрага.

Мы зайшлі ў хол калісьці дзівоснага княжацкага дома. Такога вы не пабачыце ў страшным сне. Здавалася, палац абстралялі няйначай з гарматы — настолькі ён пашкоджаны знутры. Гулялі скразнякі, пад вінтавой стромкай лесвіцай, як на барыкадзе, грувасціліся скрыні з кінутым вайсковым жалеззем. Разабраны паркет, горы друзу, рэзрух, подых смерці.

Калі мы, агаломшаныя, стаялі пасярод былой парадней залы, за расчыненымі насцеж аканіцамі знадворку раптам палілася вада. З бясхмарнага неба! Вада падала з шумам, заліваючы сцяну, ветрам яе заносіла ў пакой. Ад гэтага халоднага душу патыхала нерэальнасцю. З глыбіні свядомасці — ці падсвядомасці — ўсплылі кадры з фільма "Сталкер": там таксама лілося і цурчэла невядома адкуль — у зоне, дзе пабывалі прышэльцы.

Аказваецца, гэта пералівалася воданапорная вежа на даху. Мяркуючы па рыжай, пашкоджанай сцяне, яна пералівалася пастаянна. На грамадзянку Бельгіі мы стараліся не глядзець. На ёй, як кажуць, н е  б ы л о  т в а р у.

Адказны за парадак некуды збегаў, ваду перакрылі.

На адыходзе, не стрываўшы, дэпутат звярнуўся да другога вартаўніка:

— Ты ж бы хоць дрэвы з даху ссек!

Адказ быў лаканічным:

— А нам за гэта не плацяць.

Уладзіміру Іванавічу таксама ніхто не плаціць, падумала я. А ён у свае семдзесят з нечым ужо два гады абівае парогі начальства ўсіх узроўняў, піша, стукаецца, крыкам крычыць: ратуйце спадчыну, яна гіне!

Удумайцеся: гіне спадчына, якая а х о ў в а е ц ц а  д з я р ж а в а й!

— Бясхозны, няма гаспадара, — зноў разводзіць рукамі прадстаўнік раёна.

Выходзіць, дзяржава — не гаспадар і "Конус" — таксама не гаспадар?

— Не магу я на гэта глядзець, — хвалюючыся, гаворыць У. Глаз. — Пакуль жыву, буду хадзіць і пісаць. Каб толькі сілу Бог даў...

Увесь парадокс сітуацыі ў тым, што за бетонную сцяну без спецыяльнага дазволу не пускалі нават архітэктара раёна. Хто ж і як вынес адсюль усё, што можна, нават батарэі ацяплення, выдраныя са сцен? Іх жа не перакінеш праз агароджу...

Мясцовае начальства, канечне, ведала, да якога стану даведзены помнік 18 ст., які мае гістарычна-культурную каштоўнасць. Пракуратура, кажуць, нешта спрабавала высвятляць. Дзе вынікі?.. Хто ведае, будзь той Жалудок бліжэй да Мінска — даўно б ужо знайшлі ўправу на рэжымнае прадпрыемства. Не напрамую, дык праз міністэрствы альбо парламент. Ды ці мала ў нас органаў і ўстаноў, адказных за захаванне спадчыны?

Мы выходзілі з тэрыторый маёнтка, як ідуць з пахавання, і абед наш болей нагадваў хаўтуры. І справа не ў тым, што сярод нас знаходзіўся чалавек, якому балела а с а б і с т а. Усім нам было балюча — за нядбайнасць, за абыякавасць, за дзяржаву. І за тое, што мы я к  п р ы ш э л ь ц ы на ўласнай зямлі.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*Фота С. ЯХІМЧЫКА*

# Замест падтрымкі

## ЗАЯВА СХОДУ БЕЛАРУСКАГА ХЕЛЬСІНКСКАГА КАМІТЭТА

Згодна з апошнім перапісам, насельніцтва Беларусі склала 10,3 млн. чалавек. З іх 7,9 мільёна — беларусы. 74,5 працэнта грамадзян падчас таго ж перапісу назвалі беларускую мову роднай. Пасля аднаўлення незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе 76 працэнтаў усіх першакласнікаў пайшлі ў беларускамоўныя класы (што сувымяраецца з нацыянальным складам насельніцтва). Цяпер сітуацыя кардынальна змянілася. Паводле дадзеных маніторынга лінгвістычнай камісіі БХК, беларуская мова — мова карэннага насельніцтва — дыскрымінуецца ў выніку мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі.

Беларуская мова цалкам выключана з ужывання вышэйшым кіраўніцтвам Беларусі і дзяржаўнымі чыноўнікамі, са справаводства і судаводства.

Адсутнічае праграма падтрымкі і развіцця беларускай мовы.

Назіраецца скарачэнне беларускага кнігавыдавецтва. З 5331 наймення выдадзеных у дзяржаўных выдавецтвах кніг толькі 862 падрыхтаваны на беларускай мове.

Хаваецца і скажаецца беларуская культурная спадчына. Са спісаў дзяржаўных выдавецтваў выключаны творы Васіля Быкава, па загадзе Міністэрства адукацыі са школьнай праграмы выдалены творы вядомых беларускіх пісьменніц Наталлі Арсенневай і Ларысы Геніюш.

Няма ніводнага беларускамоўнага незалежнага радыёканала, зачынена беларускамоўная радыёстанцыя "Радыё-101,2".

З пяці масавых тэлеканалаў чатыры — рускамоўныя. На адзіным беларускамоўным канале беларуская мова займае менш за палову эфірнага часу.

Мовай рэклам, шыльдаў, вывесак, вулічных надпісаў з'яўляецца руская.

Былі выпадкі затрымання і збіцця работнікамі сілавых структур людзей, якія гаварылі на вуліцы па-беларуску.

Значная частка беларускіх класаў сярэдніх школ і гімназій пераведзенаы на рускую мову навучання. Частыя выпадкі гвалтоўнага пераводу. З 1994 па 1998 год зачынена каля 500 беларускіх школ. У сталіцы няма ніводнай беларускай школы, у Гродне — адна, у Магілёве ўвогуле не было набору ў беларускія класы ў 1997—1998 навучальным годзе.

У шэрагу ўстаноў адмаўляюцца абслугоўваць грамадзян, выдаваць дакументы на беларускай мове пры запісе актаў грамадзянскага стану.

Часта чыняцца перашкоды для музычных канцэртаў і імпрэз на беларускай мове. Мясцовыя ўлады адмаўляюць музыкам у прадастаўленні пляцовак і залаў.

Беларускі Хельсінкскі камітэт робіць выснову, што дзяржаўнай уладай Беларусі праводзіцца палітыка мэтанакіраванага знішчэння беларускай мовы і культуры, фактычны этнацыд.

Такія захады ўладаў закладваюць аснову для этнічных канфліктаў, распальваюць нацыянальнае супрацьстаянне. Нельга ператвараць Беларусь у Косава!

БХК заклікае спыніць палітыку этнацыду ў адносінах да беларускага народа, распрацаваць праграму падтрымкі беларускай мовы і культуры і пачаць яе ажыццяўленне.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**

**Жана ЛАШКЕВІЧ,**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**

**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*

**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 2848-461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 2848-525, 2847-985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 2848-204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 2847-985 |
| літаратурнага жыцця — | 2848-462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 2847-985 |
| паэзіі і прозы — | 2848-204 |
| музыкі — | 2848-153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 2848-15 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 2848-462 |
| навін — | 2848-462 |
| мастацкага афармлення — | 2848-204 |
| фотакарэспандэнт — | 2848-462 |
| бухгалтэрыя — | 2366-071 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4002
Нумар падпісаны ў друк 26.11.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 6865/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12